Газэта заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991
Выдавец Рэдакцыя газэты «Наша Ніва»

# НАША НІВА

VIII год выданьня
http://members.xoom.com/Nasa_Niva

26 кастрычніка 1998 г.

№20 (117)

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

# ДЗЕНЬ БЕЗ ЧУЖОГА СЛОВА

**2 лістапада**

Яшчэ напачатку 80-х менскія студэнты-філёлягі распавядалі показку пра аднаго свайго прафэсара, выкладчыка беларускай мовы, які ў кафэтэрыі прасіў філіжанку кавы. Мажная прадавачка зьмянялася з твару й кідала прафэсару зьняважлівае «Чыво?» На што абамлелы мэтр тоненька адказваў: «Стаканчык чаю, пажалуста». Сьмяяліся студэнты ня так зь перамены мовы, як зь перамены зьместу: філіжанка кавы ператварылася ў шклянку гарбаты. Але сёньня гутарка пойдзе менавіта пра перамену мовы. Пра тое, што народ па-беларуску не гаворыць, а ў менскіх адраджэнскіх асяродках, у патрыятычных групоўках, у рэдакцыях беларускіх газэт, паміж пісьменьнікаў усё часьцей чуваць небеларускае слова. У нас няма ні падставаў, ні права, ні жаданьня выступаць у ролі моўнае паліцыі або асуджаць людзей за тое, што яны штодзённа і штогадзіну раздвойваюцца. Нас цікавіць сама зьява, калі заяўлены тэбээмавец або бээнэфавец, або майстар прыгожага пісьменства пасярод нацыянальна-адраджэнскае гаманы перарываецца на тэлефонны званок уласнаму дзіцяці, каб распавесьці, што «борщ возьмешь в большой кастрюле в холодильнике». Пасьля гэтага наш герой працягвае заўзятую дыскусію пра тое, што рабіць, каб беларускі народ нарэшце загаварыў...

«Моўная аўтаномія» — найбольш пашыраная форма існаваньня жывога роднага слова. Натуральнае моўнае асяродзьдзе яшчэ застаецца ў вёсцы, а ў вялікіх гарадах адраджэнцы гуртуюцца ў суполкі й сябрыны, каб адгарадзіцца ад вонкавага пабытовага сьвету. Досьвед апошніх дваццаці гадоў паказаў на нетрываласьць моўных аўтаноміяў, якія не разрастаюцца й не зьліваюцца, як таго можна было б чакаць, а разбураюцца звонку. Бо ўвесь час трымаць сябе ў напружаньні да зьнешняга жыцьця, у гатовасьці даць здачы вельмі цяжка. Зь іншага боку, кожнаму зразумела, што Беларусь ніколі ня стане беларускамоўнай, пакуль людзі — і гэта мусяць быць першыя людзі, прыклад для астатніх, не пераломяць у сабе той псыхалягічны бар'ер. Дзяржаўная падтрымка, законы і ўсё, што ідзе зьверху, можа мець сэнс толькі пасьля таго, як здзейсьніцца перазлом, калі на гарадзкой вуліцы сяды-тады пачуеш беларускае слова, і калі яно, слова, ужо ня будзе шакаваць публіку.

Нешта падобнае адбылося ў нас з рэлігіяй. Згадайце, як гадоў дзесяць таму прышпягваў увагу абразок у кабіне кіроўцы тралейбуса. Ага, — думалі сабе людзі, — вернік. Альбо калі бухгалтар Ніна Пятроўна сустракала суседку, таксама бухгалтара Зінаіду Васілеўну і тая на пытаньне «А вы адкуль?» адказвала: «З царквы». Для Ніны Пятроўны гэты адказ быў сапраўдным шокам. А потым пайшло-паехала.

*Працяг на старонцы 4*



*Чаму, на вашую думку, людзі, якія ў прафэсійным і грамадзкім жыцьці гавораць па-беларуску (палітыкі, пісьменьнікі і г.д.), вельмі часта ў побыце мовай не карыстаюцца?*

**ЯНКА БРЫЛЬ:**

– Мне прыходзілася спатыкацца з гэтым і на Беласточчыне, дзе між сабою спэцыялісты гавораць і пішуць па-беларуску, а дома іх хіліць на польскую. І там бышы, мне гэта заўсёды здавалася вельмі дзіўным, таксама, як і нашыя гэтыя ненармальныя пераходы. Тут, чорт яго знае, інэрцыя нейкая дурная.

Памятаю, адзін харошы беларус, на жаль яго ўжо няма, скардзіўся мне, як ён прыйшоў зь дзіцячай экскурсіяй да аднаго вельмі паважанага пісьменьніка на дачы, нагаварыўшы паляпрзднае дзецям пра яго ўсяго добрага, а той пачаў зь імі гаварыць па-расейску. І ён кажа, быў такі жах, такі правал, што я ня ведаў, куды мне ад дзяцей дзявацца.

Гэта інэрцыя, нейкая такая бяздумная. Скажаш, а потым спахопісься, а чаму гэта я сказаў не на роднай мове. Гэта адно з наступстваў асыміляцыі, якая з двух бакоў на нас ідзе –расейскай і польскай.

**УЛАДЗІМЕР НЯКЛЯЕЎ:**

– Значыць, так лягчэй. Значыць, так у іх у сям'і наладжана. Пераважае нават не расейская мова, а мешанка нейкая. Размаўляюць, як умеюць. Гэта асаблівасьць нашага народа, які да гэтае пары ніяк ня звыкне да таго, каб стаць народам з усімі атрыбутамі, якія народ мае. Тут мы самі можам, вядома, паразважаць пра гэта, але без высілкаў дзяржаўных, палітычных тут наўрад ці што-небудзь зьменіш.

Дзень Мовы – тут ёсьць нешта ад гульні. Я асабіста ніколі нікога не заклікаю, маўляў, давайце, беларусы, гаварыць па-беларуску. Усё натуральна неяк павінна адбывацца. Калі я са сцэны, з трыбуны размаўляю так, як звык, з гэтага само сабою вынікае... І хіба іх мала заклікалі? Колькі я сябе памятаю, стаіць амаль што лямант: гіне, гіне, прападае. Гэта таксама мае і адмоўнае ўздзеяньне.

**ГЕНАДЗЬ БУРАЎКІН:**

– Гэта вельмі няпростае пытаньне і, я думаю, на такое пытаньне кожны павінен адказваць сам. Бо абагульняць вельмі цяжка. Я ведаю такіх людзей, у беларускасьці якіх ні на хвілінку не сумняваюся, але часам бываюць такія абставіны, што яны вымушаныя карыстацца расейскай мовай. А бывае й так, што блізкія й дарагія для іх людзі карыстаюцца ў побыце расейскай мовай, ня ўмеюць гаварыць па-беларуску, і з павагі да гэтых людзей, людзі, якія я ведаю, паўтараю, як абсалютна шчырых, адданых беларусаў, самі робяць выключэньне з сваіх паводзін. Я б іх за гэта ня надта караў маральна.

– Але чаму з тае самае павагі найчасьцей беларус саступае, а не наадварот?

– Што зробіш, калі і ўлада, і атмасфэра грамадзкая, і мэнталітэт беларускі спрыяюць гэтаму. Бясьсьледна цэлыя вякі не праходзяць. Бясьсьледна гэтая беспардонная русіфікатарская палітыка, якая была пры савецкай уладзе і пышным цьветам расьцьвітае цяпер, не праходзіць. Гэта вельмі непрыемная для беларусаў і Беларусі зьява. І калі я бачу, як у час сустрэчы зь пісьменьнікамі нават, калі на тэлебачаньне прыводзяць сваіх дзетак, а тыя ня ўмеюць па-беларуску гаварыць, мяне гэта і зьдзіўляе і нават, як беларуса, як пісьменьніка, абражае. Дзеці павінны, хаця б з павагі да бацькоў і да той справы, якой займаюцца бацькі, валодаць і павінны карыстацца, паважаць гэтую мову.

– На Вашую думку, якая галоўная прычына гэтага?

– Галоўная прычына ў тым, што, на жаль, наш народ ня меў дзяржаўнасьці нашай мовы вельмі доўга. А дзяржаўнасьць мовы вельмі моцна ўзьдзейнічае на штодзённыя побытавыя звычкі й стэрэатыпы. Калі б дзяржава з самага пачатку ўсюды паказвала, што яна беларуская, гэтага б не было. Але я веру, што ўсё роўна, раз мова перажыла столькі вякоў цемрадзі і ціску, то яна не памрэ, але, на жаль, такога бытаваньня, як бы мне хацелася, як бы вам хацелася, трэба пачакаць.

Прысутнасьць побач такой вялізнай суседкі, як Расея зь яе мовай, зь яе мэнталітэтам імпэрскасьці, зь яе культурай, цікавай, і ў той жа час з абсалютна масавым шавіністычным настроем, бясьсьледна прайсьці ня можа. Тым болей для беларусаў, людзей зь мяккім мэнталітэтам, мяккай душой, не ваяўнічых, не агрэсіўных.

**Размаўляў Сяргей Шупа**

# Сяргей па мянушцы «Алесь»

**З расейскім праваабаронцам, членам Эўрапарлямэнту Сяргеем Кавалёвым гутарыць Аляксандар Лукашук**

... Яшчэ ў 70-я гады, калі мы спрабавалі неяк захоўваць нашыя справы ўтайне ад КГБ, мой сябар кажа: я прыдумаў табе мянушку. Якая? Алесь. Чаму? Бо ёсьць Алесь Адамовіч, а ты —Адамавіч.

*— Ці былі Вы знаёмыя з Алесем Адамовічам?*

— Так, вядома. Пазнаёміўся я зь ім у канцы 80-х. Я вярнуўся (*зь лягеру. — АЛ*) у канцы 84-га, а ў Маскву патрапіў толькі ў 1987-м. Тады мы зь ім і пазнаёміліся.

*— Вы маеце беларускія карані?*

— Мой бацька нарадзіўся ў Заходняй Беларусі, тады гэта лічылася Польшча. Гэта была шматдзетная сям'я, але ўсе яговыя браты й сёстры маюць праваслаўныя імёны, ён адзіны Алам. Ён быў першым дзіцём, і вельмі слабым, а там было такое павер'е: калі нараджаецца слабое дзіця, трэба даць яму імя першага чалавека, тады выжыве. Калі б дзяўчынка, была б — Эва. У бацькі была кропля польскай крыві, прыкладна палова —беларускай, рэшта — расейская. А ў мяне яшчэ горш, маці — украінка.

*— На канфэрэнцыі «Форум 2000» тут, у Празе, Вы рэзка нагатыўна ацанілі палітыку Захаду і асабістую пазыцыю «вялікіх сяброў» Ельцына Біла Клінтана і Гэльмута Коля ў дачыненьні да чачэнскай вайны. Як Вам спадабаўся адказ Гэнры Кісынджэра на Ваш выступ?*

— Ніяк не спадабаўся. Мне ніколі не падабаецца, што кажа Кісынджэр. Ён паўтарыў тое самае, у чым я папракаю заходнюю палітычную канцэпцыю. Ён сказаў: так, з прынцыповых меркаваньняў трэба было рабіць тое, што вы прапануеце. Але адкуль у Амэрыцы ведаюць пра нейкую Чачню. І што такое Чачня. А тут Ельцын, лёс дэмакратыі ў Расеі!..

Лебедзь налічвае 100 тысячаў трупаў у Чачні. Я думаю, крыху меней, 80 тысячаў. Значная частка — мірныя жыхары. Калі на такой канфэрэнцыі напярэдадні XXI стагодзьдзя гавораць — ну што такое Чачня, самі разумееце... Я вам тады так адкажу: а што такое беларусы?..

*— Сяргей Адамавіч, а што такое беларусы? Для Расеі, напрыклад?*

— На гэтае пытаньне нельга адказаць. Для якой Расеі, для Зюганава, для Селязьнёва?

*— Для Прымакова.*

— Ну, дык цяперашняя Беларусь — фарпост савецкіх парадкаў, а Прымакоў спадкаемца савецкіх традыцыяў. Чаму Селязьнёў так любіць езьдзіць у Беларусь і спяваць там савецкі гімн? Бо ёсьць каму падпяваць, праўда? У Менску многія падпяваюць савецкаму гімну.

*— Хто, па-Вашаму, вінаваты ў тым, што ў Беларусі спяваюць гэты гімн — беларусы, Масква, Захад?*

— Я думаю, што заўсёды ў такіх выпадках больш за ўсё вінаватыя тыя, хто спяваюць. Але вінаватая і Масква, і Захад. Масква ўвогуле нясе адказнасьць ня толькі за Беларусь. Разумееце, жахліва тое, што адбываецца ў Менску, але што ў Сярэдняй Азіі? Калі б вы параўналі Менск з Ташкентам, дык лічылі б, што вы ў Хрыста за пазухай жывяце.

*Працяг на старонцы 6*

# АДКРЫЦЬЦЁ КШЫШТАФА ЗАНУСІ



Слухаць Кшыштафа Занусі — сусьветна вядомага польскага кінарэжысэра, публіцыста й пэдагога — адно задавальненьне. Ён шмат гадоў узначальвае Эўрапейскую Фэдэрацыю Кінарэжысэраў, кіруе студыяй «Топ» і езьдзіць па сьвеце зь лекцыямі, часьцяком не патрабуючы ўзнагароды за гэта, бо ўпэўнены, што галоўнае ў гэткіх дачыненьнях — эмоцыі, якія ён сам атрымлівае ад кантактаваньня са студэнтамі. Ягоны дом ужо прынята называць кінашколай, бо кожны рэжысэр з кожнай краіны можа прыехаць да Занусі ў Варшаву, пасяліцца ў ягоным доме на колькі тыдняў і даведацца пра тое, аб чым ані ў водным падручніку не напісана. Наведваюць яго й беларускія рэжысэры.

Кшыштаф Занусі прыехаў у Менск на адзін дзень з прэм'ерай свайго новага фільма «Брат нашага Бога», што зьняты па аднайменнай п'есе Караля Вайтылы, вядомага сьвету як Папа Рымскі Ян Павал II. Паказ фільма Польскі інстытут і фэдэрацыя «Кінаклюб», якія арганізавалі гэтую акцыю, прысьвяцілі дваццацігодзьдзю пантыфікату Яна Паўла II, якога ўвесь цывілізаваны сьвет віншаваў гэтымі днямі.

Пан Кшыштаф сустракаўся са студэнтамі філязофскага факультэту БДУ. Сьцены аўдыторыі, здавалася, спрабавалі рассунуцца, — гэтак шмат было ахвотных паслухаць знакамітага рэжысэра.

**ПРА СЯБЕ**

З паходжаньня я італьянец. У Эўропе шэсьць пакаленьняў — гэта ня вельмі шмат, таму я ведаю гісторыю свaёй сям'і на працягу мінулых чатырохсот васьмідзесяці гадоў. Продкі маёй жонкі жылі ў Расеі і на Украіне. У яе больш старадаўняя сям'я, і яна на тысячу гадоў далей ведае сваю гісторыю.

*Працяг на старонцы 7*

# Лісты ў рэдакцыю

*Паважаная рэдакцыя «Нашай Нівы»,*

*прачытаўшы ў артыкуле Мірона Менскага «Дэмантаж» абвінавачваньне Ул.Плешчанку («злоснае хуліганства, якое выдаецца выключным цынізмам і дзёрзкасьцю»), а затым: «... знаходзячыся на волі, можа пашкодзіць выкрыцьцю злачынства», ня вытрымаў, каб не напісаць вам.*

*Вы засталіся ў мяне адзіным адрасатам, зь якім можна падзяліцца меркаваньнямі, з кім можна без хваляваньняў трымаць кантакт. Ёсьць яшчэ адзін чалавек, якому я мог даверыцца, але зараз ён за кратамі па абвінавачваньні, якое пазначанае вышэй. Гэта япіскап Пётар Гушча. Разумным людзям відавочна, што карныя органы рэжыму выбіраюць асабліва актыўных людзей, якія маюць патэнцыял аб'ядноўваць вакол сябе людзей і, па сфабрыкаванай справе, хоць на нейкі час тыя імкнуцца нэўтралізаваць іх. Гэта гідка, па-д'ябальску, але зь іхнага боку — натуральна. ППРБ ім за гэта плоціць. Паўстае пытаньне: як у такіх умовах нам, нацыяналістам, сабраць арганізацыю, здольную паставіць задачу ўзяць уладу і дасягнуць яе?*

*Асабіста ў мяне ёсьць распрацаваная праграма, якая, у прынцыпе, ня ўтрымлівае нічога новага (у палітыцы таксама няма неабходнасьці выдумляць ровар), але каб пачаць яе ўвасабляць у жыцьцё, трэба аб'яднаць палітычна актыўную частку насельніцтва (у любой краіне іх ня болей за 5%), зацікавіць іх ФІНАНСАВА НА СЁНЬНЯ і АДКРЫЦЬ ПЭРСПЭКТЫВУ НА ЗАЎТРА. Адразу заначу: ня хочацца яе здаць. Здаць, як здаў БНФ ідэю Беларускага Адраджэньня пад ГБ-кантроль і даць скампрамэтаваць яе ў вачах і так забітага электарату. Хочацца заняцца сур'ёзнай справай.*

*Чаму гэта ўсё пішу вам? Таму што, прабачце, але чым хутчэй будзе расьці наклад вашае газэты, тым хутчэй рэжым яе забароніць. Гэта відавочна. Падставу тады знойдуць любую. І загнаўшы вас у падпольле, дзе, я ўпэўнены, вы будзеце ўсё роўна выдавацца, ён дасьць нацыянальнаму руху другі шанец на перамогу (першы ён даў, калі зьвязаўся з гэтай загніваючай Расеяй). Баяцца будзе чаго, і вы станеце друкаваным органам вызвольнай арганізацыі (для чаго, я лічу, і павінна існаваць газэта, прытым любая). Я ўпэўнены, у нас ва ўсіх наперадзе шмат сур'ёзнай працы. Галоўнае — не ўпусьціць шанец.*

Бывайце, V dz M

ЦІШЭЙ ВАДЫ, НІЖЭЙ ТРАВЫ...

*Некалі бесьсьмяротны Бэтховэн, наведаўшы вялікага Гётэ, сказаў: «Думаў, пабачу цара паэтаў, а ўбачыў царскага паэта».*

*Гэтыя паказальныя словы прыгадаліся, калі знаёміўся са стэнаграмай сустрэчы прэзыдэнта А.Лукашэнкі зь пісьменьнікамі рэспублікі. І мабыць таму, што рэплікі ўдзельнікаў сустрэчы выглядаюць вельмі сьціплымі, занадта стрыманымі і абачлівымі, нават нясьмелымі — як гавораць у такіх выпадках, цішэй вады, ніжэй травы. Да таго ж зьмест іх тычыўся галоўным чынам вузка «цэхавых» інтарэсаў, прычым мэркантыльнага і бытавога характару.*

*А ў нашым ужо традыцыйным уяўленьні пісьменьнік — нешта большае, чытачу хацелася б пачуць ад «інжынэраў чалавечых душаў», як раней называлі літаратараў, якой ім бачыцца наша рэчаіснасьць — станоўчыя і адмоўныя праявы ў ёй, якія праблемы іх хвалююць, што іх засмучае, а што натхняе. На жаль, нечага падобнага не адшукаць у стэнаграме сустрэчы.*

*Паказальна, што ніхто не заступіўся за С.Алексіевіч, сусьветна вядомую пісьменьніцу. Бачыце, яна ня так уяўляе чарнобыльскую трагедыю, як таго хочацца ўладам. А пісьменьнік жа мо мае права на ўласную думку і гледзішча.*

*Выключэньнем сталіся хіба выступленьні Г.Бураўкіна, Г.Далідовіча, Р.Баравіковай і В.Іпатавай, якія з болем гаварылі пра гаротнае становішча роднай мовы і наогул беларускасьці, у якім мы апынуліся, дзякуючы дзяржаўнай палітыцы.*

*Забягаючы наперад, адзначым, што гэтым выступоўцам больш і дасталося ад «бацькі» (гаспадара сустрэчы). Далібог, ніяк інакш і не назавеш гэты дыялёг, як «біцьцё хлопчыкаў».*

*Але думаецца, не дзеля таго была наладжаная сустрэча — пра гэта гаворана-перагаворана, а воз, як кажуць, ні зь месца. Уражаньне такое, што прэзыдэнту ня столькі карцела паслухаць пісьменьнікаў, колькі выказацца пра сваю сацыяльна-эканамічную палітыку, пра тое, як ён змагаецца на ўсе жылы за сувэрэнітэт і незалежнасьць дзяржавы, пра клопаты аб дабрабыце народу, у тым ліку і пісьменьніцкім. І ніякі ён не дыктатар, як гаворыць пра яго апазыцыя. Пра многае іншае гаварыў гаспадар сустрэчы, у прыватнасьці, пра тое, якая літаратура патрэбная народу. А яна патрэбная такая, каб у ёй не крытыкаваўся прэзыдэнт і ягоная палітыка, а ўсяляк падтрымліваліся, каб дапамагалі грамадзтву рухацца наперад.*

*А што родная мова апынулася ў цяжкім становішчы, у многім вінаватыя самі пісьменьнікі. Напішыце цікавы твор, — разважаў прэзыдэнт, — каб яго чытаў народ, тады паступова загавораць і ўсе па-беларуску. А пакуль гэтага няма, то дэкрэтам нельга нікога прымусіць карыстацца мовай.*

*Канечне, уся гэтая дэмагогія, як і ў іншых выпадках, засталася без адказу.*

*Як бачым, у наяўнасьці выпадак, калі галоўнакамандуючы сабраў падпарадкаваных дзеля таго, каб паслухаць іх, ды павучыць, абразуміць, паставіць перад імі задачы.*

*Пра гэта сьведчыць і вялізны тэкст стэнаграмы: бясконцыя маналёгі гаспадара і, прабачце, куцыя, ледзь не выпадковыя рэплікі выступоўцаў. (Куды толькі падзелася іхнае пісьменьніцкае красамоўства).*

*Як бы там ні было, калі напачатку з абодвух бакоў адчувалася некаторая насьцярожанасьць, то напрыканцы атмасфэра зьмянілася ў лепшы бок. Пісьменьнікі шкадавалі, што не адбылося падобнай сустрэчы раней. І будучым яны прасілі рабіць гэта часьцей, як тое было ў мінулыя часы. Прэзыдэнт абяцаў улічыць просьбу. Словам, разьвітаньне адбылося палюбоўнае, паразумеліся.*

*А на тое, што стэнаграма ўбачыла сьвет больш як праз месяц, прычым у скарочаным выглядзе, г.зн. як тое рабілася ў савецкія часы, калі партыя ведала лепш за сам народ, што яму патрэбна, ня варта зьвяртаць увагу. Мы ж і ў іншых галінах пераймаем усё «лепшае», што было ў мінулым.*

Яфім Івановіч,
настаўнік-пэнсіянэр,
выдатнік народнай адукацыі, Менск

КАШТОЎНЫ СКАРБ ЛІТАРАТУРЫ

*Факсымільныя выданьні твораў беларускіх пісьменьнікаў — каштоўны скарб літаратуры, безь якога немагчыма ўявіць росквіт культуры. Кнігі, напісаныя мілагучнай мовай, не скалечанай рэформамі 1933 году, выклікаюць інтарэс дасьледнікаў, прыцягваюць увагу чытацкай аўдыторыі, займаюць не апошняе месца на бібліятэчных паліцах. Гэта гісторыя друку, гісторыя народу мужнага, мудрага, адукаванага, ня зломленага пакутамі і зьдзекамі царскага самаўладзьдзя і ягоных пасьлядоўнікаў, які не дазваляе чужынцам ганьбіць вечныя сьвятыні і мову, непаўторны фальклёр, звычаі і абрады, герб і сьцяг, цікавую і адначасова трагічную мінуўшчыну.*

*Гартаючы старонкі першых кніг Якуба Коласа, Максіма Гарэцкага і адзінага паэтычнага зборніка*

# Ці законны рэфэрэндум пра мову?

Час аддаляе нас ад травеньскага 1995 году рэфэрэндуму, калі група ўлады, спасылаючыся на вынікі «ўсенароднага галасаваньня», скасавала дзяржаўную сымболіку беларускага народа і надала расейскай мове статус дзяржаўнай.

З гледзішча сёньняшняга дня выразна бачныя разбуральныя наступствы такой ініцыятывы ўладаў. Беларускі народ страціў сваю нацыянальную сымболіку. Замест спрадвеку беларускіх сьцяга і герба яму прапанавалі нейкія сурагаты савецкай сымболікі. Мова карэннай нацыі пачала адкрыта выцясьняцца расейскай мовай ва ўсіх сфэрах дзяржаўнага і грамадзкага жыцьця. Пазбаўленая свае сымболікі і мовы, Беларусь аказалася адрэзанай ад сваёй гісторыі і часова страціла ўсялякія арыентыры. У такіх умовах над беларускай нацыяй навісла пагроза асыміляцыі рускамоўным насельніцтвам і, як вынік, непазьбежнасьць інкарпарацыі Беларусі суседняй расейскай дзяржавай.

Аднак да апошняга часу на грамадзкае абмеркаваньне не выносілася пытаньне пра законнасьць самога рэфэрэндуму. Ніхто так і не адказаў: ці можна было праводзіць рэфэрэндум аб замене нацыянальнай сымболікі і аб прыніжэньні статусу беларускай мовы?

### Крыху гісторыі

Трэба нагадаць, што з ініцыятывай рэфэрэндуму выступіў прэзыдэнт А.Лукашэнка. Падпарадкоўваючыся ягоным настойлівым патрабаваньням, Вярхоўны Савет 12-га скліканьня прыняў пастанову ад 13 красавіка 1995 году № 3728-XII «Аб правядзеньні рэспубліканскага рэфэрэндуму па пытаньнях, прапанаваных прэзыдэнтам Рэспублікі Беларусь і мерах яго забесьпячэньня».

У адпаведнасьці з гэтай пастановай у бюлетэнь для галасаваньня былі ўключаныя наступныя пытаньні:

1. Ці згодныя Вы з наданьнем расейскай мове аднолькавага статусу зь беларускай?

2. Ці падтрымліваеце Вы прапанову аб устанаўленьні новых Дзяржаўнага сьцяга і Дзяржаўнага герба Рэспублікі Беларусь?

3. Ці падтрымліваеце Вы дзеяньні Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь, накіраваныя на эканамічную інтэграцыю з Расейскай Фэдэрацыяй?

4. Ці згодныя Вы зь неабходнасьцю ўнясеньня зьменаў у Канстытуцыю Рэспублікі Беларусі, якія прадугледжваюць магчымасьць датэрміновага спыненьня паўнамоцтваў Вярхоўнага Савету Прэзыдэнтам Рэспублікі Беларусі ў выпадках сыстэматычнага або грубага парушэньня Канстытуцыі?

Першае, другое і трэцяе пытаньні выносіліся на абавязковы рэфэрэндум, рашэньне якога зьяўляецца канчатковым, а чацьвертае — для прыняцьця кансультатыўнага рашэньня, якое мае рэкамэндавальны характар.

Напярэдадні рэфэрэндуму ў Канстытуцыйны суд зьвярнуліся дэпутаты Камісіі Вярхоўнага Савету па адукацыі, культуры і захаваньню гістарычнай спадчыны з просьбай праверыць на адпаведнасьць Канстытуцыі прапанову прэзыдэнта наконт рэфэрэндуму пра мову. Аднак Канстытуцыйны суд адмовіўся, матывуючы сваё рашэньне тым, што ў кампэтэнцыю суда не ўваходзіць праверка канстытуцыйнасьці прапанаваў прэзыдэнта, не афармленых у выглядзе прававых актаў (глядзі: Веснік Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь. 1995, №2-3, с. 68-69).

### Лічбы — не галоўнае

Як вядома, рэфэрэндум прайшоў 14 траўня 1995 году. Ягоныя вынікі былі аб'яўленыя Цэнтральнай камісіяй па выбарах і правядзеньні рэспубліканскіх рэфэрэндумаў 22 траўня 1995 году. Так, паводле афіцыйных зьвестак, у сьпісы грамадзян, якія мелі права ўдзельнічаць у рэфэрэндуме, было ўключана 7 445 820 чалавек, у галасаваньні ўзялі ўдзел 4 830 582 чалавек або 64,8%. Станоўчы адказ на першае пытаньне далі 4 017 273 або 88,3%; супраць прагаласавала 613 516 чалавек або 12,7%; 192 693 бюлетэні прызнаныя несапраўднымі (глядзі: Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. 1995, №22-23, арт. 332).

Аднак гэтыя лічбы не здымаюць пытаньня пра канстытуцыйнасьць самога рэфэрэндуму. Прычым, гэтае пытаньне зьяўляецца вызначальным, галоўным. Бо калі прызнаць, што пытаньні аб мове і замене сымболікі не маглі паводле дзейнага заканадаўства выносіцца на галасаваньне, тады «пераможныя» вынікі страчваюць сваю прававую сілу і ня цягнуць за сабою ніякіх прававых наступстваў. Іх папросту належыць забыць і аднавіць ранейшае становішча.

### Беларускую мову прынізілі незаконна

Дык ці можна было выносіць на рэфэрэндум пытаньне пра мову? Мой адказ адмоўны. І вось чаму.

Згодна з артыкулам 17 Канстытуцыі 1994 году, дзяржаўнай мовай у Беларусі абвешчана беларуская, а расейская прызнаная мовай міжнацыянальных зносін.

Тым самым, Асноўны закон краіны адназначна вырашыў пытаньне пра дзяржаўную мову. Такой зьяўляецца беларуская. Гэта значыць, што на ёй павінны былі выдавацца акты органаў дзяржаўнае ўлады, весьціся справа- і судаводзтва, навучаньне і г.д. Усе дзяржаўныя асобы, уключна з прэзыдэнтам, абавязаныя валодаць беларускай мовай.

Дамінаваньне беларускае мовы замацоўвалася і ў Законе "Аб мовах у Беларускай ССР" ад 26 студзеня 1990 году. У адпаведнасьці зь ім беларуская мова атрымала ўсебаковае разьвіцьцё ва ўсіх сфэрах дзяржаўнага і грамадзкага жыцьця. У пастанове Вярхоўнага Савету «Аб парадку ўвядзеньня ў дзеяньне Закона «Аб мовах у Беларускай ССР» былі вызначаныя нават тэрміны пераходу на беларускую мову (арыентоўна да 2000 году).

Закон «Аб народным галасаваньні (рэфэрэндуме) у Рэспубліцы Беларусь» ад 13 чэрвеня 1991 году ўстанавіў, што на рэспубліканскі рэфэрэндум ня могуць выносіцца, сярод іншых, пытаньні, якія *«парушаюць неад'емныя права народа Рэспублікі Беларусь на сувэрэнную нацыянальную дзяржаўнасьць, дзяржаўныя гарантыі існаваньня беларускай нацыянальнай культуры і мовы»* (арт. 3).

З гэтых палажэньняў Канстытуцыі і законаў краіны вынікае, што пытаньні, накіраваныя на зьніжэньне дзяржаўных гарантыяў існаваньня беларускай мовы, у тым ліку шляхам прыніжэньня яе ролі ў параўнаньні зь іншымі мовамі, ня могуць выносіцца на рэспубліканскія рэфэрэндумы. Аналягічную выснову трэба зрабіць і наконт пытаньняў пра зьмену Дзяржаўнага Сьцяга і Дзяржаўнага герба як пытаньняў, што пагражаюць неад'емнаму праву беларускага народа на нацыянальную дзяржаўнасьць.

### Справядлівасьць адновіцца

Тым самым, вынікі рэфэрэндуму што да прыданьня расейскай мове роўнага статусу зь беларускай, а таксама што да ўсталяваньня новай сымболікі — з прававога пункту гледжаньня зьяўляюцца ніякімі і падлягаюць адмене.

Як можна зьмяніць сытуацыю і як можна ануляваць вынікі рэфэрэндуму? У прынцыпе, зрабіць гэта ня так складана. Але для гэтага патрэбныя пэўныя намаганьні. Галоўнае зь іх — аднаўленьне ў краіне асноваў дэмакратыі, дзяржаўнасьці і законнасьці. Тады пытаньне пра канстытуцыйнасьць травеньскага 1995 году рэфэрэндуму непазьбежна стане на парадак дня. Новы склад Канстытуцыйнага суда, створаны дэмакратычным шляхам, можа разгледзець пытаньне пра дзяржаўную мову ў адпаведным парадку і прыняць па ім законнае рашэньне.

Пройдзе час, і сьвятыні беларускага народа — Мова, Герб, Сьцяг — зноў зоймуць сваё высокае месца, стануць увасабленьнем беларускай дзяржаўнасьці і культуры.

Міхаіл Пастухоў, доктар юрыдычных навук, прафэсар

*Казіміра Сваяка «Мая ліра», знаходзім асаблівасьці, уласьцівыя клясыкам пяра, да чаго аднясём жаданьне беларусаў заставацца свабоднымі ад прыгнёту, вучыць дзяцей грамаце, мець права на ўласны абшар зямлі, не баяцца цяжкасьцяў жыцьця, абараняць асабісты гонар, не губляць аптымізму і пачуцьця гумару. Чырвонай стужкай кантрастаў праяўлялася тая эпоха, дзе панавалі галеча і раскоша, праўда і хлусьня, дабро і зло, сквапнасьць багацеяў і нястача беднякоў, воля ды турмы з астрогамі. Папулярнымі ў творчасьці майстроў слова былі матывы «забранага краю», лірычнага настрою, пошукаў чалавекам свайго шчасьця, псыхалягічнага адлюстраваньня сялянскай долі, уплыву нацыянальнай інтэлігенцыі на людзей пры разнастайных сацыяльных выпрабаваньнях.*

*Выкарыстоўвалі ў народных школах мэтадычную літаратуру: чытанкі, падручнікі, лемантары, слоўнікі. Знакамітае Коласава «Другое чытаньне для дзетак беларусаў» цалкам пабудаванае на прыродазнаўчым і этнаграфічным матэрыяле, дзе ў якасьці неабходнага дадатку ўключаныя вершы, байкі і казкі. Вартасьць кнігі высокая і сёньня, бо дае магчымасьць пазнаёміцца са складаньнем чытанак на пачатку XX стагодзьдзя.*

*Рупіўся пра будучыню беларускай мовы Язэп Лёсік, складаючы ўжо пры савецкім часе «Сынтаксіс» і «Граматыку». Сучасныя навукоўцы, ствараючы ўласныя манаграфіі, абапіраюцца на Лёсікавы ўнікальныя працы. У падручніку на даступным узроўні выкладзена фанэтычная сыстэма матчынай мовы, якая праілюстраваная шматлікімі прыкладамі і практычнымі заданьнямі, прыводзяцца аналёгіі гукавых зьяваў зь іншых моваў сьвету.*

*Вельмі хочацца, каб цяперашнія выдаўцы, выпускаючы творы нашых суайчыньнікаў, не забывалі друкаваць тых аўтараў, якіх абмінуў шчасьлівы лёс пры жыцьці.*

**Сяргей Званар. Менск**

# МЫ Й *НЯ*МЫ

Кожны, напэўна, ставіў перад сабой пытаньне: хто й навошта я? Кожны даваў сабе свой адказ... Найчасьцей мы ставім перад сабой пытаньне паходжаньня, шукаем каранёў, вытокаў – мы блукаем у цернях мінулага, дзеля таго, каб самім сабе даказаць, што мы існуем, мы асобныя, а ня нейкая частка нечага. Але з-за імкненьня даказаць даўна даказанае і ўсім зразумелае ды відавочнае, мы губляем першапрычыну нашых пошукаў, аддаляемся ад рэчаіснасьці, зьнікаем у мінулым. Што маецца на ўвазе? Нацыянальнае Я. Гісторыя вызначыла нашае ***беларускае*** Я. Наканавана было ўвайсьці ў III-е тысячагодзьдзе не крывічамі, не ліцьвінамі, не русінамі, а беларусамі. Камусьці здаецца, што гэта ня лёс, а гвалт з нацыі. Ня думаю, факт ёсьць фактам – уся новая беларуская гісторыя прайшла пад знакам БЕЛАРУСІ. Да гэтага знаку можна дапісваць любыя найменьні: ***-Літва***, ***-Крывія*** і г.д. Адно застанецца непарушным – Беларусь.

Нашая трагедыя ў нежаданьні прымаць зьдзейсьненае, жыць у рэчаіснасьці. Мы кідаемся ў раку мінулага: ствараем ВКЛы, БНРы, хтосьці ЛітБелы. Жывем у РБ. Спадзяемся, што прачнемся раніцай і «здрасте – нет советской власти». Не атрымаецца, будзе савецкая ўласьць – датуль, пакуль будзем спаць і прачынацца ў фантомным сьвеце.

Нашая праблема ў тым, што надта далёка залезьлі ў нетры гісторыі й цяпер спрабуем гурбай тлумачыць яе на свой капыл кожны. Былі паўзьнятыя пласты эпохаў, стагодзьдзяў, усё перавярнулася з ног на галаву. Праз дзесяцігодзьдзі інфармацыйнага голаду, як паветраныя шарыкі, паўздымаліся зь нябыту, павырываліся на волю няспраўджаныя ідэі-фантомы. Як галодны чалавек накідваецца на смачную ежу, так мы накінуліся на старыя тэксты з адвечнымі ісьцінамі. Але, апрача, нас гэтыя ісьціны нікому ўжо не былі патрэбныя...

І ў той час, як мы крычалі, нас ня чулі. За нашымі сьпінамі тымчасам Нехта рабіў цёмную справу... Ён ведаў, што мы яшчэ доўга будзем мроіць і жыць у сваім фантомным сьвеце, а таму паступова дайшоў да мяжы гэтага сьвету з рэальнасьцю... і як Цэзар перайшоў Рубікон, так Ён перайшоў мяжу, за якой засталіся мы. Мы засталіся ў Фантоме, а Ён стаўся гаспадаром на рэальнай жывой зямлі. Нас пакінулі ў палоне ідэяў-фантомаў, сьветлых ідэяў пра Краіну, дзе б было Нам добра. Нас выкінулі за борт плыні жыцьця. Мы застанемся толькі ў нашых тэкстах, з нашай мовай.

Сымбалем нашага фантомнага стану сталася мова, але мы яе самі зрабілі ***такой***, спрабуючы назваць віноўцам усяго іншых, пераконваючы сябе саміх ва ўласнай рацыі. Для таго, каб выплысьці з стану фантомнага існаваньня, трэба не адмовіцца ад мовы, але зьмяніцца самім. Бо мова ня ёсьць віноўцай, але ахвярай. Заўсёды даводзіцца чуць папрокі: «Калі вы хочаце, каб вашыя думкі дайшлі да большасьці (хоць нідзе ня вытлумачаны панятак «большасьць»), размаўляйце на зразумелай мове». Гэта ня ёсьць меркаваньне рацыйнае, бо яно супярэчыць здароваму сэнсу. Нам трэба адчуць сябе на сваёй зямлі гаспадарамі. На зямлі ***Беларусі***, а не ў паветаным ***Фантоме*** (у БНР, ВКЛ, ці яшчэ дзе). Гаспадар ніколі ня будзе сумнявацца ў тым, што ён у сваёй хаце ***адзіны*** носьбіт рацыі, ён змусіць астатніх лічыцца зь ёю.

Мы сябе штучна загналі ў рэзэрвацыю, стварылі фантом «беларускае нацыянальнае меншасьці» ў Беларусі. Мы адасобіліся ад усяго сьвету – загналі сябе ў думках у мінулае, але ведаем, што жывем сёньня й тут. Чуваць стала пра аддзяленьне ад РБ, стварэньне беларускае Рэспублікі, куды перасяліліся б усе «нацыяналюгі» й будавалі б «вольную эўрапейскую Беларусь». Мы з кожным годам аддзяляемся, страчваем сваю зямлю, бо не адчуваем сябе тут гаспадарамі... Мы ніколі не пераможам без пачуваньня сябе тут гаспадарамі. Мы ніколі не пераможам, пакуль будзем бегчы ад адказу на пытаньне: «Чаго нам хочацца?» Пакуль будзем зьбягаць «у БНР», пакідаць астатніх канаць у РБ... Нам ня хочацца, нам патрэбная ўлада, бо безь яе немагчыма ажыцьцявіць свае жаданьні, немагчыма зрабіць з РБ Краіны, дзе было б нам добра. Як яе здабыць, каб потым ня страціць – гэта іншая рэч. У кожным выпадку, калі ведаеш, чаго хочаш – думаеш, як гэта зрабіць і ўтрымаць.

Краіна можа быць нашай толькі з нашаю мовай. Нашая мова – беларуская, ня наша – ***не***беларуская. Мусім пераканаць іншых у тым, што мы ёсьць тое, да чаго яны мусяць імкнуцца. Мы гаспадары гэтае зямлі – так? Так! Нашая мова гаспадарская? Не! Негаспадарская? Не! Нашая мова незаўважаная! Яе трэба зрабіць прыкметнай. Супэрмэта – гаспадарскай. Нашая мова мусіць быць усіхнай.

Мы беларускамоўныя, мы носьбіты станоўчага, рацыйнага. Яны ***не***беларускамоўныя, не такія. Яны не ў апазыцыі да нас толькі ў тым выпадку, калі яны ня нейкія асобныя, далёкія ад нас, калі нас нешта лучыць. Нас лучыць гэтая зямля, Беларусь. Мы мусім памагчы ім знайсьці сваё Я на гэтай зямлі, пазбавіцца ад часьцінкі ***не-***, стацца такімі самымі, як мы – беларускамоўнымі, беларусамі.

Мы павінны вылезьці з пыльных архіваў, з палону мінулага на сьвятло, у сёньняшні дзень, крывіцка-ліцьвінскія фантомы мусяць застацца там, толькі ў памяці, яны не павінны нас зьвязваць, жыць намі. Мы ***беларусы***. Яны (***ня***мы) павінны сысьці ад «тутэйшасьці», стацца адным цэлым з намі. Яны ***беларусы***. Яны не «рускамоўныя», няма ў нас такіх – гэта таксама фантом, міт, створаны намі дзеля супрацьпастаўленьня. Жыхарства гэтае краіны – толькі тыя, хто адчувае сябе тут гаспадарамі ў сваёй Бацькаўшчыне. Разам мы – Народ, Нацыя, Краіна. Рэшта – часовае насельніцтва, якое ведае, што яно часовае тут, іх варта пашкадаваць, бо ня маюць Бацькаўшчыны, Дому, Сям'і.

Той, хто адчувае сябе беларусам як часткай народу, грамадзянінам гэтае Краіны – той ёсьць часьцінкай нацыі. Нацыя – не біялягічны падвід, а сьведамасьць, бо няйстотна, ці ты чуваш, ці ты армянін, ці мо грэк, галоўнае трымацца Краю, у якім жывеш, не пачувацца ў ім чужынцам. Няма праблемы ў беларускамоўнасьці й небеларускамоўнасьці, бо, паўтаруся, што гэта не супрацьпастаўленьні, а велічыні: адна ймкнецца да другое. Той, хто хоць неяк спрабуе гаварыць па-беларуску, паступова перацякае з аднае сутнасьці ў іншую, набывае сваё аблічча, становіцца беларускамоўным, то ж бо 100-адсоткава сваім у Краіне Беларусі.

Мы, беларускамоўныя й небеларускамоўныя, ёсьць тэарэтычна непадзельным арганізмам, у якім ня мусіць быць супярэчнасьцяў. У гэтым арганізме няма «рускамоўных» (т. зв. «пятае калёны»), яны зьнікаюць і сыходзяць, бо застаюцца ***незаўважанымі...***

**Віктар Мухін**

# АДАМОВІЧА ІЗНОЎ СУДЗЯЦЬ

У пятніцу, 23-га кастрычніка, паэт і журналіст Славамір Адамовіч быў гатовы сесьці за краты на 15 сутак. Перад тым, як зайсьці ў кабінэт судзьдзі Савецкага раённага суда грамадзянкі Савасьцян, аўтар верша «Убей президента» купіў бохан «Нарачанскага», затэлефанаваў сябрам, выпіў 50 грамаў беларускай гарэлкі «Крышталь» і зьеў два бутэрброды з сэрвэлатам. Аднак гэтым разам абышлося. Судзьдзя Савасьцян абмежавалася кароткай размовай і абяцаньнем, што кропка ў справе будзе пастаўленая праз два тыдні.

З 14-га кастрычніка пайшоў другі год, як судовы выканаўца Качан (па сумяшчальніцтве — студэнт юрыдычнага факультэту БДУ) спрабуе спагнаць з паэта 554 тысячы беларускіх рублёў на карысьць судова-мэдыцынскіх экспэртаў, якія 17 траўня 1996 году правяралі Адамовіча на прадмет псыхічнай устойлівасьці (ініцыятарам экспэртызы быў сьледчы КГБ Сакольчык). Нагадаем, што паводле прысуду Віцебскага абласнога суда (судзьдзя Гурко) Адамовіч мусіў заплаціць яшчэ й за працу перакладчыкаў, якія па патрабаваньні падсуднага перакладалі прамовы ўдзельнікаў судовага разьбіральніцтва з расейскай мовы на беларускую. Вярхоўны Суд скасаваў гэтую вымогу аблсуда, але пакінуў у сіле іншую, ня менш абсурдную.

Славамір Адамовіч не зьбіраўся і не зьбіраецца самахоць сплачваць ніводнага рубля ўладзе, якую лічыць нелегітымнай і антыбеларускай. Таму ўлада выпісала яму яшчэ адну судовую позву, у якой былы сядзелец «амэрыканкі» названы парушальнікам артыкула 166.1 Кодэкса Рэспублікі Беларусь аб адміністратыўных правапарушэньнях і папярэджаны пра неабходнасьць 6.11.98 году ў 11 г. 30 хв. зьявіцца на адрас: Менск, Варвашэні, д. 44.

Назіральніку ад Беларускага Хельсынскага камітэту і карэспандэнту газэты «Навіны», якія прысутнічалі пры размове судзьдзі і паэта, апошні паведаміў, што 6 лістапада 1998 году ён абавязкова зьявіцца на ўказаны адрас, каб у справе №182-166.1 паставіць кропку.

P.S. Маладая сакратарка суда была прыемна зьдзіўленая, пачуўшы імя паэта. Славаміраўна — ейнае прозьвішча па бацьку.

**Едмусь Котка**

# ПАМЁР САКАЛОЎ-КУБАЙ

18 кастрычніка пасьля цяжкай хваробы пайшоў з жыцьця вядомы беларускі мастацтвазнаўца, настаўнік і мастак Генадзь Сакалоў-Кубай.

Нарадзіўся ён 23 студзеня 1942 году. У 1961-м скончыў навучаньне ў менскай Мастацкай вучэльні імя Глебава, у 1969-м — мастацкае аддзяленьне Беларускага тэатральна-мастацкага інстытуту, у 1977-м — асьпірантуру Інстытуту мастацтвазнаўства АН Беларусі. Працаваў начальнікам бюро эстэтыкі завода імя Леніна (1969-74), мастаком Менскага мастацкага вытворчага камбінату (1974-80), загадчыкам аддзела выяўленчага мастацтва Навукова-мэтадычнага цэнтру Міністэрства культуры Беларусі, з 1986 году — старэйшы выкладчык Менскага інстытуту культуры (цяпер Беларускі ўнівэрсытэт культуры). На працягу апошніх гадоў выкладаў гісторыю мастацтваў у мастацкай вучэльні імя Глебава, у Беларускай акадэміі мастацтваў, супрацоўнічаў з спэцыялістамі Інстытуту сучасных мастацтваў.

Генадзь Сакалоў-Кубай на працягу многіх гадоў выкладаў гісторыю мастацтва ў Рэспубліканскай школе-інтэрнаце імя Ахрэмчыка, дзе праявіў сябе ня толькі як таленавіты пэдагог, але й як сейбіт ідэяў нацыянальнага адраджэньня. Ён наладзіў разам з вучнямі выданьне беларускай газэты, дзе дзеці асьвятлялі падзеі з нацыянальнай гісторыі, пісалі пра лёсы нашых славутых землякоў, тлумачылі абрадавую і сэмантычную сутнасьць беларускіх народных сьвятаў. Зерне адраджэнскіх ідэяў Сакалоў-Кубай закладаў ва ўсіх студэнцкіх калектывах, дзе яму даводзілася працаваць на працягу трыццаці апошніх гадоў.

Як мастацтвазнаўца ён — выдатны спэцыяліст у галіне беларускага сармацкага партрэту, гэта й тэма яго кандыдацкай дысэртацыі, якую, на жаль, з аб'ектыўных прычынаў дасьледчык не пасьпеў абараніць. Сакалоў-Кубай аўтар болей за 200 мастацтвазнаўчых артыкулаў у беларускім пэрыядычным друку, энцыкляпэдычных і папулярызатарскіх выданьнях Беларусі.

Слынны ён у Беларусі і як выдатны мастак. Акрамя іншых твораў у розных відах і жанрах выяўленчага мастацтва, ён найбольш вядомы разам з сваім суаўтарам — жонкай Нінай Сакалоў-Кубай — як адраджэнец беларускай выцінанкі. Іх сумесныя выставы выцінанкі набылі шырокую вядомасьць.

Сакалоў-Кубай быў з самага пачатку ўтварэньня актыўным сябрам мастацкай суполкі «Пагоня», што зьяўляецца вызвольнай альтэрнатывай адміністрацыйна-пралукашэнкаўскай «машыны» Саюза мастакоў.

Яшчэ ў 80-я гады побач зь іншымі беларускімі актывістамі ён распачаў вялізную працу па вяртаньні беларускай мовы ў нашыя школы. На працягу многіх гадоў Сакалоў-Кубай займаў пасаду кіраўніка рады Таварыства Беларускай Мовы Першамайскага раёну г. Менску.

З самага пачатку ўтварэньня Беларускага Народнага Фронту Генадзь Сакалоў-Кубай быў актыўным яго сябрам і не прапускаў ніводнай ягонай акцыі.

Усе мы глыбока смуткуем з прычыны беззваротнай страты. Выказваем глыбокія спачуваньні сям'і памерлага.

**Па даручэньні сяброў і калегаў Генадзя Сакалова-Кубая — Тацяна Гаранская, Валянціна Трыгубовіч, Міхась Баразна, Яўген Шунейка, Вацлаў Арэшка, Пётра Васілеўскі, Мая Яніцкая**



# ДЗЕНЬ БЕЗ ЧУЖОГА СЛОВА

*Працяг са старонкі 1*

Штотыднёвыя радыётрансьляцыі з Чырвонага касьцёлу і штогадовыя ўсяночныя шоў у тэлевізары. Людзі прызвычаіліся да праяваў рэлігіі й рэлігійнасьці, і цяпер гэта ўжо нікога ня ўражвае. Аднак варта згадаць, што пачалося такое стаўленьне зь першых стаічных учынкаў кіроўцы тралейбуса і Зінаіды Васілеўны, якія вытрымалі тысячы неўразумелых позіркаў і сьцьвердзілі сваё права на веру.

Напэўна, тое самае мусіць адбыцца і з публічным стаўленьнем да мовы. З чаго пачаць? Хоць бы з таго, што адзін дзень пражыць па-беларуску, без чужога слова. Наш праект або, дакладней, прапанова, падтрымаць якую мы заклікаем усіх нашых чытачоў, атрымала назву «Дзень Мовы»:

**ДЗЕНЬ МОВЫ**

**2 лістапада, у Дзень памяці продкаў, у Беларусі праводзіцца Дзень Мовы. На прыклад Сусьветнай Арганізацыі Здароўя, якая раз у год праводзіць Дзень без цыгарэты, мы прапануем 2 лістапада правесьці беларускі Дзень без чужога слова.**

**Сёньня ў Беларусі ўжо тысячы людзей падтрымліваюць адраджэньне роднае мовы й нацыянальную ідэю. Але не сакрэт, што ў побыце, па-за культурніцкімі суполкамі гэтыя людзі гавораць, як правіла, не па-беларуску. Ім замінае псыхалягічны бар'ер і тая палітыка непрыхільнасьці да беларушчыны, якая ў нашай краіне праводзілася не адзін год. Чалавеку, які прагне заўсёды й паўсюль гаварыць на мове дзядоў, псыхалягічна цяжка ўвесь час, у малым і вялікім, пераадольваць супраціў асяродзьдзя, тлумачыць і даказваць, што ён мае права ў сваёй краіне карыстацца сваёй мовай.**

**Каб выправіць такое ненатуральнае становішча, мы заклікаем усіх беларусаў, дзе б яны ні апынуліся ў Дзень Мовы 2 лістапада: на вуліцы, у краме й грамадзкім транспарце, у афіцыйнай установе або ў сям'і, — гаварыць, пісаць, чытаць і слухаць толькі па-беларуску. Мы разьлічваем, што ў абвешчаны Дзень без чужога слова ў Беларусі шырэй загучыць родная мова, а ўражаньні й думкі людзей, народжаныя ў гэты дзень, патрапяць на старонкі газэт, у радыё і тэлеперадачы.**

**Дзень Мовы мусіць стаць для беларусаў Днём нацыянальнага здароўя. Мы мяркуем і надалей праводзіць такі Дзень у другі дзень кожнага месяца і спадзяемся на падтрымку ў гэтай справе ўсіх зацікаўленых асобаў і арганізацыяў.**

**«Наша Ніва»**

## *Чаму беларускія адраджэнцы ў побыце, як правіла, гавораць па-расейску?*

**Вінцук Вячорка:**

– Беларускія адраджэнцы ў побыце гавораць па-беларуску. Што да тых, якія не гавораць, тыя не адраджэнцы.

**Віктар Івашкевіч:**

– Таму што хочуць міру, а не вайны. Бо інакш у сям'і трэба ваяваць з жонкай, якая выходзіла замуж не за нацыяналіста, а за звычайнага, нармальнага чалавека. Гэта потым ён стаў нацыяналістам. І калі хто прыходзіць дахаты і кажа: усё, гаварыць буду па-беларуску, – гэта сустракае адтаржэньне. На працы – тое самае, сярод сяброў – тое самае. Яшчэ бывае ў грамадзкім транспарце, у краме… Хаця, з другога боку, хочацца ж набыць канкрэтны прадукт, а не ўстрайваць дыскусію на прадмет – што такое локшыны. І таму застаецца толькі махаць сьцягамі і крычаць «Жыве Беларусь!» у канкрэтна вызначаныя дні.

**Ігар Бабкоў:**

– Я ня ведаю такіх фактаў. Тыя людзі, якіх я ведаю, яны якраз у побыце гавораць па-беларуску. Мы можам знайсьці такія рэчы, як размовы па-расейску, але я асабіста стаўлюся да гэтага без фанатызму. Я не ўспрымаю гэта як факт, які б сьведчыў пра маральныя недахопы. Звычайна гэта традыцыя, якая склалася ў канкрэтных абставінах або ў выніку няведаньня мовы.

**Ігар Гермянчук:**

– Таму што, відаць, у сям'і астатнія члены сям'і гавораць па-расейску. Іншая рэч, што можна пераламіць гэтую сытуацыю, калі, дапусьцім, муж або жонка будуць прынцыпова да гэтага пытаньня ставіцца. Я думаю, што другі член сям'і зразумее, і будзе беларускамоўная сям'я.

– А праца, сябры…

– Тут таксама, калі сябры рускамоўныя… Калі я, дапусьцім, гавару са сваім родным братам, рускамоўным, я зь ім гавару па-руску. Я тут асаблівай праблемы ня бачу.

**Вячаслаў Сіўчык:**

– Гэта няпраўда. Беларускія адраджэнцы гавораць па-беларуску, калі яны беларускія адраджэнцы. Я па сваіх знаёмых, тых людзях, якія здаўна гэтым займаюцца, ведаю, што працэнт людзей, якія размаўляюць не па-беларуску ў побыце, дастаткова маленькі.

Мусіць, гэта якраз наадварот, тыя людзі, якія нядаўна прыйшлі. У іх ёсьць чыста псыхалягічная праблема. Таму што чалавеку дастаткова цяжка адразу зрабіць усё дакладна і правільна. Ёсьць, вядома, такія выпадкі, калі людзі, якія дэкляруюць вернасьць беларускаму адраджэньню ўжо некалькі дзесяцігодзьдзяў, у побыце карыстаюцца расейскай мовай. Але ж, наколькі я ведаю, гэта выключэньні. Іншая справа, чым яшчэ адметны рэжым Аляксандра Лукашэнкі, тым, што нават людзям, якія заўсёдна карысталіся беларускай мовай, у пэўныя пэрыяды пад ціскам прыходзілася ня ў побыце, а для таго, каб захаваць сваю свабоду, пераходзіць на расейскую мову, каб ня быць арыштаванымі. Такія выпадкі былі, у тым ліку і са мной.

**Адам Глёбус:**

– Я не лічу, што ўсе гавораць па-расейску, і што гэта правіла. Я думаю, што ўсё ж нельга так задаваць пытаньне. Я сябе таксама адношу да адраджэнцаў. Мы гаворым па-расейску, але ў душы мы ўсё адно гаворым па-беларуску.

**Зянон Пазьняк:**

– Адраджэнцы ў побыце па-расейску не гавораць. Тут блытаніна ў пытаньні.

**Размаўляў Сяргей Шупа**

# МОЎНАЯ АЎТАНОМІЯ

**Сяргей Харэўскі**

Адзін зь ясных успамінаў майго дзяцінства – цыганскі табар на менскай вуліцы Пуліхава. Звон падковаў, колаў фурманак і кібітак на бруку, коні, каровы, козы, перагукваньні дзіўных смуглявых людзей. Апошнім, што я запомніў з таго цёплага кастрычніцкага вечара, было тое, што гэтыя непадобныя да нас людзі гаварылі па-беларуску, перасыпаючы нашу мову сваімі словамі.

Значна пазьней я згадаў гэты свой дзіцячы подзіў, калі, падкідаючы нагамі жоўтае лісьце, сьпяшаўся некуды паўз парк імя Горкага. Быў будзёны дзень, зіхоткі й чысты. У парку бязьлюдна. Ажно зьнянацку мяне паспрабавала перастрэць сівая цыганка. Каб хутчэй адчапіцца, я падкрэсьлена пачаў гаварыць на мове, спадзеючыся, што яна зьбянтэжыцца. Яна ж усьлед адказала мне таксама па-беларуску. Я зьніякавеў і аддаў сваю далонь у яе сухія брунатныя пальцы. «У мяне няма грошай», – ці то сказаў, ці то падумаў. «Я ведаю…» – нібы адказала яна. Але ўсё ж паваражыла, трапна прадказаўшы мне пару маіх бліжэйшых гадоў. Я пайшоў шчасьлівы. Ад таго, што здолеў пераадолець страх. Ад таго, што ўпершыню праз беларускасьць убачыў сваю будучыню.

Цыганы й сёньня, асабліва далей ад вялікіх гарадоў, захавалі нашую мову. Чаму? Бадай таму, што яны не падпадалі саветызацыі, а таму заўсёды мелі гонар жыць і казаць гэтак, як хочацца. Яны ня ймкнуліся пазбыцца свайго, а таму й сваю беларушчыну ўспрымалі натуральна, не чытаючы ні газэтаў, ні кніг. А яшчэ таму, што заўсёды жылі купінамі, не зважаючы на лад, на ўладу, на мяшчанскія прымхі.

Беларуская мова вось ужо колькі дзясяткаў гадоў існуе менавіта як нізка купінаў сярод інакшага, не свайго сьвету. Большая ці меншая, гэта не істотна. Яна можа звацца творчым саюзам, музэем, рэдакцыяй, але перадусім яна йснуе аўтаномна. Выйсьце за межы аўтаноміі азначае пераключэньне моўнага тумблера. Беларускі пісьменьнік ушчувае ўнучка: «Не надо тебе этой игрушки, я тебе и так понакупил». Вяртаецца да стала і піша для чыіхсьці дзяцей. Па-беларуску. Вядомы выпадак? Альбо мастакі ў майстэрнях: усе суседзі свае людзі, тут і ёсьць наша беларушчына. Выйшаў у краму па батон: «чигирик-чигирик». Боязь быць незразуметым? Ці нежаданьне падацца няветлівым? Чаго папрасіць, кАВЫ ці кОФА? Непрыемна, сорамна за самога сябе, за свой сорам. Падняўся на колькі прыступак назад, і ты зноў носьбіт мовы. Усё на месцах. Пара-тройка сяброў. Любімыя касэты, кнігі, любімая газэта. Але ж трэба йзноў ісьці ў гэты нязносны, апанаваны чужымі горад. Быў бы цыганом, дык сыйшоў бы адсюль наогул.

Такія спробы сыйсьці былі. Пасесьці гуртом дзе ў Заслаўі, на летніках вакол Менску, ці аж пад Блакітныя азёры. Нехта спрабаваў усё пачаць па-новаму ў Навагарадку, іншыя – у Залесьсі (Забродзьдзі, Завосьсі, Загародзьдзі). Каб не дваіцца, не змагацца, не… паддавацца. Вось тут ціха, усе свае. «А паветра, паветра якое!» Папрыжыліся… А аднае з добрых раніцаў пачуеш: «Доброе утро! И в самом деле, хорошо тут у вас!» Быў бы цыганом, цябе б абміналі.

Самае цяжкое – стаць ня гэткім, як быў учора. Я здолеў нешта ў сябе змагчы, толькі калі пакінуў школу. Паступіў у вучэльню – нібы ўсё новае, нібы новы й я. Каб не зьбівацца з тропу, пятнаццацігадовым, прыпальваў сабе далонь запалкаю. Пакуль будзе балець – не саступлю. Але вось жа насустрач – былыя аднакашнікі: «Ты чё Серёга, в натуре? Или ты для прикола? Ну, ты маньяк!..» Быў бы цыганом – вышчарыў бы зубы, а то й пугаю…

Пасьля саветаў, калі мова пачала нешта важыць, яна, нібы вада ў паводку, выйшла зь берагоў, шырока разьлілася там, дзе й цяжка было ўявіць – па габінэтах, па пляцах, па трыбунах. Вада аднак жа спала. Мова ўвайшла ў сваё звычнае, абвалаванае рэчышча.

… Каб запрудзіць, разьліць шырока ваду, часам хапае аднаго камля, уваленага ўвадначасьсе ўпоперак плыні гуртом руплівых баброў.

Калі хоць бы ў адзін дзень, разам, не сказаць ніводнага чужога слова, можа спынілася б звычная плынь, разьлілася б шырэй?

Ці сыйсьці са СВАІМІ за небакрай, усьміхаючыся, гледзячы, як ЧУЖЫЯ адганяюць ад нас сваіх дзяцей?.. Каб не пабачыць, як, нібы пасьля таго цыганскага табару на вуліцу Пуліхава, на нашыя сьляды ляжа бэтон.

# ВАЎЧЫНАЯ ЯМА

**Васіль Быкаў**

*Працяг. Пачатак у папярэднім нумары.*

Выратоўчы іх касьцярок, зь якога яны карміліся і які грэў іх уначы і ўраньні, апынуўся карай для салдата. Ён зжыраў неймаверную колькасьць дроваў, якія ўсё цяжэй было здабываць у лесе. Мабыць, усё было б лепш, калі б яны мелі сякеру ці хоць які здатны нож ці кінжал. Але нічога з таго ў іх не было — ні ў бамжа, ні ў салдата, дровы яны мусілі здабываць голымі рукамі. Гарадзкі жыхар, салдат ня думаў, што ў лесе гэта стане праблемай. Галоўнае, калі бамж ішоў на балота, хлопец ня мог на даўгі час адлучацца зь берагу, а адлучыўшыся, кожны раз баяўся, што спозьніцца, і касьцёр згасьне.

Таго дня ён асабліва далёка й не адыходзіў. Выбраў у маладым хвойніку ссохлую елку, якая была яму пад сілу, і распачаў яе гнуцьхістаць, каб выкруціць з каранямі. Елка была не таўстая, тым ня менш давялося павалэндацца, і хлопец ажно спатнеў, пакуль управіўся зь ёю. Так і павалок цераз падлесак да рэчкі, усё трывожачыся, ці не патух касьцярок. Як ішоў, падклаў зусім трохі, магло й дагарэць.

Выбраўшыся зь лесу на абрыў, перш за ўсё зірнуў на бераг і ад зьдзіўленьня ледзьве ня выпусьціў елку — каля касьцярка плячмі да яго сядзела незнаёмая жанчына. Касьцярок быццам яшчэ трохі дыміўся, і жанчына, апранутая ў джынсовую куртку і спартовыя штаны, клапатліва падкладвала ў яго тое, што не пасьпела яшчэ дагарэць. Салдат амаль што спалохаўся, што яна можа й зусім патушыць касьцёр, і саскочыў з абрыву.

— Во падкладваю, каб не патух, — сказала жанчына звычайным, амаль як у хаце, голасам.

Не адказаўшы ёй, салдат паправіў канцы недагаркі гальля — дымок пагусьцеў, неўзабаве павінны быў паявіцца агонь: касьцярок не затухне. Гэта яго супакоіла, хаця паяўленьне жанчыны амаль затрывожыла, тым больш, што ён тут апынуўся адзін, — бамж з ранку прападаў на балоце.

— Што, рыбу ловіш? — паўзіраўшыся ў яго заклапочаны твар, запытала жанчына.

Яна была куды старэйшая за салдата, мела жвавы й востры позірк з-пад цёмных, не памаляваных брывоў; на яе вуснах таксама не было прыкметна сьлядоў памады, і яны здаваліся ня надта выразнымі на

# ТВАР КАНЯ

**Славамір Адамовіч**

*Настаўнікам Беларушчыны*

Мова – гэта больш, чым кроў.

*Франц Розэнцвайг*

Маім першым настаўнікам у Беларушчыне быў і застаецца чалавек, старэйшы за мяне ўсяго на год. Па-беларуску ён гаварыў 24 гадзіны ў суткі: на працы, дома, у забягалаўцы за кухлем піва, у п'янай кампаніі рабочых з заводу працяжных і адразных станкоў, у гасьцях у «тонкаарганізаваных» натур; па-беларуску ён трызьніў, калі быў сам нападпітку, па-беларуску заляцаўся да дзяўчат; па-беларуску лаяўся на мяне, і, нарэшце, па-беларуску спрабаваў пісаць вершы.

Майго таварыша, зь якім мы некалькі гадоў пражылі пад адным дахам, звалі Іваноў.

Яскравы прыклад суседа досыць хутка вярнуў мяне ва ўлоньне роднай мовы, якую я з часоў службы ў савецкім войску пачаў быў разбаўляць расейскай. Ужо летам 1984-га ў сваім першым дзёньніку я стаў рабіць запісы пераважна па-беларуску. Што да першых вершаў, дык яны былі выключна беларускія.

У 1985-м маё беларускамоўнае кола пашырылася. Прыйшоў у літгурток пры газэце «Чырвоная зьмена», які вяла паэтэса Рая Баравікова. Там сустрэў другую паэтку, Сьвятлану Каробкіну, а таксама паэта Віктара Шніпа, які ўжо тады любіў пісаць пра «сьмяцьцё».

У сьнежні таго ж году трапіў на літаратурны сэмінар, які праходзіў у пісьменьніцкім доме творчасьці «Каралішчавічы». Памятаю, гаварылі там пераважна па-беларуску, што, вядома, грэла душу. Але было чуваць і «русскоговорящих». Праўда, іхнае «чириканье» тады патанала ў нашым ціўканьні. Вечарамі Лявон Баршчэўскі распавядаў палітычныя анэкдоты. А знаны грак паэтычных разораў паэт Рыгор Барадулін у час калектыўнага абмеркаваньня маіх вершаў заўважыў, што радок «Я дома, пасярод жытоў» на слых успрымаецца як «Я дома, пасярод жыдоў». З гадамі я ўсё часьцей задумваюся над правільнасьцю гэтае заўвагі, над ейнаю, так бы мовіць, філязафічнаю глыбінёю.

Па зьбегу апошняга сэмінарскага дня спаткаў Анатоля Сыса. Быў ён барадаты і назваўся «Княжычам». Хто ж мог падумаць.

1986-ы. У красавіку звольнілі з працы. Не перажываў. На 26-ы дзень – катастрофа. Таксама не перажываў, як і ўсе. У канцы траўня дзесьці за Чачэрскам, у вёсцы на мяжы з Браншчынай аддаваў замуж за палешука стрыечную сястру Алену Чантарыцкую. У ліпені ўжо вучыўся на падрыхтоўчых курсах (вырашыў паступіць на філфак). Аднойчы сярод белага дня прыйшлі з КГБ. Сказалі, аддай, што маеш і паказваеш іншым. Не аддаў. І розум меў. Але пасляць іх



адразу куды далей – ня здумаў. І парады папытаць у знаёмых – сорамна. Сорамна было ўжо хоць бы за тое, што ў КГБ палічылі мяне апрыёры дастаткова слабым, раз заняліся мною. Так я, прынамсі, разважаў у той час.

А беларускамоўнае кола ўсё пашыралася. Прыйшоў у «Талаку», адчуў сябе чалавекам. Апантана шураваў цагляны друз у Траецкім (каб мне столькі піва выпіць у Траецкім аднаўленым!). Каля дому Ваньковіча, перамяшчаючы зь месца на месца якіясь драўляныя аскабалкі, убачыў сваю будучую жоначку. Усё гэта было летам. І хоць выкладчык Камароўскі ў маіх кантрольных работах энэргічна павыкрэсьліваў словы кшталту «атрамант», «асадка» ды іншыя зь лексыкону «тарашкевіцы», на беларускае аддзяленьне філялягічнага факультэту БДУ я ўсё ж паступіў.

У сьнежні 86-га ажаніўся. Зямляк мой Алег Дышлевіч быў у мяне шафэрам і прамаўляў тосты па-беларуску. Цесьць Прыкін задаволена ўсьміхаўся, але цешча, тутэйшая родам, крывіла цэру. Гулялі на другім паверсе рэстарану «Журавінка». Усяго й радасьці, што за 400 савецкіх рублёў я зьмерз на ўласным вясельлі.

У 1987-м скідаліся «Тутэйшыя». Пачаў разумець, што бел. мова – гэта нешта большае, чым толькі літаратура па-беларуску. У красавіку цешча настаяла на разводзе, і Вольга Адамовіч ізноў абярнулася Прыкінай. Было шкада, але няўдалае жаніцтва не магло мне заступіць сьвятла наступных дзён. Навокал мяне і ўва мне расла і паўставала Беларушчына. І грунтам гэтай ідэі была беларуская мова.

1988 год. Ужо дзейнічае Беларускі Народны Фронт. Разам зь першакурсьнікамі раблю насьценгазэту «Слова філолага». Матэрыялы друкуем на «тарашкевіцы». Малюем «Пагоню» й бел-чырвона-белы сьцяг. Дэканат праводзіць разборкі, але бяз нас. Насьценгазэту нельга забараніць. Праўда, яе можна зьняць са стэнду, і то толькі тады, калі ня бачаць студэнты.

Летняя сэсія-88. Першая група другога курсу беларускага аддзяленьня філфаку БДУ здае іспыт па псыхалёгіі. Амаль усе з групы вырашаюць адказваць па-беларуску. Настрой рэвалюцыйны, прычым, і ў дзяўчат таксама. У выкладчыцы праблема: яна ня ведае беларускай. З катэдры псыхалёгіі прысылаюць іншую, якая ведае. І тут каля дзьвярэй аўдыторыі, дзе мы пасьпяхова здаём іспыт, зьяўляецца сакратар кампартыйнай арганізацыі факультэта Прыгодзіч і крычыць, што мы лічым сябе лепшымі за іншых, што трэба паважаць выкладчыка і да таго падобнае. Сакратаровы абурэньні не пахіснулі нас у нашым рашэньні. Усе, хто здаваў па-беларуску, атрымалі адзнаку «выдатна».

Вясна 1991 году. За дрэнную адзнаку па расейскай савецкай літаратуры (выкладчык Фёдараў) адлічваюць з чацьвертага курсу. З дапамогай Валодзі Пучынскага ўладкоўваюся стыльрэдактарам у «Настаўніцкую газэту». Дамаўляемся з рэдактарам Куліцкім, што падборка маіх вершаў у «Настаўніцкай» будзе надрукаваная паводле граматыкі Тарашкевіча. І тут званок з карэктарскай (карэктары «НГ» сядзелі тады ў спэцыяльным пакойчыку старога дому друку, што на праспэкце Скарыны, а сама рэдакцыя знаходзілася, як і сёньня, на вул. Захарава). Дык вось, званочак. Тэлефанаваў дзяжурны па выпуску Георгі



Клябанаў. Яго вельмі абурыла, што тэксты вершаў набраныя зь мяккімі знакамі. Тут варта заўважыць, што гэты Клябанаў, альбо Клёнаў, як ён іншы раз падпісваў свае матэрыялы, працаваў у «Настаўніцкай» з часу яе заснаваньня ў 1945-м. Ён быў шараговым карэспандэнтам, але моцна ўплываў як на калектыў работнікаў, так і на рэдактара. І тут такая неспадзяванка: за ягонай сьпінаю, па-за ягоным кантролем (!) два беларусы (адзін з прозьвішчам на -цкі, другі на -іч) дамаўляюцца зьдзейсьніць крамолу. І мыткі зрабілі так, як вырашылі: трэцяга красавіка 1991 году «Настаўніцкая газэта» надрукавала мае вершы паводле граматыкі Тарашкевіча і аўтарскай волі.

А што ж калега Клябанаў? Клябанаў-Клёнаў аказаўся габрэем і, здаецца, у 1995-м эміграваў у ЗША. На жаль, тыя кадры, якія заставаліся ў «НГ», таксама не выклікалі захапленьня. Балюча было назіраць, як газэту шматтысячнага корпусу ўніверсытэцкіх выкладчыкаў і школьных настаўнікаў, пэдагогаў і выхавальнікаў самых розных узроўняў выдаюць фактычна не

*Працяг на старонцы 9*



худаватым твары. Вольная манера гаворкі й не беларуская мова давалі зразумець, што жанчына не тутэйшая, — хутчэй за ўсё, з гораду. Але як яна апынулася тут? Што ёй тут трэба?

— Адзін тут? — зноў запытала яна.

— Не адзін, — буркнуў ён і палез на абрыў па елку. Усё ж трэба было падкласьці ў касьцёр.

Ён звалок елку з абрыву, падцягнуў бліжэй да берагу і пачаў абломваць галіны. Некаторыя зь іх кідаў у агонь, іншыя, што былі таўсьцейшыя, складаў наводдаль. Жанчына, пільна назіраючы за ім, моўчкі сядзела ля кастра. Пасьля рэзка спытала:

— Ты дурань, ці што?

Перш, чым адказаць, ён кінуў у яе бок злы позірк, бо яна яўна бянтэжыла хлопца і, мабыць, не адразу ўцяміла тое. Але зразумеўшы, падышла да яго бліжэй.

— Давай памагу.

Удвох яны сталі ламаць зь елкі суччо, хацяя, як ён зразумеў, дапамога ад яе была невялікая; яна больш замінала, тузаючы елку. Ростам яна была вышэйшая за салдата і, мабыць, ніколькі не бянтэжылася ў адносінах зь ім. Ён жа немаведама чаму пачаў прыкметна для самога сябе саромецца ад таго, што яна была да яго так блізка.

— А сякеры няма? — папыталася жанчына, і ён згледзеў, што наперадзе ў яе не хапае зуба.

— Няма.

— І пілкі няма?

— Няма й пілкі.

— Як жа ты тут абыходзісься? Рукамі?

— Рукамі.

— А як рыба? Клюе?

— Клюе, — проста адказаў ён, ламаючы таўсьцейшыя сукі зьнізу. Жанчына абломвала болей тонкія зь вершаліны.

— І шмат налавіў?

Прыпамятаўшы іхны ўлоў і страчаны кручок, ён крыва ўсьміхнуўся.

*Працяг на старонцы 6*

**Уладзімер Букоўскі:**

# «У БЕЛАРУСІ ІДЭАЛЬНАЯ СЫТУАЦЫЯ».

*У пачатку кастрычніка ў Варшаве праходзіла міжнародная канфэрэнцыя па правах чалавека. Сёньня мы публікуем адказы славутага расейскага праваабаронцы Ўладзімера Букоўскага на пытаньні карэспандэнта «НН» Зьміцера Бартосіка.*

***«НН»: Пан Букоўскі, які Ваш прагноз на бліжэйшую будучыню Расеі?***

У.Б.: Яшчэ ў 93-м я пра гэта напісаў артыкул. Адзіны й непазьбежны сцэнар, што мне бачыцца, як найбольш рэалістычны – гэта распад Расеі на некалькі дзяржаваў. Артыкул я напісаў адразу пасьля рэфэрэндуму, на які я тады прыяжджаў у якасьці памочніка па просьбе ельцынскай каманды. Але апошні раз я тады зьімі меў справу. Я зразумеў, што толку ня будзе.

Вось паглядзіце на апошні крызыс і рэакцыю правінцыі. У 87-м ці 89-м рэгіёны замарозілі цэны і ўсталявалі мытны кантроль вакол сваіх абласьцей. Гэта першы крок да незалежнасьці. Палова суб'ектаў фэдэрацыі, якія былі донарамі, ня плоцяць палаткаў. І цалкам справядліва. Дарэчы, з гэтага пачалася амэрыканская рэвалюцыя й вайна за незалежнасьць. Але справа не ў сэпаратысцкіх настроях губэрнатараў. Сама сытуацыя іх будзе прымушаць рухацца ў гэтым кірунку далей і далей. І Далёкі Ўсход, думаю, будзе першым. Так непазьбежная фрагмэнтацыя Расеі. Але ў гэтым ёсьць плюсы й ёсьць мінусы. Плюс у тым, што Расея ніколі не будавалася, як нармальная дзяржава, з фундамэнту да даху. Яе заўжды будавалі з даху, гэта значыць, з цэнтру. Ад бацюхны-цара. Ну ня можа так жыць дзяржава ў XXI ст. Але мінус у тым, што мы ня ведаем, як гэтыя фрагмэнты Расеі будуць упраўляцца. Бацькамі Махно ці парлямэнтамі? Жыць у міры ці ваяваць? А калі ваяваць, дык якою зброяй? А хімічныя заводы, а ядзерныя прадпрыемствы? На гэтым шляху ёсьць маса небясьпекаў. Але што гэта непазьбежны сцэнар разьвіцьця Расеі, я вам гарантую.

***«НН»: У Беларусі ўжо звыкліся з думкаю, што любы змрок, які ў нас можа адбывацца, заўсёды знойдзе падтрымку на Ўсходзе. Праўда, мы, хай і за празрыстай, але за мяжой. Што Вы можаце сказаць пра рэакцыю расейскага грамадзтва на чачэнскую вайну?***

У.Б.: Гэтая вайна асабіста мяне дабіла адсутнасьцю рэакцыі. Зразумейце, мы ў 60-я гады выходзілі на плошчы, калі за гэта палагалася тры гады. У 90-я можна было выйсьці мільёнам людзей, і ніхто б табе нават штрафу ня даў бы. Дзе ж гэтыя мільёны? Грамадзкая думка ў Расеі так і ня склалася. І ўсё, што мы рабілі трыццаць гадоў, пайшло псу пад хвост. Таму што адзінаю нашаю мэтай было адрадзіць у краіне грамадзкую думку.

***«НН»: Але, калі Чачня яе не пабудзіла, дык што тады яе здольнае адрадзіць?***

У.Б.: Нішто. Краіна памерла. Чачня гэта прадэманстравала. І на сваім вяку я Расеі нармальнай так і не пабачу.

***«НН»: Пабачыць бы на нашым жыцьці нармальную Беларусь. У нас зараз пануе нейкая дурная дэпрэсія. Абсалютна незразумелая, таму што нашыя ўмовы ня ідуць ні ў якае параўнаньне з тою атмасфэраю, у якой пачыналі Вы.***

У.Б.: Між іншым, умовы ў Беларусі зараз ідэальныя, каб грамадзкую думку разгайдаць. Менавіта зараз вам і ствараць незалежны, грамадзкі рух, які скіне лукашэнкаўскую намэнклятуру. А гэта прыйдзе. Паверце мне. У глыбіні гадоў усё гэта падаецца малаверагодным. А я ў 60-я гады ведаў, што савецкая сыстэма скончыцца, і што я гэта пабачу, калі не заб'юць. Пройдзе якіх пяць гадоў, і Лукашэнка гэты зьнікне, і ваша краіна будзе ўся кіпець. Калі ня мае сэнсу вучыцца й працаваць, людзі ідуць на барыкады. Але, калі ня будзе моцнай, грамадзкай сілы, каб заняць гэты вакуум, дык вас чакае такое ж дзярмо, як у Расеі. Ні то, ні сё, ні так, ні гэтак. Вашыя ўмовы, умовы перасьледу, ідэальныя для таго, каб аддзяліць авец ад козьлішчаў. Каб зразумець, з кім можна мець справу, а з кім ні ў якім разе. Толькі ў такой сытуацыі й нараджаюцца сапраўдныя лідэры. У вас чамусьці назіраецца нешта адваротнае. Звычайна палітычныя рухі расколваюцца пры дзялёжцы здабычы, пры перамозе. А вашыя пачалі распадацца, яшчэ нічога не дабіўшыся. Ну, гэта дурнота. Зараз самы час каваць. Я ўпэўнены, што Лукашэнка больш за пяць гадоў не пратрымаецца. Зараз крызысы ў Расеі пойдуць адзін за адным. І пры такім раскладзе, калі ў Расеі крызыс, а ў вас у пяць разоў горш, каму ён у тым вакууме будзе патрэбны?

***«НН»: А якой вам бачыцца ў нашай сытуацыі роля Захаду?***

У.Б.: О, на Захад не спадзявайцеся. Я тут жыву больш за дваццаць гадоў і магу ўпэўнена сказаць, што Захад ніколі нічога путнага не зрабіў. Аднойчы яны пры Рэйгане й Тэчар паднаціснулі, абанкруцілі Савецкі Саюз і не дабілі да канца. Таму спадзявайцеся толькі на ўласныя сілы. На Захадзе калі будуць нейкія асобныя людзі, якія вам дапамогуць – слава Богу, скажыце «дзякуй». А на Захад, як такі... У іх сваіх праблемаў хапае.

***«НН»: Значыцца, «Ялта» працягваецца?***

У.Б.: А яна ў іх з галавы й не выходзіла. У іх ніколі не было жаданьня пабароць СССР, ці зруйнаваць савецкі рэжым. Ніколі, паверце мне. Я гэтым займаўся 20 зь лішнім гадоў. Толькі наша прапаганда сьцьвярджала, што ёсьць нейкія падрыўныя цэнтры. Нічога не было. Я сам шукаў гэтыя цэнтры. Ніводнага не знайшоў. Яны хацелі толькі аднаго – дамовіцца з СССР, каб мірна падзяліць сфэры ўплыву. Усё. І мы ім былі, як костка ў горле. Я знайшоў на Захадзе болей ворагаў, чым у мяне іх было ў Расеі. І куды менш сяброў. Таму на іх ніколі не разьлічвайце. Сьцьвердзіцца Лукашэнка, яны яго прызнаюць. Разам зь ягоным «парлямэнтам».

***«НН»: Але з падзеньнем лукашэнкаўскага рэжыму адносіны паміж нашымі краінамі пахаладнеюць...***

У.Б.: Сёньняшняе маладое пакаленьне расейцаў Захад ня любіць. І справядліва. Такая ж нелюбоў будзе і ў беларусаў да Расеі. На жаль. Таму што Расея ў адносінах да Беларусі паводзіць сябе настолькі ж цынічна, як Захад у адносінах да Расеі. Але ведаеце, гэтыя рэчы праходзяць. Палякі нас вельмі не любілі. Ненавідзелі расейцаў. І цалкам слушна. Колькі іх дзялілі й акупавалі. Зараз ідэальныя адносіны. Калі вам хто дапамагаць будзе, то перш-наперш палякі. Я нядаўна гаварыў зь іх прэм'ер-міністрам. Ён запытаў, што зрабіць для Расеі. Я яму кажу, не для Расеі. Вам зараз трэба ўсё для Беларусі рабіць. Вось там вы можаце дапамагчы рэальна. Расеі зараз нічым не дапаможаш. Беларусы вам шчыра сымпатызуюць. Блізкая нацыя, родасныя мовы. Колькі вякоў у адной вупражцы. І ніхто іншы, як палякі, вам не дапаможа. Можа быць, яшчэ Літва. Але ў вашай сытуацыі, у якой добра бачна, дзе чорнае, а дзе белае, дабро ня можа не парамагчы. Таму ў вас наперадзе пяць гадоў цяжкай працы. Але яна акупіцца спаўна.

# СЯРГЕЙ ПА МЯНУШЦЫ «АЛЕСЬ»

*Працяг са старонкі 1*

*— Ну, дзякуй на добрым слове...*

— Адказнасьць ляжыць на Маскве, бо хто цэнтар імпэрыі? У лягерах, пасьлясталінскіх, якія я ведаю з асабістага досьведу, мне было сорамна — расейцы амаль не сядзелі. У асноўным быў прадстаўлены нацыянальны рух. Ведаеце, як у лягеры кажуць, «сямейка», зэка, якія разам трымаюцца, дык на «рускую сямейку» глядзець было сорамна. Узначальваў нашу «сямейку», між іншым, асірыец, Міхаіл Юханавіч Садо.

*— Сяргей Адамавіч, вы маеце досьвед у перападзе тэмпэратураў: турма і Вярхоўны Савет, бамбёжкі ў Грозным і паседжаньні ў Эўрапарлямэнце... Наколькі, па-вашаму, можа зацягнуцца цяперашні савецкі, гэбісцкі рэванш, які адбываецца зараз і ў Беларусі, і ў Маскве?*

— Я не магу дакладна адказаць на гэтае пытаньне, але магу сказаць дакладна іншае: у тэрмінах 10-15 гадоў я памяркоўны, але цьвёрды аптыміст. У тэрмінах 2-5 гадоў — чорны пэсыміст.

*— У адным з інтэрвію ваш сябар Андрэй Дзьмітрыевіч Сахараў, гаворачы пра літаратуру, сказаў, што яго глыбока хвалюе праблематыка твораў Васіля Быкава. Вы чытаеце Быкава?*

— Так, вядома. Ён вельмі шмат значыць для мяне. «Мёртвым не баліць», «Круглянскі мост»... Маральная праблематыка, якую Быкаў ставіць, гэта нешта надзвычай істотнае. Гэта не беларуская літаратура, гэта эўрапейская, сусьветная літаратура.

*— Імя Быкава ўзгадвалася пад час абмеркаваньня Нобэлеўскай прэміі. Як вы ставіцеся да такой магчымасьці?*

— Гэта пытаньне да Нобэлеўскага камітэту. Але мне здаецца — так. Тут вельмі гарманічнае спалучэньне абсалютна прафэсійнай літаратуры і надзвычай хваравітай нэрвы сумленьня. Ён умее па-свойму паставіць вечныя праблемы. Гэта і ёсьць літаратура насамрэч. Літаратура ня ёсьць апісаньнем жыцьця, а заўсёды — вечныя тэмы, адны й тыя ж, але крыху іначай пастаўленыя.

*— Ведаеце, хто адначасна з Сахаравым называў Быкава любімым пісьменьнікам? Венічка Ерафееў, аўтар паэмы «Масква-Петушкі». Чаму, вы думаеце?*

— Ды ўсё таму ж.

*— Калі вы апошні раз былі ў Менску?*

— Сёлета. Я толькі аднойчы і быў у Менску, на праваабарончай канфэрэнцыі. Выступам былі незадаволеныя два бакі: і Гэльсынская фэдэрацыя, і афіцыйны Менск. Беларускае тэлебачаньне камэнтавала гэта так: вось прыехаў такі з Расеі нас вучыць і г.д, і, дарэчы, павёз з сабою «Пагоню». Сапраўды, з трыбуны зьнялі герб і мне падарылі.

*— Вы дома ў Маскве маеце зараз «Пагоню»?*

— Так, маю, канечне. А як жа!

**Прага, «Форум 2000».**



*Працяг са старонкі 5*

Падумаў, аднак, што падрабязнасьцяў ёй тлумачыць ня будзе. Хто яна такая, каб усё ёй тлумачыць.

— А дзе ж твая вуда? Ці, можа, сетка? — не змаўкала жанчына.

— Для нашай рыбы вуды ня трэба, — сказаў ён, маючы на ўвазе жабаў.

— Во як! Значыць, ты тут не адзін?

— Не адзін, — сказаў ён і ўпершыню проста зірнуў ёй у твар, затрымаўшы позірк на вязанай шапачцы на галаве. Усё ж улетку ў зімовых шапках жанчыны ня ходзяць, нават у лесе. Чаму гэтая ў шапцы? Ягоны позірк, аднак, зараз жа прыкмеціла жанчына.

— Што, думаеш — благая шапка? Вельмі нават зручная. І камары не кусаюць. Дык з кім жа ты ловіш?

— З кім трэба, з тым і лаўлю, — стрымана сказаў ён і змоўк. Недарэчная цікаўнасьць жанчыны пачала дакучаць салдату. Добра яшчэ, думаў ён, калі тое — толькі цікаўнасьць. Хутчэй бы прыходзіў з балота бамж, ужо ўдвох бы яны знайшлі як адчапіцца ад гэтай жанчыны.

Жанчына ў сваю чаргу таксама зразумела, мабыць, што няшмат даб'ецца ад гэтага недарэкі-хлопца ў салдацкім бушлаце, і сказала пра сябе:

— А я гэта іду, гляджу — касьцярок, і нікога няма. Ну, думаю, прыкуру, а то запальніца скончылася. А топаць далёка...

— Гэта куды ж — топаць? — ваўкавата запытаў салдат.

— Туды, — няпэўна махнула рукой жанчына.

І тады салдат убачыў ля вогнішча невялікую гаспадарчую сумку, зь якімі гаспадыні звычайна ходзяць на рынак. У сумцы штосьці было накладзена, аднак, наўрад ці прадукты — з выгляду сумка здавалася лёгкай. У той час з кустоўя ля рэчкі паявіўся бамж, які, убачыўшы іх тут, прыпыніўся, але затым пачаў нетаропка набліжацца па беразе. Жанчына, зглядзеўшы яго, кіўнула.

— Напарнік, ага?

— Напарнік, — сказаў салдат. Ягоны ніякаваты настрой адразу стаў лепшаць, у прысутнасьці бамжа ён адчуў сябе болей упэўнена.

Здаля азіраючы жанчыну, бамж падышоў да кастра. У шапцы ён трымаў налоўленых у балоце жабаў і цяпер яўна прыкідваў, што зь імі рабіць. Мабыць, паказваць іх незнаёмай жанчыне ён не хацеў, але й выпускаць таксама было шкада. Жанчына, падобна было, штосьць зразумела.

— Што гэта — рыба?

— Рыба, — раптам сказаў бамж. — Ляшчы. Паказаць?

— Пакажы.

Жанчына зрабіла некалькі крокаў насустрач, каб зазірнуць у шапку, адвязаныя вушы якой ён сьціскаў у кулаку. Але, зазірнуўшы, адхіснулася.

— Фу, гадасьць! Нашто яны вам?

— Есьці!

— Есьці? Вы што?

— А нічога. Голад — ня цётка.

— Панятна, — не адразу сказала жанчына і адышлася, здаецца, страціўшы цікавасьць і да жабаў, і да іхных лаўцоў.

Бамж між тым зь нечаканым імпэтам забегаў каля кастра.

— А во мы іх зараз падкапцім, падсмажым і зьямо за мілую душу. Праўда, салдат? Можам і пачаставаць, калі згаладнела. Адкуль ідзеш? — быццам да добра знаёмай, зьвярнуўся ён да жанчыны.

— Адтуль, — сказала жанчына і прысела трошкі ўбаку ад вогнішча.

— Салдат, давай болей дроваў! — па-камандзірску распараджаўся бамж. — Напалі жару. А я іх выпатрашу, нафаршырую цыбуляй ды перчыкам. А як жа! Французы ядуць, а мы што — горшыя?

Салдат без вялікай ахвоты ўзяўся падкладваць у вогнішча сухое ялавае голле, полымя ад якога хутка шуганула слупам пад неба. Зблізку ад вагню стала горача, яны адышліся далей; бамж ржавым складанчыкам выпатрашыў дзясятка паўтара жабак.

— Нябось уцякаеш? — раптам запытаўся ён у жанчыны, якая сядзела зводдаль. Жанчына насьцярожылася.

— А я не ўцякаю. Хай ад мяне ўцякаюць.

# АДКРЫЦЬЦЁ КШЫШТАФА ЗАНУСІ

*Працяг са старонкі 1*

Не зважаючы на тое, з багатай вы сям'і альбо беднай, вельмі важна ведаць не гісторыю. У Нямеччыне простыя сяляне ведаюць сваіх продкаў у дваццатым калене і памятаюць, хто на якую хваробу хварэў у XVII стагодзьдзі і зь якой пэрыядычнасьцю гэтая хвароба вяртаецца. Там проста памяць жыве. У нашым грамадзтве камуністы сьцерлі памяць, многія сваіх прадзедаў ня ведаюць. Я сам вывучыў, хто з маіх продкаў кім быў, і мне гэта дапамагае жыць, лепш разумець сябе.

У саракавыя гады мінулага стагодзьдзя мой продак з бацькавага боку прыехаў з Італіі будаваць дарогі Аўстрыйскае імпэрыі, потым патрапіў у Расейскую імпэрыю, дзе пазьней пачалі будаваць чыгунку, і гэткім чынам прабыў там да першае сусьветнае вайны. З нашай сям'і ён першы атрымаў польскае грамадзянства. Але ня гледзячы на тое, што я ведаю італьянскую мову, мне ўсё роўна, хто бярэ перамогу ў італьянскім чэмпіянаце па футболе. Нават калі ў нас было ваеннае становішча, я паехаў (як мне тады здавалася — назаўсёды) не ў Італію, а ў Францыю. І да гэтага часу, ня гледзячы на тое, што я — грамадзянін Польшчы, падаткі я плачу ў Францыі, не зважаючы на тое, што яны там большыя. Але я вельмі ўдзячны французам за тое, што яны гасьцінна прынялі мяне ў 81-82 гадах. У французскім грамадзтве хапае працоўных месцаў для іншаземцаў, у Італіі гэтага няма. Калі іншаземец вельмі падобны на італьянца, дык яны не разумеюць, чаму ён не ва ўсім падобны — чаму ён, напрыклад, абыякавы да футболу?! Я лічу Францыю сэрцам Эўропы, ня гледзячы на тое, што размаўляю лепш па-ангельску, чымся па-француску, але ў Вялікабрытаніі я не адчуваю сябе як дома.

## ПРА ФІЛЯЗОФІЮ

Я не канчаткова ўпэўнены ў тым, што філязофія ўвогуле ёсьць прафэсіяй, але тым ня менш ганаруся, што быў час, калі я вучыўся ў Ягелёнскім унівэрсытэце ў Кракаве, прызнаным шостым у сьвеце. Гэта быў адзіны ад ГДР да Уладзівастоку ўнівэрсытэт, у якім на факультэце філязофіі выкладалася нармальная філязофія без анівякага марксізму. Яшчэ ў шасьцідзясятыя мой прафэсар мог падзяляць аўдыторыю, адчыняючы адны дзьверы — для філёзафаў, другія — для марксістаў. Яго, праўда, даволі хутка выправілі на пэнсію.

Вывучаючы філязофію, мы шмат разважалі пра мэнталітэт. У той час марксіст ня мог ня тое што разважаць аб гэтым, але нават вымавіць гэтае слова. Зь імі можна было размаўляць толькі пра эканамічныя адносіны ў грамадзтве. А я ўжо тады ведаў, што гэта неістотна, бо і ў Сінгапуры і ў Лос-Анджэлесе, да прыкладу, адносіны ўласнасьці адныя й тыя, а рэальнасьць розная. Гэта й ёсьць мэнталітэт — тое, што зьвязана з традыцыямі, з рэлігіяй, нават калі грамадзтва ў цэлым ужо й не жыве рэлігійнымі каштоўнасьцямі.



Krzysztof Zanussi
Rys. Tomasz Bengsz

Мы ня верым у супярэчнасьць розуму й веры. Таму што, калі розум адкрывае ісьціну і вера адкрывае ісьціну — яны павінны супадаць. А калі яны не супадаюць, значыць, нехта памыліўся на шляху да ісьціны. Я ведаю, што сярод вас ёсьць эканамісты. Маім калегам таксама тлумачылі марксісцкія законы эканомікі. Але мы выходзілі на вуліцы й бачылі, што яны не працуюць. У той час як на Захадзе — і многія з нас гэта бачылі на свае вочы — было зусім іншае жыцьцё. У 70-я жартавалі: Польшча — самы свабодны барак у сацыялістычным лягеры. Мы даволі шмат езьдзілі за мяжу. Я ніколі ня быў ні ў воднай партыі, але мог працаваць у кіно і ад мяне ніхто не патрабаваў, каб я выказваў сымпатыі да сацыялізму. Іншая справа, што я не выказваў адкрыта й свае антыпатыі да гэтага грамадзкага ладу. Праца на Захадзе дапамагла мне зразумець, як функцыянуе гэтая частка сьвету. Таму, калі мне, дырэктару польскай кінастудыі, давялося пачынаць працу ў новых умовах, я запрасіў да сябе ў намесьнікі сталага чалавека, які добра памятаў, як было да вайны — і ягоныя веды нас выратавалі. Ён ведаў, што трымаць грошы ў банку — злачынства, грошы трэба ўкладваць у справу, яны павінны працаваць на біржы, каб былі сродкі на здымкі фільмаў. Дзякуючы яму, мы паставілі шмат карцінаў.

## ПРА СВАЮ ТВОРЧАСЬЦЬ

Я стараюся не глядзецца ў люстэрка, бо ведаю, што ёсьць нешта прыгажэйшае за маё адлюстраваньне. Гэтак і з творчасьцю. Я стараюся за ёй не сачыць, інакш я магу ператварыцца ў нарцыса. Кожнага разу я спрабую забыцца на ўсё, што я рабіў да сёньняшняга дня і бягу наперад. Але пакольки я здымаю галоўным чынам аўтарскае кіно, часьцяком здараецца так, што да праблемаў, закранутых у адным фільме, я потым вяртаюся ў іншых сваіх работах, так што карціны як бы працягваюць адна адну. Мае героі часта рэалізуюць сваю свабоду. А свабода — гэта заўсёды выбар. Калі чалавек выбірае — ён свабодны. Можна быць свабодным у турме і несвабодным — па-за яе сьценамі. Верагодна, таму мне было цікава працаваць над п'есай Караля Вайтылы «Брат нашага Бога», у якой герой аказваецца перад выбарам.

## ПРА «СЬПІС ШЫНДЛЕРА»

Гэтая карціна мне ня вельмі блізкая. Чым адрозьніваецца Амэрыка ад Эўропы? Тым, што ў амэрыканскай культуры не існуе пачуцьця трагічнасьці. Амэрыка пазбавілася ад яго. І ў фільме Сьпілбэрга не адчуваецца трагедыйны маштаб жыцьця. Старажытная грэцкая культура таму была геніяльная, што ў ёй упершыню была адкрытая прастора трагедыі, але разам зь ёй — і прастора іроніі. Калі культура не знайшла трагедыйнага вымярэньня, дык для мяне гэтая культура не сапраўдная. Таму да амэрыканскай культуры я стаўлюся трошкі іранічна. Яна прыемная, але ёсьць у ёй нешта дзіцячае, дурнаватае. У «Сьпісе Шындлера» жудасныя падзеі адлюстраваныя вачыма дзіцяці, якому 12 гадоў. Пра што гаворыць гэты фільм? Калі б у часе вайны існавала 400 такіх герояў як Шындлер, тады, чыста статыстычна, жыды наогул не загінулі б. Але ж гэта глупства, гэта няпраўда. Трагедыя адбываецца, ня гледзячы на тое, што ёсьць станоўчы герой. А дванаццацігадовы дзіцёнак, вачыма якога мы бачым падзеі, гэтага не адчувае, не разумее, што чалавек, які ратуе адных людзей, тым самым і ў той самы момант не ўратоўвае іншых. І потым пакутуе ад пытаньня — колькіх яшчэ ён мог уратаваць, але не ўратаваў. Але рэжысэр гэтага не паказвае, там няма гэтай думкі наогул. І таму мяне трошкі зьневажае ягоная дзіцячая ідэя, хаця і станоўчая з пэдагагічнага пункту гледжаньня. Мастацтва, вядома, выхоўвае, але ўсё ж гэтым павінна займацца сярэдняя школа. Мастацтва — гэта вельмі высокі ўзровень міжчалавечых адносінаў, тут ня можа быць настаўніка й вучня, інакш гэта не мастацтва, а пэдагогіка сярэдняй школы. Ніхто зь вялікіх творцаў ня быў настаўнікам, не ўспрымаў свайго чытача як дзіцёнка, але — як роўнага. Вазьміце вялікіх пісьменьнікаў Томаса Мана альбо Дастаеўскага — яны зьвяртаюцца да сваіх чытачоў як да роўных. А нам паказалі дзіцячае апавяданьне, дзе настаўнік кажа дзецям, што трэба быць сьмелымі і дапамагаць людзям. Ён — настаўнік — мае рацыю, але гэта не вырашае праблемаў.

## ПРА ПОЛЬСКАЕ КІНО

У сусьветны кінематограф польскае кіно ўвайшло зусім нядаўна. Такога посьпеху, які меў Кесьлёўскі, мой самы блізкі сябра, ня меў больш ніхто ў польскім кінематографе. Але ён, на жаль, рана ад нас пайшоў. Ягоны лёс быў зусім няпросты, яго вельмі доўга не прымалі. Да Кесьлёўскага посьпех, які неабходны ў жыцьці кожнаму мужчыну, прыйшоў позна — калі яму было амаль пяцьдзесят і калі ён быў да яго ўжо цалкам абыякавы. Ён ведаў, што й раней, дзесяць галоў таму, ён рабіў такія самыя карціны, але тады яны нікому не падабаліся і вось, раптам, спадабаліся. Ён быў вельмі пакрыўджаны гэтым. Кшыштафа Кесьлёўскага вельмі не хапае нам. Тым ня менш, і безь яго польскі кінематограф працягвае ўдзельнічаць у эўрапейскім кінапрацэсе, а што будзе праз год ці два — я ня ведаю. Анджэй Вайда зараз здымае сумесна з французамі гіганцкі фільм паводле рамана «Пан Тадэвуш» Адама Міцкевіча, дзеяньне якога адбываецца ў Беларусі. Францыя ўклала два мільёны даляраў у экранізацыю нашае клясыкі. Мне здаецца, што гэта вельмі добры прыклад, што Эўропа сапраўды нас аб'ядноўвае. Спадзяюся, гэтая карціна будзе карыстацца сапраўдным посьпехам.

## ПРА БЕЛАРУСКАЕ КІНО

За савецкім часам мы глядзелі фільмы, якія здымаліся ў Менску і лічылі іх савецкімі, бо фільмаў без дубляжу тады не паказвалі. Так што, грузінскія альбо расейскія фільмы для нас мала чым адрозьніваліся. Гэта былі карціны, дзеяньне ў якіх адбывалася у розных мясьцінах СССР — і толькі. Магчыма, зараз зьявіцца чыста беларускі кінематограф. Я спадзяюся, што ён ёсьць, але я яго ня бачыў.

## ПАЖАДАНЬНЕ

Я ніколі не лісьлівіў ні перад Савецкім Саюзам, ні перад Расеяй. Я гаварыў пра іх горкія словы, але сяброўскія. Я жадаю ўсяго добрага Расеі, Украіне, жадаю добрага і вам, беларусам, нашым блізкім суседзям. Жадаю яшчэ й таму, што галодны сусед — небясьпечны сусед.

**Запісала Алена ЛУКАШЭВІЧ**

# ВАЎЧЫНАЯ ЯМА

— Хе! Ты хіба зь міліцыі?

— Можа, і зь міліцыі...

— Так я табе й паверыў! — агледзеўшы яе, сказаў бамж.

Жанчына ў адказ засьмяялася — строгі яе напачатку твар па-добраму прасьвятліўся.

— Ну й правільна зрабіў. Цяпер верыць нікому нельга.

На грудку напаленага вугольля бамж распачаў пячы-смажыць жабаў. Седзячы побач, салдат звыкла глытаў сьлінькі й памалу пароў у агонь. Ён чакаў, што жанчына пойдзе, яе прысутнасьць непрыемна гняла яго, ён ужо пасьпеў адвыкнуць ад пустой балбатні зь незнаёмымі. Для пустых размоваў яму даволі было бамжа. З жанчынай, напэўна, трэба было абыходзіцца інакш, асабліва з такой во бессаромнаю прыліпалай. У размовах з жанчынамі ён наогул рэдка калі трапляў на патрэбны тон, часьцяком саромеўся і нават пакутаваў з таго.

Праз якую гадзіну ці болей жабкі, здаецца, падсмажыліся, і яны паселі іх есьці. Жанчына па-ранейшаму мясьцілася трохі ўбаку ад вогнішча, і салдат падумаў: ну, цяпер ужо пойдзе. Але яна нікуды ня йшла, і калі бамж падаў ёй невялічкую жабку на шырокім лісьце дзядоўніку, які служыў ім заместа талерак, нерашуча ўзяла яе. Аднак есьці пакуль не сьпяшалася.

— А солі? Солі ў вас няма?

— Чаго няма, таго няма, — ахвотна патлумачыў бамж. — Знаеш, і выпіць няма. Можа, у цябе маецца?

— Чаго няма, таго няма, — бы перадражніла яго жанчына і ціхенька, неўпрыкмет уздыхнула.

— Дык еш. Нябось даўно ня ела?

— Даўнавата, — прызналася жанчына. — Тут дзе возьмеш?

— Тут нідзе няма. Апроч як у нас, — жартаваў бамж. — Рэстаранчык на беразе. Бы паплавок, праўда, салдат?

Салдат няўтульна пацепаў плячыма, падумаў: чаго ён чапляецца? Хай бы й чапляўся да яе, калі яму цікава, ды пакінуў яго ў спакоі.

Хутка яны скончылі тых жабаў, абсмакталі іх дробныя косткі, якія бамж сабраў у адну кучку ды затаптаў у пясок.

— Во й паабедалі! І павячэралі таксама. Ну як — нішто?

Жанчына няпэўна цепанула плечукамі — мабыць, адказу ў яе не знайшлося. Замест таго яна штосьці дастала з сумкі.

— Закурым?

— А мы некурашчыя, — адказаў бамж.

— Траўку...

— Траўку? Тады давай.

Жанчына спрытна згарнула з паперкі таўстую цыгарку, прыкурыла ад вугальку з кастра. Бамж падсунуўся да яе бліжэй.

— Цябе як зваць?

— А цябе?

— Мяне — Жора.

— Ну калі ты — Жора, дык я — Жаржэта. Чуў такое імя?

— А як жа! Толькі як ты тут апынулася? Тут жа зона.

— Ну і хрэн зь ёй, з зонай, — рэзка, без усьмешкі сказала жанчына. — Нам дык чаго баяцца?

— А сьмерці?

— Сьмерць я ўжо бачыла. Нават пацалавалася зь ёй. Во, паглядзі!

Яна ссунула з ілба вязаную шапачку, і на выстрыжанай скроні паявілася белае лапікла лейкапластыру.

— Што гэта?

— Ад кулі. Кілер быў п'яны, не пацэліў.

— Кілер?

— А ты думаў — пятух клюнуў?

— І завошта?

— За грошы, канечне. За што ж яшчэ?

— І вялікія грошы? — зь цікавасьцю пытаўся бамж.

*Працяг на старонцы 8*

# ДЗЕНЬ БЕЗ ЧУЖОГА СЛОВА

Як ставяцца мінакі на менскай вуліцы да ідэі Дня беларускай мовы? З гэтым пытаньнем я выйшаў да рэчавага рынку «Дынама». Мой першы суразмоўца аказаўся адзіным у гэты дзень, хто паставіўся да Дня без чужога слова адмоўна. Што праўда, ён ня вылучыўся з агульнае плыні ўжо тым, што імкнуўся адказваць па-беларуску:

*– Ну, як я стаўлюся? Кожны павінен глядзець на свае перакананьні. Я б не падтрымаў, бо я не беларус, а іўрыт тут не пашыраны. Я, напрыклад, за ангельскую мову – каб уся Беларусь загаварыла на ангельскай мове.*

Наступнай маёй суразмоўцы – маладой кабеце ідэя адразу спадабалася:

*– Я ў прынцыпе за. Так, я б магла паспрабаваць. Можа быць у мяне гэта трохі б карава атрымалася, але я б хацела, каб такі Дзень правёўся.*

Два хлопцы-кантралёры на ўваходзе ў рынак выглядалі на навучэнцаў тэхнікуму, якія падпрацоўваюць у вольны час. Маё пытаньне іх крыху разьвесяліла, але, паразважаўшы, адзін зь іх наважыўся на адказ:

*– Падтрымаць, вядома, можна. Я нармальна да гэтага стаўлюся.*

Але дзейнічаць далей за маральную падтрымку хлопцы адмовіліся. Сказалі, што могуць паспрабаваць размаўляць па-беларуску, але зусім крыху. Падобны настрой я сустрэў у дзьвюх студэнтак:

*– Я б падтрымала, чаму не. Мы проста вучымся на філфаку. Нам гэта блізка, і мы гэта разумеем – што такое беларуская мова і ўсё астатняе. Лекцыі ў нас некаторыя чытаюцца на беларускай мове, напрыклад, ангельская літаратура.*

Што да пэрспэктываў Дня беларускае мовы, студэнткі былі пэсымісткамі. Яны лічаць, што наўрад ці падобная акцыя можа знайсьці водгук у менчукоў:

*– Я сама жыву ў Менску і бачу, што адбываецца.*

Каля пастарунку міліцыі на вуліцы Карла Маркса я сустрэў нядаўнюю студэнтку наргасу. Ейны адказ быў самы кароткі, але ці ня самы радыкальны:

*– Трэба паспрабаваць правесьці год беларускай мовы.*

Прызнацца, мне хацелася сустрэць і радыкалаў зь іншага боку. Кажуць, у Менску ёсьць апантаныя расейскія шавіністы, якія ўспрымаюць беларускую мову надзвычай варожа. Але знайсьці такіх не пашчасьціла. Найчасьцей трапляліся або настроеныя патрыятычна, або пасыўныя прыхільнікі ўсходнеславянскага трыадзінства, як, напрыклад, вось гэтая сямейная пара:

*– З задавальненьнем падтрымалі б такую акцыю. Мы за беларускую мову, і таксама за рускую мову. Мы славяне. Таму ўкраінцы, беларусы і рускія – гэта адзіны народ. Пашыраць мову? Па-мойму, яна ў нас ёсьць, больш яе ня трэба. Хто хоча яе больш вывучаць, дык няхай і вывучае.*

Побач з намі апынуўся яшчэ адзін сталы спадар і таксама ўступіў у размову накошт Дня беларускае мовы:

*– Я б падтрымаў, добрая ідэя. Я, прабачце, сам рускі, але ў роднай рэспубліцы павінна быць родная мова.*

На рагу побач з МакДональдс'ам стаяў задумены чалавек. Ён нікуды не сьпяшаўся, нікога не чакаў, а папросту сузіраў плынь мінакоў, што цекла ад выхаду з мэтро:

*– Можна і падтрымаць. Але якая патрэба ў гэтым? Што гэта будзе? Цікава, вядома, але, думаю, гэта нешта вельмі небывалае, ці што, цуд. Прывучыць трэба іншым шляхам. Гэта трэба дзяржаўная палітыка, каб людзі ва ўстановах размаўлялі на нашай мове, але гэта паціху трэба...*

А вось дзесяцігадовы хлопец, які сядзеў побач на парэнчах падземнага пераходу, сказаў, што акцыю падтрымала б большая частка ягонае школьнае клясы, і што ўвогуле трэба было б перавесьці навучаньне на беларускую мову.

*– Я люблю беларускую мову.*

Сцьвярджальны настрой у адказах менчукоў увесь час перамяжоўваўся з сумневам і недаверам да ўласнага народу:

*– Я ня супраць. Ідэя слушная такая, але наконт канцовай мэты – ня ведаю. Калі паглядзець на наш просты люд, то нічога не атрымаецца. Тыповая беларуская зьява – усе нібыта за, але, калі што-небудзь будзе, усе схаваюцца.*

Спадар з нашыўкай «Служба аховы» на камуфляжным бушлаце паведаміў мне, што калісьці аддаў свайго сына ў беларускую школу, але праз тры гады яе перавялі на расейскую мову:

*– Падтрымаць можна, але ці ведае хто наогул беларускую мову? Наша пакаленьне вельмі мала вучылі па-беларуску: з пятага класа, і то – два разы ў тыдзень. Гэтага было недастаткова –мы ня ведаем мовы.*

Далей ахоўнік распавёў, што цяпер ягоны сын ня ведае ані беларускай, ані расейскай мовы. За лета ў вёсцы дзеці пачынаюць размаўляць па-беларуску, а за зіму ў горадзе ізноў забываюцца. Тым ня менш...

*– Паспрабаваць абавязкова трэба. У сваёй краіне абавязаны гаварыць на сваёй мове і ведаць яе дасканала.*

Падсумоўваючы, заўважу, што не сустрэў аніводнага чалавека, які б застаўся абыякавым да ідэі Дня беларускай мовы. Адзін дзень – гэта магчымасьць новай гісторыі, магчымасьць зьмены прыватнага жыцьця кожнага беларуса. За апошнія дзесяць гадоў беларуская мова ператварылася ў сымбаль свабоды. Але пакуль для большасьці грамадзянаў стан свабоды застаецца элітарным адчуваньнем, якое даступнае выбраным.

**Севярын Квяткоўскі**



# ВАЎЧЫНАЯ ЯМА

*Працяг са старонкі 7*

— Увогуле драбяза, — абыякавым тонам распавядала жанчына. — Асноўныя грошы пасьпелі перагнаць за рубеж. Во толькі самі зяўнулі, рэшту не хацелася губляць. Ну, сябрук мой і атрымаў у свой круты лоб. А мне з рыкашэту — таксама.

— Аднак! — задуменна мовіў бамж. — Рызыковая ваша жытуха — з грашыма.

— Была з грашыма. А цяпер пуста ў кішэні.

— Ну й добра. Ужо цяпер кілер адстане.

— Не скажы. Калі б адстаў, я б тут не апынулася.

— Во як!

Яны змоўклі, жанчына падала бамжу тоўсты недакурак, які той ашчадна ўзяў закапцелымі пальцамі.

— Што — ужо курыў?

— Было некалі...

— А пацан? Хаця яму яшчэ рана, — вырашыла жанчына, з усьмешкай азірнуўшы салдата.

Яму й зусім стала нялоўка, амаль пакутна. І гэтая размова пра грошы, кілераў, і курэньне «траўкі» непрыемна падзейнічалі на яго, карцела ўстаць ды пайсьці. Хай бы яны тут курылі й спавядаліся адзін перад адным, усё ж у яго быў інакшы, чым у іх, лёс. Аднак штосьці ў асобе гэтай жанчыны прыцягвала ягоную ўвагу, і ён, хоць і зь непрыязнасцю да яе, сядзеў і слухаў.

— Адной табе кепска, — сказаў бамж. — Напарніка трэба.

— Дзе ж яго ўзяць — напарніка?

— А мяне вазьмі. Ці, можа, хлопца. А што — у войску служыў, дэзэрцір...

Салдат моўчкі ўстаў і берагам рэчкі пайшоў прэч.

Ён доўга й бяз справы хадзіў між хвояў, пазнаючы ўжо бачаныя мясьціны лесу, часам прыкмячаючы дзе сухія сукі, якія маглі б спатрэбіцца для агню. Лаўжоў у доле тут было мала, пад хвоямі шырока распаўзьліся зялёныя лапіклы чарнічніку, хутка павінны былі паявіцца й ягады. Але галоўнае баравое хараство буяла ўгары, у бронзавым пераліве хвояў, якія, бы на падбор, стаялі ўсе роўненькія — і таўшчынёй, і ростам, і колерам аздобы, які плаўна мяняўся з камля ад шэрага да ярка-залатога ў вершалінах. Ад гэтых хваёвых вершалін імкнула чароўнае лесавае хараство, якога не было ні ў якім іншым лесе. Аднак і тут панавала самота, і салдат не разумеў, чаму. Ужо гэткая баравая лагода павінна б суцешыць, заспакоіць, абнадзеіць чалавека, а во не абнадзейвала. Хіба паглыбляла тугу — добра яшчэ, што не бурыла спакой. Спакою было тут нават багата, і чалавек нярэдка пераставаў прыкмячаць яго.

Паяўленьне тут гэтай незнаёмай жанчыны, здаецца, сапраўды разварушыла трохі заспакоеныя пачуцьці салдата, пабудзіла ў ім паўзабытае пачуцьцё няёмкасьці. Падобна на тое, што ён пачаў адчуваць сябе лішнім ці, можа, пабаяўся страціць бамжа? Але бамж асабліва яго й не трымаў ля сябе. Болей за ўсё верагодна, што ён адчуў непажаданую пэрспэктыву адзіноты, ад якой ужо стаў адвыкаць. І цяпер гэтая жанчына...

Ён ніколі ня ўмеў нармальна адчуваць сябе побач з жанчынай, асабліва перад тымі зь іх, што былі старэйшыя, такія гаваркія і востраязыкія; іх жаночыя жартачкі, скіраваныя на яго, бянтэжылі й крыўдзілі яго. Ён злаваў часам, але не на іх — на сябе, ды нічога зрабіць ня мог, ня мог перасіліць сябе, толькі трываў. Калі не было магчымасьці ўстаць і пайсьці. Як во сёньня.

На чабаровай прагаліне ён паваліўся ў траву, прагна ўдыхаючы знаёмы гаючы водар, які памятаў яшчэ зь дзіцячых гадоў, як на канікулах жыў у бабулі. У полі ці ў лесе бабуля заўсёды зьбірала розныя зёлкі, сушыла іх у цёмных сенцах, і ён часам пытаўся: нашто? Ад хваробы, казала бабуля. Узімку прастудзісься, захвараеш, а я заварУ гарбаткі — пап'еш і паправісься... Калі б была жывая бабуля, пэўна, яна б і зараз заварыла якіх-небудзь лекаў — ад радыяцыі. Ён бы выпіў і быў здаровы. Але бабулі няма, а праклятая радыяцыя затаілася дзесьці паблізу й чакае. Чаго толькі чакае? І колькі будзе чакаць?

Як пачало зьмяркацца, салдат вярнуўся на бераг. Ён думаў, што жанчына пайшла — што ёй тут рабіць зь імі? Але аказалася, што побач з бамжом яна сядзіць ля агню і пра штосьці ціха гутараць. Штосьці расказвае. Каб не замінаць ім, салдат апусьціўся на абрыве зводдаль, пачаў азіраць затуманенае вечаровай смугой зарэчча. Там, між лугавога кустоўя, ужо паднімаўся туман, няроўным поцягам плыў-расплываўся ля рэчкі, мкнучыся да ўжо затуманенай лесавой далечыні. Як заўжды, сьвятло мкнула зьяднацца са сьветлым, цьма — зь цемнатой, мусіць, у тым і была іх таемная спрадвечная роднасьць. Як і яшчэ пацямнела, мужчына з жанчынаю ўсталі ад вогнішча й пайшлі ўгару, пад хвоі. Трохі счакаўшы, салдат спусьціўся да агню, падклаў палак і сеў на сваё звыклае месца — тварам да рэчкі. Ён пазіраў у агонь, але слых яго лавіў таемныя й яўныя гукі лесу. Сьпярша там чуўся наводдалі ціхманы гоман, пасьля быццам крык, які змусіў яго насьцярожыцца. А затым пасьля працяглага перапынку данёсься бясклапотны жаночы сьмех. Што б гэта ўсё азначала? —засяроджана думаў салдат, пра што-колечы, аднак, здагадваючыся. Але — толькі здагадваючыся. Самому ў такім становішчы апынацца не даводзілася, а з мужчынскіх размоваў можна было меркаваць аб розным.

Каля касьцярка ён і задрымаў пад ранак — як заўжды, паклаўшы галаву на калені, і прачнуўся, бо адчуў, што хтосьці падышоў побач. Гэта была жанчына, і яе голас аж спалохаў яго ў цішыні.

— Бедненькі, ён тут скорчыўся, бы сіротка, — казала жанчына, ся-

# ТВАР КАНЯ

Праця̆г са старонкі 5

прафэсіяналы, а дылетанты. Бадай, найбольш сымпатычным работнікам рэдакцыі была Сафія Іванаўна, жанчына ўжо паважнага веку, якая займалася наборам і вёрсткай. Сымпатычнай у сэнсе апантанасьці работай і адказнасьці за якасьць выданьня, яго мову. У той жа час некаторыя карэспандэнты па-беларуску без дапамогі слоўніка не маглі напісаць і невялічкага рэпартажу. Больш таго, вярнуўшыся з рэдакцыйнага заданьня за свой рабочы стол, яны мусілі перакладаць свае чарнавікі з расейскай.

Так было і ёсьць у рэдакцыях усіх беларускамоўных афіцыйных газэт.

Пішуць, пішуць выпускнічкі журфаку на мёртвай бел. мове, а выпускнічкі філфаку, паступіўшы ў асьпірантуру і пад кіраўніцтвам якога-небудзь былога сакратара парткаму сыстэматызуюць тую пісаніну. І нагадвае ўсё гэта прэпараваньне трупа, які, зрэшты, ніколі й не быў жывой плоцьцю.

***

Апошнім часам на сэмінарах, якія арганізоўвае Беларуская Асацыяцыя Журналістаў, здараецца назіраць, зь якім энтузіязмам журналіст Мікалайчанка зноў і зноў узьдымае праблему белмовы. Але перад кім? Перад замежнымі кіраўнікамі сэмінараў? Дык у іх іншыя тактыка-стратэгічныя заданьні. Перад калегамі з расейскамоўных выданьняў? Дык яны ўсё і так разумеюць. Толькі што ні пісаць, ні гаварыць па-беларуску ня будуць. Некаторыя зь іх побач «с этими белорусами» аказаліся толькі дзякуючы ППРБ. Таму, відаць, няма сэнсу рассыпаць пэрлы на кожным скрыжаваньні, дзе тусуецца «общедемократическая» і «русскоговорящая» публічка. У публічкі таксама свае заданьні. А вось паказваць юнаму пакаленьню беларусаў прыклад уласных адназначных адносінаў да роднай мовы неабходна.

Сёлета БНФ, вядучая палітычная арганізацыя ў беларускім нацыянальна-вызвольным руху, адзначае дзясятую гадавіну барацьбы. Адзначаюць свае юбілейчыкі іншыя большыя й меншыя прабеларускія карпарацыі. Але юбілеіць асабліва ня хочацца. Баюся лішні раз трапіць у непрыемную сытуацыю ці проста страціць добрых знаёмых. Вось, напрыклад, пазваню заўтра ў кватэру да N., каб павіншаваць, а з-за дзьвярэй: «Кто там? Папы дома нет». А мы ж з гэтым «папам» гадоў дзесяць назад так глоткі дзёрлі за «не железную» Беларусь, улёткі на мэханічнай друкарцы памнажалі, таварыствы вольных літаратараў стваралі і яшчэ д'ябал што ведае выраблялі!

Нова-стары аспэкт моўнай праблемы своечасова закранае ў сваім матэрыяле «Жывая мова» аўтар «НН» Віктар Мухін (12 кастрычніка), заўважаючы: «Трэба ж няшмат: прыйсьці ў краму й папрасіць, да прыкладу, не «чашечку кофе», а «філіжанку кавы», хіба цяжка?» І, на вялікі жаль, гэтае пытаньне Мухін вымушаны адрасаваць не звычайным грамадзянам Краіны, а так званым сьвядомым беларусам, многія зь якіх вызначаюць сябе беларускімі нацыяналістамі.

Сёлета мне досыць часта прыходзілася бавіць час за столікамі, якія пагоднымі днямі выстаўляліся каля цэнтральнага сталічнага ўнівэрсаму. І, бадай, кожны раз прыходзілася назіраць, як нашыя беларускамоўныя ў вузкіх колах «сьвядомыя» заказвалі якраз не «філіжанку кавы», а гэтую самую «чашечку». Прычым, нават тыя, хто прайшоў праз «суткі» за ўдзел у мітынгах і шэсьцях, хто не аднойчы дастаў амонаўскіх дубінак! І вось аказваецца, што нават тэрор рэжыму не ўмацаваў глебы пад нагамі некаторых нашых белмоўных. Аказваецца, плыве з-пад ног глеба. Дрыгва, як і ў астатніх.

***

У першай кнізе прозы аднаго беларускага літаратара вычытаў я неяк сярод іншых падобных адзін мілы сказ: «Жывёла зь цяжкасьцю прабіралася праз густы травастой, цяжка дыхала, узмыленыя бакі дрыжалі ад напружаньня, З РОТА падалі белыя шматкі пены». Гэтай жывёлай быў конь. А празаік, які напісаў пра конскі рот, беларускую мову вывучыў толькі ў дарослым веку. І хоць ён ніколі ўжо не авалодае ні стылістычным гладкапісам, ні чыстым беларускім вымаўленьнем, зроблена галоўнае: чалавек ажыцьцявіў прынцып вяртаньня да свайго.

Сумна, але ні дэклярацыі колішніх «Тутэйшых», ні заявы «Таварыства Вольных Літаратараў» не спынілі працэсу разьвіцьця і ў адваротным напрамку: ад свайго. Ужо новыя, несавецкія беларускія інтэлектуалы-літаратары на новым вітку беларускай гісторыі здраджваюць і сваім бацькам-пісьменьнікам, і чытачам, і ўласным юнацкім марам. А паслухаўшы некаторых, ствараецца ўражаньне, што яны часьцей бываюць у басэйне, чым гавораць па-беларуску.

Нарэшце, яшчэ адзін прыклад.



Днямі мне расказалі пра Валодзю Дамарацкага, работніка сталічнага аэрапорту. Яшчэ зусім нядаўна авіяпасажыры хадзілі глядзець на яго, як на адзінага беларуса, які гаварыў па-беларуску. І ён сапраўды паслугоўваўся толькі роднай мовай. А на пытаньне, навошта гэта яму, адказваў, што так яго выхавалі бацькі. Валодзя Дамарацкі ня быў ні беларускім пісьменьнікам, ні настаўнікам белмовы, ні сябрам БНФ. Проста ён пільнаваўся свайго. І гэтым падаваў прыклад.

Загінуў Валодзя недарэчна і бязь лішніх сьведкаў. Аднойчы грузілі партыю зброі для Пэру. Ноччу, безь сьвятла, парушаючы тэхніку бясьпекі (улады асьцерагаліся спадарожнікаў сачэньня ў небе і цікаўных вачэй на зямлі)…

Аэрапорт асірацеў. Транзытныя пасажыры засталіся бязь дзіва. Ува мне ж гэтая гісторыя падмацавала спадзеў на тое, што, мабыць, заўсёды знойдзецца беларус, які назаве рэчы сваімі імёнамі.

Інакш бы я не пісаў.

*Менск, кастрычнік 1998 году*



даючы побач. Яе лёгкая рука лягла на яго плячо, твар наблізіўся да ягонага твару, і ён адчуў яе незнаёмае дыханьне. — Напэўна, азяб?

— Ды не, нічога, — ціха адказаў ён, нечакана для сябе — амаль прыязна.

— Такі маладзенькі... Хочаш, я цябе пагрэю?

Салдат здрыгануўся ад настойлівага дотыку яе абедзьвюх рук, спрабаваў адхіліцца. Здаецца, ён спалохаўся і ўжо гатовы быў зьненавідзець сябе за той свой спалох. Але штосьць непадуладна калючае ўзьнялося ў ім знутры, і ён ваўкавата мовіў:

— Не награэліся... Там?

Жанчына ціхенька засьмяялася.

— Ды ну! Нагрээсься з вамі. Адзін стары, другі малы...

— Ну і хай, — сказаў ён. — Нашто ж тады вяжасься?

— Аташчалі, відаць. На жабах, — пасьля паўзы ўздыхнула жанчына і выразна з жалем сказала: — Што ж!

Пасьля, адхінуўшыся, скруціла цыгарку з «траўкай», прыпаліла ад дымнага дубчыка з вагню і ўстала.

— Думала, хоць парачку награжу. Дзеля помсты. Не атрымалася.

Салдат узьняў галаву — жорсткія словы жанчыны змусілі яго здрыгануцца.

— Чаго дзівісься? Кажу, нагрэдзіць хацела. Сьпідзікам. Такім маленечкім, невылечным. Мяне ж таксама салдат нагрэдзіў. Ну хай не салдат — афіцэр, якая розьніца. Так што табе пашэнціла, пацан! — жорстка паведаміла яна.

Салдат марудна спасьцігаў сэнс тых яе страшных словаў і ня ведаў, што адказаць. Дзякаваць або лаяцца. Хацелася запытаць: а як бамж? Але не запытаў. Хвіліну ён няўцямна пазіраў на жанчыну, якая, прысеўшы на кукішкі, са смакам зацягвалася «траўкай». Не дакурыўшы цыгарку, кінула яе ў вагонь і ўстала.

— Віднее. Пайду. На Ўкраіну ў які бок? Туды? — махнула яна рукой.

— Ну, — разгублена буркнуў ён.

— Я тут заплутала трошкі. Даўно не хадзіла. Іншыя справы былі, — наркота!

Наркота, наркота, — стукала ў ягонай галаве невыразная думка, і ён прыпамятаў яе ўчарашнія словы пра кілера.

— А кілер? — запытаў ён.

— Што? А, кілер! — спахапілася яна й засьмяялася, лёгка й шчыра. — А вы й паверылі!.. Ярунда ўсё. Гэта — па п'янцы...

Не разьвітаўшыся, яна хутка пайшла па сьцежцы да трысьняговай затокі, пасьля прыпынілася, і ў ранішняй цішыні сьвежа прагучэў яе недалёкі голас:

— І сьпід — ярунда! Схлусіла я вам. Так што ня бойцеся...

Салдат сьпярша падняўся, узіраючыся ў яе невялічкую на лесавым фоне постаць, затым апусьціўся зьбянтэжаны. І калі празь якіх паўгадзіны з абрыву да яго скочыў бамж, толькі сказаў:

— Пайшла.

— Хай ідзе, — абыякава азваўся бамж. — На Ўкраіне нарката дзешавей.

Салдат не хацеў яму ні пра што расказваць, ні тым болей — пытацца. Сам ён разумеў няшмат, але й таго, што ўцяміў, для яго хапіла...

Колькі наступных дзён іхны найбольшы клопат стаў — жабы.

Зранку бамж ішоў у недалёкае балота, там разуваўся, зьнімаў порткі і, асьцярожна ступаючы, лез у балота. Жабы і ня дужа ўцякалі ад яго, ляніва скакалі з-пад ног, і ён хапаў іх за даўгія жылаватыя лапы, піхаў у шапку. Праўда, жаб рабілася ўсё меней, трэба было добра палазіць па багне, каб налавіць на вячэру.

Салдат тым часам падкладваў у цяпельца дроваў і лез на абрыў. Паблізу ў бары ён ужо падабраў усё, што магло гарэць, цяпер па дровы трэба было ісьці далей, у дробны сасоньнік за баравым пагоркам. Здалёку цягнуць іх да рэчкі рабілася цяжка (ці, можа, хлопец так зьнясілеў), некалькі разоў на шляху ён адпачываў у доле, дарэшты спатнелы ў сваім зашмальцаваным бушлаце. Бушлата ён не скідаў ніколі, як ніколі не зьдзяваў свае кухвайкі бамж. «Усё мае нашу з сабой», — сказаў той аднойчы, як салдат заўважыў, што трэба б распрануцца, бо стала горача. Бамж не сказаў болей нічога, а салдат падумаў, што той, зь яго немалым вопытам, мае на гэты конт і пэўную рацыю. Ён таксама ніколі тут не распранаўся.

Пра палітыку яны не гаварылі, быццам палітыка іх не датычыла. Падобна было, што ў атамнай зоне яны выйшлі з зоны палітыкі, як і ўлады таксама, і падпарадкоўваліся адно ня менш строгім законам прыроды, законам выжываньня. Толькі аднойчы, як бамж прачнуўся на сьвітаньні, каб падмяніць салдата ля касьцярка, сказаў нібы ў працяг колішняй гутаркі ці, можа, чаго ўбачанага ў сьне:

— Знаеш, салдат, увогуле я — за камунізм. Начарта мне гэты капіталізм...

— Мусіць, таму, што капіталаў бракуе? — з усьмешкай сказаў салдат.

— Не, не таму. Пры камунізме мяне, мабыць, даўно б у турму пасадзілі. А тут пакуль каго не заб'еш, не пасодзяць.

— А вам што — у турму хочацца?

— Ня тое, каб хацелася. Але ў турме, калі параўнаць, — рай. Асабліва

Працяг на старонцы 12



# Старонка вершаванага радка



## Андрэй Аляксандраў

***

Вершаваная існасьць сусьвету
Зноў ціхутка ліецца у сшытак:
Сьвятасьць словаў старых запаветаў
Я складаю у веліч малітвы.

Пацалунак маўклівай самоты
Падарыла мне памяць каханьня.
Я сплятаю маўклівасьці ноты
У сымфонію новага раньня.

Цішыня застывае ў паветры
Златакрылым псалмом недапетым.
Уваходзіць ў душы маёй дзьверы
Вершаваная існасьць сусьвету.

***

Аблокі абыякава абмінаюць
Бацькаўшчыну.
Ведаюць –
Гэта грэх.
Ды дзе
Ёсьць
Жыцьцё?
Забытая зямля
Імчыць
Куды?
Любоў
Мадэлюе
Нянавісьць...
О,
Прабач,
Радзіма,
Сыноў
Тваіх!..
Урбаністычны
Фантом
Хаосу
Цяпер
Частка
Шляху
Эпохі
Юдаў.

Я...

## Аляксандар Антончык

ДЫЯЛЁГ

Каб пачуць адказы слушны
На свае пытаньні,
Я філёзафа спытаў
Неяк часам раньнім.

Чаму нарадзіўся тут найперш –
На Зямлі плянэце,
А ня ў космасу бязьмежжы,
У другім сусьвеце.

Зь белай скураю, ня чорнай
Як ночка пад дахам,
Чалавекам, а ня рыбай
Ці прыгожым птахам.

І цяпер, а не калісьці
У процьме зьніклых год,
Калі яшчэ Атлянтыда
Была вышэй вод.

Усе плянэты гэта што?
Можа электроны,
Сонца й зорачкі навокал,
Цяжкія пратоны.

У малекуле, што ймчыцца
У поле гравітацыі
І складаецца з сузор'яў
І грознай радыяцыі.

А галяктыка ў сусьвеце
Вока скарпіёна,
Ці кап'ё у дужых лапах
Зорнага дракона.

Адкуль прыйшлі продкі ўрэшце
У сьвет цудоўны гэты –
Зь дзікіх джунгляў Амазонкі
Ці з другой плянэты?

Адказаць на ўсе пытаньні
Што задаў ты, немагчыма, –
Мне сказаў філёзаф ціха,
Сумна бліснуўшы вачыма.

Сьвет, у каторым мы жывем,
Пераменны й хуткацечны,
У ім нічога не бывае
Пастаянным, вечным.

Ды й ці трэба ведаць ўсё,
Пра што марыць чалавек,
У прыродзе столькі зьяваў,
Не раскрыць якіх вавек.

Нам патрэбна тая мудрасьць,
Ўсе якую б разумелі,
І цяпер ці ў век наступны
Скарыстаць ў жыцьці сумелі.

Пройдзе час й нашчадкаў племя
Разгадае таямніцы,
Што хвалююць розум наш
І ў думках бурляць, як крыніцы.

Узгадаваць каб плод адказу
Ў хмызьняку трывог, сумненьняў,
Ім прыйдзецца вопыт ўсвоіць
Зьніклых у цемры пакаленьняў.

Лязом розуму узрушыць
Дзірван зь ведаў і падзей,
І ў ральлю укінуць зерне
Зь сьветлых думак, мрой, падзей.

Сусьвет моўчкі слухаў ўсё
Ледзяны стаіўшы дух,
Не спыняючы свой вольны
Гарманічна вечны рух.

## Зьміцер Бартосік

ГАСТЭЛА

Мы вучыліся з табой у розных школах,
Не суседнічалі нашыя дамы.
З тваіх вокнаў адкрываўся Верхні Горад,
А маімі закрываліся Шабаны.

Толькі нам ў мазгі адну навуку несьлі –
Як зручней вяліку родзіну любіць,
І што для подзьвігу сапраўднага ёсьць месца
Нават ў нашыя шчасьлівыя часы.

Ты выдатніцай была, напэўна, ў клясе
Зь ясным лёсам, расьпісаным на гады.
І нічога ў час той не перадвяшчала
Ні сустрэчы нашай, ні маёй бяды.

Калі ты ў «Ін'язе» спасьцігала інгліш,
Я скончаў ужо вучэльню ВПС.
Ледзь пагоны мы дзьвюхзорныя абмылі,
Як вялікай родзіне прыйшоў канец.

Ах, як лёгка забываліся мы ў тым годзе
На урокі, што ў няпамяць адыйшлі.
Нам здавалась – сонца іншае ўзыходзіць
На маіх нябёсах і тваёй зямлі.

Сярод тысяч твараў пляцу нашай волі
Свайго шчасьця твар убачыў я здаля.
Й аднаго пагляду нам было даволі,
Каб сыйшліся нашы неба і зямля.

Ды ня толькі ад каханьня дні і ночы
Быў гатовы ад каханьня я парыць.
На маіх крылах зьявіліся аднойчы
Колеры аблокаў родных і зары.

Усё часьцей мы песьні новыя сьпявалі,
Не шкадуючы ахрыплых галасоў.
І кілішкі мы ўздымаць не пасьпявалі
За прасоўваньне НАТО на усход.

Толькі па вясьне заўжды бывае восень,
І не бывае перамогаў без крыві.
І аднойчы у нялётнае надвор'е
Нашыя з табой дарогі разышліcь.

Та вясна замецена трыма зімамі,
І твой шлях згубіўся у чужой зямлі.
Я ў палку стаю ўжо першым на сьпісаньне.
Ты ж пасольствуеш у рэспубліцы Малі.

Ды Айчыну я любіць не развучыўся,
Як не забыўся на той даўнішні урок
Пра Гастэлу лётчыка. Таму аднойчы
Я зраблю па палацe апошні крок.

І ў нябёсах, падуладных толькі «МІГ»ам
Свой займу апошні агнявы рубеж,
Каб разьвітальны позірк кінуць на радзіму
І па ёй паўзучы «уражаскі» картэж.

І калі ў сваёй Малі ты будзеш ведаць
Пра падзею, што чакалі ўсе даўно.
Мілая, ты не пакутуй на сумлевы,
Хто той подзьвіг зьдзейсьніў і дзеля каго.

Не сумуй па шчасьці і ня плач ад гора.
Памяні ты лепш прайграныя гады,
Дзе з аднаго вакна быў бачны Верхні Горад
А з другога адкрываліcь Шабаны.

## Аляксей Бацюкоў

***

Я не чакаў,
і я чакаць ня стану
вяртаньня
чорных дум і цяжкіх мрой.
Я не ўбачу, як абрынуць храмы.
Мяне ня будзе там,
дзе крылы
за сьпіной.

Я не прыйду на крык,
што клікае на сьвята,
дзе сьмех над жалем –
свой, чаканы госьць.
Дзе кожны першы позірк –
халодны позірк ката.
Дзе п'юць, не каб забыцца,
а каб забыць пра штось.

ВОІН

Паўзе туман па іклах веж.
Трывожны вой натоньчыў нож.
Як выйдзе сонца з начных леж,
усьціхне сьвет. Напнецца дождж
на злую лінзу гнуткіх стрэл.
І лопне ціш. І ўскочыць вой.
Наўкол ўзбуяюць рухі цел.
Шалёным псом заенчыць бой.
Кідкі сякер смугу распнуць.
Патоне поле ў хвалях плеч.
Нож воя знойдзе ўдар у грудзь.
І грудзі воя знойдзе меч.

## Валеры Барташэвіч

***

Па праспэкце ідуць вэтэраны,
Зь іх ня мае ніхто нават раны,
Баявым мэдалём «За адвагу»
Ацанілі іх службу ў Гулагу.
Ну а той, што ў калёне быў першым,
Шчыраваў дазнавальнікам СМЕРШа.
Гэты, што без рукі, зухаваты –
Разабраў у дзяцінстве гранату.
А каторы кульгае пратэзам,
Свае ногі трамваем адрэзаў.
Ды усе яны маюць даведкі,
А калі запатрэбіцца, й сьведкаў,
Як хадзілі адважна ў атакі...
Успаміны складаюць са смакам,
Як усе ваявалі цудоўна,
Як Эўропа вітала шаноўна,
Як ім кветкі кідалі пад ногі –
Сустракалі салдат Перамогі.
... Каго ж куля у бойцы скасіла,
Таго косьці ў балотах Расіі,
І па сёньня ён не пахаваны,
Груганы разьдзяўблі яго раны.
Ды каму ёсьць да гэтага справа.
Але ж сьвята ўдалося на славу,
Духавыя аркестры іграюць,
Мэдалі юбілейныя зьзяюць.
.........................
Атрымала матуля абвестку,
Што сынок яе згінуў бязь весткі.

## Тацяна В.

***

Песьню, складзеную сотні год таму,
Слова, сказанае кімсьці ў мінулым,
Захавайце, як найлепшы скарб
І спазнайце сэрцам іх прачулым.
Адрачыцеся ад усіх трывог,
На хвіліну супакойце душу,
Станьце на калені ў пыл дарог –
Сэрца хай ня ведае спакусаў.
Дакраніцеся да роднае зямлі,
Далучыцеся да харства жывога...
І даруюцца тады грахі,
Песьня загучыць тады нанова.

***

Жыцьцё праляціць, як гарачая зьнічка,
Забудуцца мары, надзеі й быцьцё –
Застанецца мэта: нанова ўзрадзіцца...

***

Павольна адыходзіла душа
І быццам думала
Вярнуцца ў цела,
Якому ўжо нічога не балела
І стомы не было.
Яна ў неба сіняе ляцела
І бляскам сонечным
У вочы тым глядзела,
Хто заставаўся на зямлі...

## Людміла Гулюк

***

Дваццаць гадоў.
Што можа быць лепей
За гэты час у жыцьці!
Душа перапоўнена радасным сьветам,
І мрояцца далі, шляхі.
Шляхі маладосьці!
Куды вы вядзеце,
У якую бясконцую далячынь?
І колькі наогул вас у сусьвеце?
А ты застанесься між імі адзін...
Апынецца зноў перад выбарам хтосьці,
Жыцьцё патрабуе, каб ён вырашаў:
Спыняцца і жыць па законах цьвярозых,
Дазволіць агню, каб ён загасаў.
Ці жыць, не зьвяртаючы ўвагі на розум,
Бо розум ня гук імкненьняў душы.
Ісьці, перадольваць адчай свой,
Нязгоду з сабою і зь іншымі навокал людзьмі.
Дык вось ён, сэнс жыцьця чалавечага:
Імкнуцца да нечага сьветлага, вечнага,
Плясьці павуціньне з надзеяў і мар,
Вось толькі каб вецер яго не парваў...

ВОСЕНЬ

Ізноў прыходзіць восень,
Восень маёй адзіноты.
Сум не дае спакою,
Быццам шолах апалай лістоты.
Навокал шэрань і холад,
І дождж усё ідзе бясконца.
Душа крычыць няўтомна
І прагне кавалачку сонца.
Сонца душы чалавечай,
Каб было дзе спыніцца, сагрэцца
Ад холаду восені гэтай,
Якая здаецца ўжо вечнай.
Божа, даруй мне гэту атруту,
Адчай, што няспынна палоніць душу,
Запалі ў ёй сьветлую зорку надзеі,
Каб не засталося больш сумневу і цені.
Так хочацца верыць,
Што прыйдзе яна,
Вясна незабыўнага шчасьця,
Свабоды вясна, цяпла і сьвятла,
Вясна майго юнацтва.

## Марына Неўгень

ДАРОГА

Цяжкая дарога й думкі ня сьпяць,
Надзею на Бога ў душы не суняць.
І цягнецца неба нібы ў нікуды,
Імчысься да мары – сядзіш ля бяды.
У сьне крыжаванкай жыцьцё паўстае,
Але неадступна й гучна пяе
Нязгасная моц супраць кожнай бяды –
Надзея на цуд у вачах і душы...

БЛЮЗ-РОКАВАЯ ПЕСЬНЯ

Колькі каштуюць твае думкі,
Думкі бяз крылаў і бязь неба,
Што парадзілі твае рукі
Чорным алоўкам на чорнай паперы?
Час – гэта лепшы з усіх доказ –
Я не магу больш табе верыць.
Цела стамілася быць некім
І адчыняць для цябе дзьверы.
Колькі каштуюць твае словы,
Што ты ня скажаш мне ніколі?
Колькі каштуе твой твар новы,
Што прынясе яшчэ шмат болю?
Толькі ня мне, бо зь мяне хопіць.
Я перастала табе верыць.
Цела стамілася быць ценем
І адчыняць для цябе дзьверы.

Я размалюю свае сьцены
Фарбамі з пахам цьмяной ночы,
Каб перакрэсьліць нямы шлях твой,
Што зазірнуў у мае вочы.
Час – гэта лепшы з усіх доказ –
Я не магу больш табе верыць.
Цела стамілася быць ценем
І адчыняць для цябе дзьверы...

## Зьміцер Піскур

ДЛЯ А.

О, восень! У вагні тваім
Палае сьвет. Самотны пілігрым
Ідзе нясьпешна. Хто шукае скарбы?
Дарэмна, вецер зблытаў фарбы.

Літоўскай восені забыты бог
Засумаваў, віном напоўніў рог.
Ды што віно, ім не суняць тугі,
Калі ў сябрах – чужынскія багі.

## Браніслаў Пяткевіч

ТАПЕЛЕЦ

У вадзе салёнай і сьцюдзёнай
Чалавек згубіўся сярод хваль.
Тут акіян у прышласьці штодзённай
Спраўляе свой шумлівы баль.
А ён прыйшоў зь зямлі вялікай,
Каб плыць туды, дзе будзе не ў бядзе,
Дзе больш няма злачыннай здрады
дзікай,
Дзе вольная душа свабодна йдзе.
Але вада бясконцая, як неба,
Бяз выспаў-стойбішчаў, утульных
берагоў,
Ня дасьць аслабламу цяпла і лусту хлеба,
Ня ведае для літасьці замоленых багоў.
Пачулі крык ратунку у зьнямозе
Тапельца зь берагу, дзе ён радзіўся, рос,
І нібы праваднік у хуткай дапамозе
Туды направіўся стралою альбатрос.
Ратунак даў для сэрца імпульс моцы,
Спагаду ветлую знаёмай грамады;
У кроў уліў жывы бальзам эмоцый,
Каб ад бацькоў ня зьехаць нікуды.

## Алесь Шадрын

***

*Пераклад верша М. Гумілёва «Как труп, бессилен небосклон».*

Як труп, бясьсільны неба мур,
Бы злодзей выкрыты – Зямля,
Пячаць злачынных тых хаўтур
На ёй – злавесным змрокам дня.
Наш глузд, зьбянтэжаны зямны,
Ў яго глыбінях – чорны страх,
Як цень жалобнай чарады
Варон, на зморaных палях.
Але дзе ж сонца, месяц дзе?
Дзе тайна – сьмерць і цуд – жыцьцё?
Няўжо ня п'янае цяпер
І песьняй залатой быцьцё?
Іх Лёс – іх маці, дзе яна?
Няўжо ня ўбачыць, не спаткаць?
Што пенай палкага віна
Любіла сьмертных ап'яняць?
Дарма пагляд цяпер лавіць
Нясьмелы, – усё вакол падман
Ды жах, ды прагне атруціць
Нас джалам паўзуна туман.
І мовіць хваляў нам гурток,
Што ў мора шквал бурлівы зьнёс
На дно, навечна, той чаўнок
Ў якім калісьці плыў Хрыстос.

## Алёна Шарэпа-Лапіцкая

НОЧ

Хавала Ноч высокіх соснаў кроны,
Дзе вецер так злаярасна гудзеў;
Кідаўся ён, разьюшаны, шалёны,
І з помстаю ламаў галіны дрэў.

Хавала Ноч ад немарачы буйнай
Ўсё, што было адчынена вятрам,
Крылом сваім – пяшчотліва і чуйна –
Нясла ахову кветкам і садам.

Хавала Ноч і ў цемры парывала
Маленькіх птушанятак у гнязьдзе
І з прагнасьцю уважна пільнавала,
Каб аніхто зь іх не загінуў анідзе.

Хавала Ноч ў зацішшы сваім струны,
Што зазванілі звонкага званчэй
І напалі водгукі задумай,
І ў цемрадзі азваліся грамчэй.

НА ДОСЬВІТКУ

На досьвітку закружыць вецер лісьцьмі,
Уначы з кляноў сарванымі даўно,
І, ашалелы, кіне іх са сьвістам
У возера глыбокае на дно.

І буйна паламае вецьце,
Каб на вясну не расьцьвіло яно,
Каб успамінаў аб мінулым леце
Ўжо аніякіх у садзе не было.

Пасьля вясна к нам завітае рана,
Як на зары даўно жаданы госьць,
Яна напомніць гэтак нечакана
Загубленую нашу маладосьць.

Калі ж вясной духмянае суквецьце
Тугу тваю разьвее ўсю, як дым,
Тады ўспаміны аб мінулым леце
Зноў зацьвітуць у сэрцы маладым.

## Натальля Шкапіч

***

Квітнее сонца.
Калюга дрэмле сонна.
Каменьні лашчацца пяшчотнаю шчакой
Да Вашых ног.
Мая адзіная турбота –
Цьвісьці як ружа дзікая
Пад Вашаю ракой.
Я слухаць голас Ваш
Да раніцы гатова.
На небе поўня, а ў сэрцы сну спакой,
Прыціхлі хвалі Нёману,
І толькі слоў замова
Сухой травінкаю аціхне пад нагой.

ЧАС ВЯРТАНЬНЯ

Горкі, зьдзічэлы палын –
Над узгоркам душы ўздымаецца.
А часу пакутнага млын –
Без спачынку наперад сьпяшаецца:
Бачыш? Лётаюць пёркі.
З павуціньнем завея сплятаецца.
Гэта самотны мужык-беларус
Да Маці-Радзімы вяртаецца.

## Уладзіслаў Я.

МАЦЕЮ

*Nia pokidajcie ż mowy naszaj Biełaruskaj, kab nia umiorli...*

Maciej Buraczok

Эх, Мацею братка, можа табе чутка,
Як зь зямлі зьнікае любы твой народ.
Як ў полі завея, адыграла дудка,
І няма пад што ўжо выйсьці ў карагод.
Адбіраюць душу і касуюць памяць,
Больш няма музыкі, каб наноў зайграць,
І зьнішчаюць мову, а народ ня ўцяміць,
Мусіць пад чужую дудку танцаваць.
Гэй, Мацею братка, калі табе чутка,
Ты да Бога бліжэй, выпрасі нам лёс.
Каб паслаў музыку, ды каб была дудка,
Бо няма ўжо моцы і няма ўжо сьлёз.
Хай яна зайграе, каб суседзі чулі,
Каб зямля хадзіла, нібы землятрус,
Каб яны да раньня ў дзень той не паснулі,
Чулі, як танцуе «немы» беларус.



# Старонка празаічнага радка

Яўгіньня Каляда

## СЬПЯВАЙ МНЕ ПЕСЬНЮ ПРА КАХАНЬНЕ!

Калі за мною прыйдуць санітары...
NRM

Цёплы пясок пяшчотна казытаў ступачкі і лашчыўся, і лез цалавацца ўсё вышэй... І ўсё было б добра, але была ў пяска мара – сплысьці ў Акіян. І пясок сплываў, забываючыся на ступачкі...

Вады ў Акіяне было Ей ужо па калені. Дакладней, усё яшчэ па калені, бо крочыла Яна ў блакітнай вадкасьці ня менш за гадзіну, калі ня болей. Бераг (сапраўдны БЕРАГ, а ня пошлы пляж) згубіўся недзе за сьпінаю, а можа, і не за сьпінаю: увесь далягляд быў адзінаю блакітнаю рысай. Згуба берагу пагражала, у лепшым выпадку, вар'яцтвам, таму Яна вырашыла проста патануць.

Акіян прыняў гэтую ахвяру як заканамерную даніну. Ён усмактаў ейнае маленькае цела, і зноўку маленькія хвалі нетаропка пабеглі па ягонай паверхні ў невядомым напрамку.

Першы ўздых пад вадою быў балючым для Яе, як першы ўздых немаўляці; як, зрэшты, балюча ўсё тое, што ўпершыню. Жабры, што раней ня мелі магчымасьці функцыянаваць, зараз распраўляліся, прапускаючы праз сябе салёную, бы сьлёзы, ваду...

Нарэшце Яна патрапіла на глыбіню. Блакітны колер вады зьмяніўся цёмна-сінім; таемна паблісквалі белым закручаныя ракаўкі, цягнулі да іх свае гнуткія пальцы каралы, сноўдалі паміж імі стракатыя рыбкі. Яна плыла, быццам ужо дасягнуўшы мэты, у НІКУДЫ, упэўнена разграбаючы рукамі родную стыхію; луска на ейным хвасьце паблісквала фіялетам.

Але нейкая невытлумачальная незавершанасьць не давала Ей дасягнуць падводнага ідэалу.

Неўзабаве думкі й пачуцьці неяк акрэсьліліся й пацяклі ў пэўным напрамку. Яна рэзка павярнула й паплыла з Сусьветнага акіяну ў бок рэчкі Сьмярдзючкі.

***

Калі Яна вынырнула недзе на ўскраіне, на Горад апускалася шарая гадзіна. Чорная страшная вада зь вясёлкавымі плямамі калыхала жоўтае, рудое, чорнае памерлае лісьце, што ліпла да плячэй. Восеньскім холадам праціняла ўсё цела, але Яе гэта мала турбавала. Яна апантана плыла супраць плыні й лічыла масты.

Але нарэшце ў раку з каменнымі берагамі пралілася жоўтая фарба ліхтароў; гукі аўтамабіляў зьліліся ў адно суцэльнае шаргатаньне, віскат і лязгат.

Яна спынілася пад патрэбным мастом і пачала чакаць. Сонца не пакінула па сабе ані згадкі; вецер усё ўзмацняўся і (жартам ці зьдзекам?) шпурляў лістоту з прыбярэжнага парку проста Ей у твар. Машыны нешта гулі аб згубленай, але блізкай утульнасьці; крокі на мосьце былі таропкімі й чужымі. Яна не хацела прызнавацца самой сабе, што ў кастрычніцкай вадзе ВЕЛЬМІ ХАЛОДНА.

Узмацнялася крыўда на сябе, на восень, на вецер, на машыны й людзей, што беглі да ўтульнасьці, урэшце, на Яго...

Яшчэ хвілінаў праз дваццаць бясконцага чаканьня ейнае сэрца нарэшце звыкла сьціснулася. Яна пачула ягоныя крокі. Яшчэ тады, калі Ён крочыў па парку. Усё адбывалася па складзенай раней (толькі кім?) праграме. Як і чакалася, ён шпацыраваў па вечаровым праспэкце, завітаў у парк, спыніўся запаліць на мосьце, зірнуў у ваду.

Яна раўніва перахапіла ягоны позірк у чорных хвалях.

– Русалка... – прамовіў Ён, гледзячы ў чорную ваду.

– Гэй, прывітаньне! – крыкнула Яна, замахаўшы рукой, спадзеючыся на радасьць у адказ. – Мы ня бачыліся цэлую вечнасьць! Як справы?

Ён з асалодаю зацягнуўся гаркавым дымам, выпусьціў у неба белую аблачынку.

– Ну, прывітаньне.

Прамова была адрасаваная рацэ.

– Гэй, глядзі сюды! Ізноўку ўночы ня спаў? – яна вырашыла ня крыўдзіцца.

– Разумееш, я рады цябе бачыць. Насамрэч рады.

Ён пстрыкнуў недапалкам у ваду. Чырвоны агеньчык праляцеў ля ейнага вуха, закрануў валасы й з шыпеньнем затануў.

– Я рады цябе бачыць. Але калі ты кожны вечар будзеш прыплываць пад мост... Я люблю прыходзіць сюды, калі сядае сонца. Я разважаю, які нешчасьлівы ў мяне лёс, і што немагчыма нічога зьмяніць. А твая прысутнасьць...

Яна вырашыла ня плакаць, бо ці мае права плакаць мокрая дзяўчына? Зрэшты, якая дзяўчына? Русалкі наагул плакаць ня ўмеюць.

– ... А твая прысутнасьць замінае мне думаць пра тое, які я няшчасны. Было б добра, калі б ты гэта зразумела. Русалка...

Ён зьбіраўся сыходзіць. Проста ісьці дадому. І тут яна зразумела галоўную праблему.

Як Ей карцела пайсьці зь ім! У той бок, дзе ліхтары вісяць у гальлі, дзе шуміць у парку памерлая лістота, дзе ня крышыцца пад нагамі ўчора пакладзены брук і дзе цячэ з крану гарачая вада.

Але ўчарашні брук і стары парк, ліхтары й гарачая вада – гэта ягоная дарога. А ейная – халодная чорная вада, што вядзе ў Сусьветны акіян зь незьлічонымі ракаўкамі й караламі...

Проста два розныя шляхі. І на халеру нехта прыдумаў масты?

«Ён сыходзіць! Сыходзіць!»

Яна сутаргава кінулася да каменнага берагу, ліхаманкава складаючы плян. Самым галоўным было адмовіцца ад думкі аб Сусьветным акіяне.

«І на халеру ён мне? Жыла ж неяк раней безь яго й не здагадвалася, што існуюць нейкія акіяны! І няблага жыла!.. І што я там згубіла? Вада, вада, рыбы, ракаўкі...»



Акіян не пускаў: вабіў падводнай свабодаю, новымі вымярэньнямі, празрыстымі палацамі...

Яна ўжо падплыла да набярэжнай; камень апёк пальцы холадам, плечы дробна калаціла. Рукі, якімі яна спрабавала зачапіцца за край, зусім ня слухаліся, але Яна з казінай упартасьцяй спрабавала выкараскацца на зямлю.

Ягоная сьпіна ўжо згубілася паміж іншымі, такімі ж шэрымі й бясформавымі. Апошні ейны позірк наўздагон быў ужо позіркам у натоўп.

І тут Акіян заглынуў Яе.

***

Акіян... Як яна магла калісьці выракчыся яго. Як магла калісьці марыць праменяць яго на ванну з гарачай вадой? На азалелыя, запыленыя прысады? На псэўдагорад з псэўдабрукам? Зрэшты, на несапраўднае шчасьце?

Акіян... Бязьмежная, сапраўдная свабода, вечны рух і шчасьце, трывожнае недасягальнае шчасьце... А калі вынырнуць на паверхню – будзе біць у вочы магутнае, усевыратавальнае Сонца...

Вольга Колас

## ВОСЕНЬСКІ НАСТОЙ СУМУ

Мы ў восеньскай тузе. Нельга хадзіць з заплюшчанымі вачыма, а таму мы бачым, як паступова, з кожным днём усё больш і больш зьяўляецца састарэлых жабрацкіх лістоў ля нашага дому, ля нашых ног. Разгубленыя, яны мітусяцца ад дрэва да дрэва, паміж чыстай некранутай вышынёй і земляным падолам, расшытым цяжкімі перакрыжаваньнямі непрыгожых узораў.

***

Восеньскі настой суму і трагічнага спакою ўжо прыгатаваны. Дрэвы, расьліны пачынаюць піць яго, не сьпяшаючыся, смакуючы кожны глыток. Першым зьмяняецца неба, бо ўвышыню накіраваная пара з гарачага кубка. Яно больш ня гладкае, а шарахаватае, і здаецца, пакутуе ад цяжару і напружаньня вечнага вісеньня над незразумеласьцю людзкога жыцьця, заціснутага паміж дзьвюх скал – скалой нараджэньня і скалой сьмерці. А неба – як далёкі мост, што ўверсе злучае дзьве вострыя вяршыні. Гэты мост пусты. Ніхто ня ходзіць па яго старых дошках. Ён адзінокі. Ён бачыць шмат і ведае іншыя сьветы, аднак нікому ня можа пра іх паведаць і застаецца разам з сваімі сакрэтнымі і глыбокімі думкамі сам-насам.

***

Ходзім па падгарэлых лістах, адчуваючы восеньскі пах. Глядзім праз паўпразрыстыя дрэвы ў мутна-суровае неба.

Так было ўчора. Так будзе заўсёды.

***

Выкладчыца ангельскай мовы распавядала пра знаёмага лёнданца, які вядзе дзёньнік на працягу трыццаці гадоў, кожны дзень аздабляючы сваё жыцьцё чарнільнай рамай. Што ён піша? Навошта? Хоча пакінуць пра сябе памяць нашчадкам? Ці, мо, гэта дапамагае яму разабрацца ў самім сабе? У мяне няма цярпеньня кожны дзень нешта занатоўваць, ды я й не лічу патрэбным гэта рабіць. Ці так важнае штодзённае жыцьцё асобнага чалавека? Ці так значная адна хвіліна ў шасьцідзесяцьці такіх жа, як яна? Элемэнты складаюць сыстэму. Без забытай дробязі парушаецца цэласнасьць, ёсьць незавершанасьць. Не дакладзены адзін плястмасавы кубік у ялечную піраміду, і яна ўжо –недабудаваная піраміда.

Незавершанасьць патрэбная і часам выклікае больш сымпатыяў, бо яна ставіць ня кропку, а шматкроп'е... пакідае месца.

***

Пахнуць сухія лісты, поўзаючы ля падэшваў, адстаючы ад хуткасьці чалавечых крокаў. Шумяць абуджаныя дрэвы. Цёплы вецер здароўкаецца ў твар. Хочацца палётаць разам зь лісткамі. Лісты фіялетавыя побач з зусім зялёнымі, яшчэ не прытаптаныя, мацаюць паверхню калядрэўнай зямлі.

***

Дождж забурчэў у захварэлы вечар. Кроплі, нібы сотні конікаў, скакалі па прываконьні й не дазвалялі заснуць. Мы былі запрошанымі асобамі на гэтым незвычайным канцэрце.

***

За вакном восень, за вакном машыны. Малады каштан застаўся безь пялюшак і хныкае ад кастрычніцкага холаду. Адно дрэва нязвыкла тоне ў ліставой паводцы. Хто сьмяецца? Вецер? Не. Неба? Не. Навокал прысьцішаная неразьбярыха.

Ксенія Печка

## ЗАХАПЛЕНЬНЕ

Д. быў пісьменьнікам. А можа й не. Але ён лічыў за лепшае называць сябе так, хаця й быў хворы на паранаідальную графафобію. Псыхолягі ведаюць 237 відаў страху. Гэтая хвароба была асабістым адкрыцьцём Д., чым ён употай ганарыўся.

Д. лічыўся слабавольным і няўдачнікам. Так казалі ўсе, а ён і не пярэчыў. Большасьць часу Д. ляжаў на старой канапе, чытаў, а зрэдку адкрываў альбом сучаснага мастацтва й падоўгу, быццам спрабуючы нешта ўцяміць, разглядаў Дзюшанаўскі пісуар з чульлівай назвай «Фантан».

І вось аднойчы на канапу прысела Муза, старая, як сьвет, дзівачка, у цёмных акулярах і зь люлькай у роце...

Так на сьвет нарадзіўся ягоны славуты дэтэктыўны раман, а ў Д. урэшце зьявіліся грошы...

У хмуры верасьнёўскі дзень ён адляцеў у Нью-Ёрк. Адшукаў архіў Бэтмана. Там, як паведамляюць каталёгі мастацтва, захоўваецца галоўны праект дадаіста й шахматыста Марсэля Дзюшана, фарфоравы «Фантан»...

Ужо праз некалькі дзён Д. быў дома. Яго чакалі канапа, безграшоўе ды прыпадкі графафобіі.

... Жыцьцё крочыла далей па мокрым асфальце, зьняўшы боты й падкасаўшы калашыны.

Юры Чарнякевіч

## АДВЕЧНАЕ

Ён узьнік нечакана і менавіта ў той момант, калі я, стаючы на даху дзевяціпавярховага будынка, на мяжы двух тысячагодзьдзяў, на мяжы жыцьця й сьмерці, прытульваў да сябе апошнія думкі ды хваляваньні, разважаючы пра бясконцасьць існаваньня.

Незнаёмы, быццам бы ў нечым падобны да майго бацькі, падышоў, павітаўся, і, чамусьці нічога не распытваючы, не марудзячы, ціха сказаў:

– Хадзем са мною.

Я ўтаропіўся на яго.

– Куды? – крыху зьдзіўлена ды амаль абыякава запытаўся, бо зараз мне было вельмі балюча слухаць, і больш за ўсё я жадаў застацца сам-насам з доўгачаканай, спраўджанай марай.

– Вось туды, – Незнаёмы паказаў рукою на захад, дзе памірала сонца. – Туды, у іншыя мясьціны, дзе няма чаго шукаць, і дзе мроіцца жаданьне. Калі хочаш убачыць краявіды краіны, людзей, спатоліць сваю цікавасьць – дык хадзем. Ты будзеш адным з тых, што завуцца прарокамі, што хаваюцца ад бальшыні простых людзей, не разумеючы сваёй праўды, сваёй навукі й веры. Тамака, куды я цябе клічу, няма злосьці ці нянавісьці, таксама, як дабрыні ці пяшчоты. Ты будзеш дасьледаваць невядомае, спрабуючы зразумець абсурднае, але ўсё роўна застанесься сабою, бо зьмяніць цябе ўжо немагчыма. Нас чакаюць шляхі, – сказаў ён зусім шэптам.

Ён казаў яшчэ шмат словаў, упрыгожваючы зьмярцьвелую будучыню, і, распавядаючы, усьміхаўся... Ягоная сьціплая ўсьмешка вельмі прывабная, занадта сумныя вочы, што здаваліся нейкімі, так бы мовіць, несапраўднымі...

Я разважаў. І тады гэты сталы чалавек сказаў, што вандроўка нашая ня будзе надта доўгаю, і што апасьля мне можна будзе рабіць што заўгодна.

Калі ён прамовіў мяккае «апасьля», мяне званітавала... І я пагадзіўся...

А калі мы пакрочылі па шляхах: я, Вучань, і ён, Настаўнік, сьвет апрытомнеў.

Ужо Ненезнаёмы, вучыў мяне ўсяму, што ведаў і казаў: «Памятай пра сон. Пра сон сну. Пра сон думкі. Любы сон мерцьвякоў».

Зрэдчас мы лёталі ў горным ад зорак небе, і тады ён, тады Ён, паказаўшы мне маю плянэту, сказаў сарамліва: «Кахай». І я закахаўся.

А потым, калі мы ўбачылі чалавекаў, Настаўнік не сказаў анічога, але я ведаў: яны – гэта мы.

Ён навучыў мяне слухаць сваю душу, і я зразумеў, што ёсьць шчасьцем. Сядзець дзе-небудзь, што-небудзь даказваць сябру, якога дагэтуль ня ведаў, хоць і быў ён заўжды поруч –найвялікшая радасьць. Уначы, на самоце, калі найбольш выразна гучалі словы ў паветры ды ўва мне – ціша памірала назаўсёды. І мне было вельмі кепска.

Мы блукалі думкамі й целамі. Я даведаўся, што Яму ўжо больш за тысячу гадоў. Тое мяне вельмі ўразіла й зьдзівіла. Ня мог я ўцяміць, чаго ж не памірае Ён, як яшчэ не абрыдла тое даўжэзнае існаваньне.

І, неспадзяванкаю, надышло адчуваньне жыцьця. Я зразумеў, што амаль нічога не зрабіў, амаль нічога ня зьдзейсьніў, амаль нічога не напісаў. Я жадаў Жыцьця! Я дамогся яго! Далучыўся да яго...

Але ўсё добрае, як і дрэннае, заканчваецца.

Мы прыйшлі на тое ж месца, дзе сустрэліся. Ён перапыніў мае словы падзякі сваёй безрухомасьцю. І прамовіў:

– Калісьці жыў чалавек. У яго, як і ўва ўсіх, было мрояй бесьсьмяротнае жыцьцё. Жыць... Жыць...

Калі ён спазнаў жах ад усьведамленьня сваёй сьмяротнасьці, да яго завітала Сьмерць. Праз дамову зь Ей было набытае шчасьце, несьмяротнае шчасьце... Ды кожны год Чалавек павінен прынесьці сваёй Гаспадарыні маладую душу, душу такую, што жадае да скону тварыць. Гэта ёсьць адзінай умовай, злучанай словам. Ці зразумеў ты, хто той замоўнік.

Бадзёра адказаўшы на запытаньне ходарлявай істоты, – думаю, што бадзёра, – я пасьпяшаўся зьнікнуць. Але невядомая сіла штурханула мяне ў грудзі...

... Страціўшы прытомнасьць і ўжо не адчуваючы болю, я зьляцеў далоў з таго даху ў салодкую, як сон, цемру, а ўверсе, пэўна, застаўся прывід са сьлязьлівымі й сумнымі вачыма, лёкай Вялікага Вандраваньня – шчыры й няўрымсьлівы Бог.

Андрэй Дынько

# ЭРЭКЦЫЯ КУЛЬТУРЫ

Нобэлеўскую прэмію ў галіне мэдыцыны далі стваральнікам сыдэнафілу, вядомага пад камэрцыйным найменьнем «Віягра». Фактычна, нобэля далі таблетцы. Беспрэцэдэнтнай, бо ніякі іншы лек не дасягаў так хутка сусьветнай вядомасьці, не выклікаў такой дыскусіі ў мэдыях і не даваў сваім вытворцам зарабіць менш чым за год больш за мільярд даляраў.

У галіне літаратуры прэмія напаткала нічым не адметнага партугальца Жазэ Сарамагу, чыя творчасьць ні ў кога не выклікае асаблівай цікавасьці.

Мэдыцынскі нобэль больш прадуктыўны, як з чыста прыкладнога – упершыню мэдыцына прапануе настолькі канкрэтны сродак лячэньня мужчынскіх праблемаў, – так і зь філязофічнага гледзішча: дыскусіі пра сутнасьць сучаснай мэдыцыны, ацэнку наркотыкаў як такіх, роўнасьць мужчын і жанчын, этычную праблематыку асалоды або практычныя дэбаты пра тое, якія мэдыкамэнты дзяржава (то бок, здаровае цела грамадзтва) мусіць субсыдаваць.

Пра Жазэ Сарамагу ў «Нашай Ніве» напісалі. Ці напішуць культурніцкія («літаратурна-мастацкія», як фармулюецца ў рэгістрацыйных дакумэнтах) выданьні пра нейкага іншага нобэля, апроч літаратурнага? «Наша Ніва», здаецца, не пісала ні разу. Дзяржаўныя ж, «ЛіМ», «Культура» ды іншыя, увогуле перабываюць у глыбокім маразьме й ягоным непаўторным прычудным сьвеце. Зацікаўленьні – або іх адсутнасьць – гэта партрэт, «партрэт у люстэрку», нашай інтэлігенцыі.

Марна спасылацца на тое, што чытачам «Нью-Ёркеру», «Эспры», «Эль Паіс» ці кіеўскай «Крытыкі» ***гэта*** цікава. Ня ведаць моваў, не чытаць – гэта пазыцыя, сьветапогляд тых, хто прэтэндуе на рэспэктабэльную прыналежнасьць да «традыцыяналістаў», «рэалістаў», «клясыкаў». Пісаць пра гэтыя спансараваныя дзяржавай асяродкі, гэты дыскурс, гэтыя рэдакцыі – гэта пісаць пра ***нямытыя шыбы***.

Як агул нашай сытуацыі, так і нашыя думкі вылучаюцца сваёй ***нястачай***. Агульнае ўбоства беларускай рэчаіснасьці, хоць на выгляд здаецца непазьбежным, папраўдзе ёсьць цесна зьвязаным з убоствам мысьлі і абумоўленым неахвотай глядзець і слухаць. Гэтае, як піша Булгакаў, зганеньне выклікае пагарду, бо яно дабраахвотнае.

Беларускае зноў звузілася нават не да «культуры і мастацтва», а да этнаграфіі й пары плыняў літаратуры й незалежнай музыкі, і часта яно само хаваецца ў гэтую каляніяльную шкарлупу.

«Беларуская літаратура тоесная Беларусі. Пры адсутнасьці рэальнай, дзяржаўнай Беларусі літаратура пакліканая замяняць яе, выконваць яе ролю. Пісаць у адпаведным стылі значыць ствараць у пэрспэктыве рэальную Беларусь. Літаратурнае адраджэньне тоеснае культурнаму й нацыянальнаму адраджэньню». Гэтыя праграмныя пастуляты, а фактычна ўтопіі сярэднеэўрапейскіх народніцкіх ідэалёгіяў у Беларусі дагэтуль жывыя, толькі іхны аб'ект трохі пашырыўся. Дзіўна, што іх прыўлашчваюць і тыя, хто стасуе сябе да «культурнай альтэрнатывы». Гэта сучасны міт беларушчыны. Літаратуру пішуць усе, хто можа – самыя пэрспэктыўныя палітыкі, бліскучыя журналісты, рарытэтныя тэрарысты.

«Віягра» дапамагае з эрэкцыяй, але апроч гэтай сэксуальнай функцыі, мусіць быць яшчэ жаданьне, якое нараджаецца ў галаве або, паэтычна кажучы, у вачах (прынамсі, у мужчын).

Абмяжоўваючы сваю цікавасьць толькі мастацкім або толькі тутэйшым, мы знутры замацоўваем непаўнавартасьць беларускага. Фактычна, мы паддаемся абсурднаму падзелу: бел. літаратура па-беларуску, сусьветная літаратура – па-расейску, гісторыя Беларусі – па-беларуску, сусьветная гісторыя – па-расейску, 55 пытаньняў па філязофіі – па-расейску, 56-е, гісторыя разьвіцьця філязофскай думкі ў Беларусі – па-беларуску.

Або гаворым па-расейску, пішам па-беларуску – прынцып бяз прынцыпу, якога трымаюцца многія.

Краіна наша, культура ваша. Такі парадокс прапануе ўлада. Уладзе здаецца, што пры такім падзеле яна нічым не рызыкуе, бо пад «культурай» тут разумеецца ня ўвесь чын чалавечага генія, і нават ня ўсё, зборам, мастацтва, нат ня ўсё пісьменства, а толькі, фактычна, адзін няновы дыскурс ці, іншым бокам, кантэкст, a priori згорнуты й пазбаўлены прэтэнзіяў на ўнівэрсальнасьць. Ён, бывае, узбуджаецца, але й тады застаецца бясьсільным. Раз-пораз ён дэкляруе сваё «адраджэньне» й ня можа зразумець, чаму яго адкідаюць тыя, дзеля каго ён ахвярна існуе (ахвярнасьць – адзін зь ягоных закладзеных парамэтраў).

Такі дыскурс увесь час адстае ад свайго часу, ён зьвернуты ў мінулае і, адпаведна, у вакуум абыякавасьці вакол сябе. Законы займальнасьці, сучаснасьці, адэкватнасьці ня дзеюць.

Зразумела, што адзіная эвалюцыя грамадзтва, якая задаволіла б нас, можа адбыцца па ланцужку «эканамічны ўздым –культурніцкі ўсплёск – палітычныя рэформы». Між тым блізкая для нас газэта «Навіны» наагул ня мела й ня мае рубрыкі «Культура/мастацтва», задавальняючыся тэлепраграмай, афішай канцэртаў і спэктакляў і асьветніцкімі арыткуламі па гістарычным краязнаўстве. Амаль тое самае ў іншых белмоўных «агульных» мэдыях. Вясельны маршалак «літаратурна-мастацкасьці» быццам бы непатрэбны тым, да каго гэтыя мэдыі зьвернутыя.

Гэтыя развагі нарадзіліся з суб'ектыўнай незадаволенасьці тым, што прапануюць для чытаньня белмоўныя мэдыі, тым, што прынята лічыць «беларускім культурным кантэкстам». Такое сама права на месца ў кантэксьце маюць фэномэн «Віягры», новаадкрытыя эканамічныя заканамернасьці, адзначаныя нобэлем, нечаканая мода на мужчынскі стрыптыз гэтым летам у Эўропе і праблема допінгу ў спорце. Яны даюць ня менш матэрыялу для рэфлексіі й творчасьці тут і цяпер, чым так званыя «адвечна беларускія» пытаньні.

Шукаючы свой кантэкст ня там, творцы ставяць сябе па-за кантэкстам. Дэзынтэгруюцца ад грамадзтва і заганяюць сябе ў культурнае гета.

Вярнуцца ў Эўропу – значыць, жыць тым, чым жыве Эўропа. Інакш стары слоган губляе ўсякі сэнс.

«Віягра» й ёсьць адной з патэнцыйных (пардон за калямбур) тэмаў нармальнай, а не каляніяльнай, інтэлектуальнай і мастацкай мысьлі. Дык жа дазволю сабе выказаць пару думак з нагоды мэдыцынскага нобэлю.

Маланкавасьць, зь якой дасягнула папулярнасьці «Віягра», абумоўленая самой эпохай высокага разьвіцьця мас-мэдыяў. У віягравай ліхаманцы ёсьць і сымбалічны аспэкт.

За красавік-жнівень у ЗША, паводле ***Food and Drug Administration***, 69 чалавек памерла з прычынаў, зьвязаных з ужываньнем прэпарату, што ані ня зьнізіла попыту на яго. Пішуць, што «Віягру» (10$ за пігулку) цяпер купляюць ня толькі тыя, каму гэта насамрэч неабходна, але й проста ахвочыя да моцных эмоцыяў, моладзь на дыскатэках.

«Віягра» стала эмблематычным аксэлератарам у гонцы за «вечнай маладосьцю», «абсалютнай мужнасьцю» і «сэксуальнымі посьпехамі». Як «Гербалайф» і іншыя сродкі для пахуданьня, безьліч касмэтыкі й яе ўварваньне на аптэчныя паліцы, рост ужываньня й рэклямы анальгетыкаў і антыдэпрэсантаў, «Віягра» паказвае на зьмену ролі мэдыцыны й фармацэўтыкі, якая адбываецца. Цяпер іх задача ўжо й не ў заглушэньні сымптомаў той ці іншай хваробы, але ў тым, каб здаровыя людзі маглі атрымліваць больш дабрабыту, то бок больш асалодаў, і каб гэты дабрабытасалоды былі больш інтэнсыўнымі. Фармацэўтыка й мэдыцына робяцца касмэтычнымі.

Трыюмф рэкрэатыўнага афрадызыяка «Віягра» – гэта таксама крок да легалізацыі наркотыкаў. Гэты прэпарат, як тэхнамузыка, дыскатэкі, ёсьць прыстойным сымбалем наркатычнасьці культуры эпохі канца тысячагодзьдзя. Сапраўды, чаму марыхуану нават у яе мэдыцынскім ужытку цалкам не ўзаконілі, тады як віягру –калі ласка? Таму, што першую ўжываюць моладзь і бунтарскія элемэнты грамадзтва, другую – збольшага асобы «трэцяга» ўзросту, тыя, хто пануе, хто ўстанаўляе «норму».

Зь іншага боку, як морфій, найлепшы сродак супроць болю, стаў сымбалем дэградацыі волі, так «Віягра» мае шанцы ў будучыні стаць сымбалем мэханізацыі жаданьня.

Пад розгаласам вакол «Віягры» ляжыць і падсьпудны чалавечы страх кастрацыі. Прэпарат сустрэлі з такім энтузіязмам, бо ў ім – гарантыя сэксуальнай моцы (якая ляжыць у аснове ўсякай іншай моцы), у ім зарука ад эвэнтуальнага будучага краху, паразы ў гонцы жыцьця, або прынамсі надзея на такую гарантыю. Віягра – мэлёдыя магутнасьці.

Інакш ня стаў бы настолькі вядомым мэдыкамэнт, памоцны пры праблемах, зь якімі 90% людзей ніколі не сутыкаліся. Да літаратуры й мастацтва дзевяць дзясятых чалавецтва таксама маюць вельмі пасярэдняе дачыненьне.

# ВАЎЧЫНАЯ ЯМА

*Працяг са старонкі 9*

зімой. А што? Цёпла, кормяць, кампанія нейкая. А паспрабуй перазімаваць у паддашшы. Ці ў каналізацыі. Ды паваяваць зь міліцыяй, з крыклівымі дворнічыхамі. А ў сьмецьцевых скрынях пры дамах цяпер што знойдзеш? Людзі самі ўсё жаруць, толькі цалафан выкідваюць, — мовіў ён зь нейкаю нават крыўдай. — Начарта мне гэты капіталізм, лепш быў сацыялізм.

— Каўбаса дзяшовая, — у тон яму зазначыў салдат.

— І каўбаса, і шмат што іншае. Вазьмі агароды. Можна было пайсьці і накапаць бульбы ці там нарэзаць капусты. Нікому не шкада — усё калгаснае. А цяпер цябе гатовы з ружжа застрэліць за адну маркоўку. Вунь старога бамжа ў Зялёным і стрэльнулі. За дзьве маркоўкі аддаў жыцьцё. Не аддаў на вайне за радзіму, дык за дзьве маркоўкі аддаў. Не, нашаму брату пры сацыялізме лепш.

— Мусіць, пры сацыялізме і бамжоў не было. Не дазвалялася.

— Не дазвалялася, ага, гэта праўда. Нават жабракоў вывелі.

— А жабракі і бамжы — гэта не адно й тое ж?

— Вялікая розьніца, — сказаў бамж. — Жабракі просяць, а бамжы — ніколі. Хіба, калі ім самі даюць. Бо гонар маюць.

— Во як! А я й ня ведаў.

— Бо малады і шмат чаго ня ведаеш. Але я цябе навучу. Раскажу пра сацыялізм як вышэйшую фармацыю... Чаго? Капіталізму ці камунізму — ужо й забыўся.

— Але некаторым і пры капіталізме няблага, — сказаў салдат. — Вунь якія катэджы набудавалі. Зноў жа іншамаркі...

— Набудавалі, ага. Жульлё рознае. Што яны зарабілі на тыя катэджы? Накралі і карыстаюцца. Была ўлада савецкая, а стала бандыцкая. Знаеш, аднойчы я не стрываў. Ну, у Менску. Бачу, у двары двое корпаюцца ў новенькім «БМВ». Знаеш, апошняя мадэль, усё ў ім блішчыць, бы ў люстэрку. І гэтыя пачынаюць у ім разьбірацца: дзе карбюратар, дзе турбанадуў, дзе шрус. А разьбіраюцца слаба, адразу відаць, усё зь нямецкай інструкцыяй зьвяраюцца. Я падышоў, аж душа мая зьнямела, кажу: дазвольце мне, хлопчыкі, толькі зірнуць, я ж аўтамэханік. Яны паднялі галовы, убачылі мае транты, і адзін са стрыжанай патыліцай хапае гаечны ключ — мабыць, памеру 28 на 30, і як гаркне: прэч адсюль, бомж ванючы! Ну, я ім паказаў бамжа ванючага. Я ім выдаў. На двары аж кучка пэнсіянэраў сабралася. І знаеш, мяне падтрымалі.

— Няўжо падтрымалі?

— Яй богу. Адзін сказаў: ноччу ім колы папракалваць, каб ведалі. Але гэта дарма. У такога прыгажуна колы папракалваць рука не падніміецца. Хай езьдзіць. Але я ўжо болей яго не пабачу.

— Хто ж вінаваты...

— Канешне, сам вінаваты, — азваўся бамж і перайначыў размову. — Ну, як там нашыя жабіны? Ці варушацца?

Пад той час яны зрабілі некаторы харчовы запас — налоўленых у балоце жабаў пасадзілі ў выкапаную на беразе ямку, напусьцілі туды вады, каб жабы пачуваліся лепей. А каб яны не вылазілі, бамж прыкрыў іх зьверху тонкімі жэрдкамі.

Цяпер амаль увесь час ён прападаў на балоце. Праўда, зблізку жабаў хутка ня стала, — ці ён іх палавіў, ці, можа, адчуўшы небясьпеку, тыя перабраліся ў дальні канец балота, дзе было глыбей і рос трысьнёг. Часта лазіць туды ў багну бамж асьцерагаўся; зноў жа там сталі трапляць дзіўнаватыя жабы, мусіць, жабы-мутанты, ці што? Некалькі разоў ён лавіў іх зь дзьвюма парамі даўгіх задніх лапаў і сьпярша аж парадаваўся: будзе болей наедку. Але пасьля пакідаў іх у багну — невядома яшчэ, чаго чакаць ад гэткага наедку. Іншым разам яму трапляліся невялікія жабкі зь дзіўна скасабочанай галавой — не ў канцы тулава, а быццам як збоку. Гэтых таксама даваялося адбракаваць. За той час бамж ужо набыў пэўныя веды пра жабаў і разьбіраўся ў іх ня горш за якога прафэсара. Дзіва што — столькі часу прабыў у балоце сам-насам з жабамі. Яго толькі трохі дзівіла, што жабы нідзе не квакалі, быццам усе страцілі свой адмысловы жабіны голас.

Надвор'е на той час увогуле спрыяла іхнаму бамжоўству. Зранку выдараліся негустыя туманы, на траву клалася раса. У паўдзён жа было нават сьлякотна, і тады салдат перабіраўся на абрыў, у засень, пад хвоі. На сонцы ён стаў пачувацца блага: дужа кружылася галава, часам мутнела ўваччу, і ён пераставаў бачыць удалечыні. Але гэта ўсё з галадухі, ад недаяданьня, супакойваў сябе хлопец. Пра горшае не хацелася думаць. З абрыву ён не пераставаў сачыць за вогнішчам, якое слабенька дыміла, хаваючы ў прысаку не патрэбны да часу агонь. Неяк ён задумаўся на абрыве і раптам заўважыў, як касьцярок моцна задыміў, заіскрыў пад сьвежым подыхам ветру, што наляцеў ад рэчкі. Тады хлопец зірнуў у неба і спалохаўся — з-за бору сунулася шызая, з загнутымі берагамі хмара, упершыню загрукацеў далёкі раскоцісты гром.

На выпадак дажджу ў бамжа была падрыхтаваная нешырокая пячурка ў абрыве, дзе ляжала некалькі патушаных галавешак. Абпякаючы рукі, салдат пачаў пераносіць з кастра дробныя галавешкі, хаваць іх у пячурку. Але ён не пасьпеў. Зь неба раптоўна абрынуўся дождж-лівень, берагавы пясок умомант змакрэў, рака задымела ад струмянёў і бурбалак, касьцёр хутка асеў і патух. Ужо змокшы ў сваім бушлаце, салдат падаўся да пячуркі, каб неяк уратаваць наношаныя галавешкі, але з абрыву туды таксама паліліся дажджавыя ручаі, яны хутка залілі і пячурку, і ўсе галавешкі ў ёй. Тады хлопец стаў побач і роспачна апусьціў рукі...

Вячаслаў Адамчык

# ЧОРНЫ АДБІТАК НА БЕЛАЙ СЬЦЯНЕ

## *Старонкі з запісных кніжак*



Карціць вярнуцца да апавяданьняў, але не магу пераадолець шкодную прывычку брацца зранку за дзёньнік. Небясьпечным і непераможным бывае ня толькі алькаголь ці нікатын, але й штодзённае рыфмаваньне, на што хварэў цьвярозы Танк, альбо заюхленае сядзеньне крукам над эпапэяй пра забытую і нікому ўжо непатрэбную, усім абрыдлую партызанку.

Цяпер вынайшлі больш дасканалы спосаб – пісаць на дыктафон. І праз тыдні тры лёгенькай непрымусовай працы пад каву ці, лепш, – кілішак каньяку – кампутар выдае чарговую таямніцу голенькіх каханкаў Адольфа Шыкльгрубера альбо Коба Джугашвілі.

Разумна і, мусіць, алегарычна адказаў мне Васіль Вітка, калі я, наведаўшы яго, ужо хворага, незадоўга да яго сьмерці, спытаўся:

– Як жывяце, Цімох Васілевіч?

– А ты ведаеш, Вячаслаў, графаманіяй жыву.

Я, недаўменны, яшчэ перапытаў:

– Як кажаце?

– Графаманіяй, бо яшчэ пішу.

Мы нарэшце абодва засьмяяліся, ужо дакладна зразумеўшы адзін аднога.

На чыстым сталі яго поруч з лупаю ляжаў лісток з пачатым вершам. І сам ён, не па гадах акуратна прычасаны, молада паголены, поўны нязлоснай іроніі, гумару да сябе й да іншых:

– Вось так, выдурваючыся, і дажыў да васьмідзесяці пяці. Ня верыцца.

Мы разгаварыліся пра Танка. Цімох Васілевіч прыгадваў, як дзён за дзесяць да сьмерці наведаў яго ў лечкамісіі:

– Заходжу ў палату й бачу – сядзіць ён на ложку, спусьціўшы ногі, у чорных спартыўных штанах. І дзяро пазногцямі іх. Нарэшце распазнаў, што ніякага трыко на ім няма. З жахам пытаюся: «Што гэта ў цябе, Жэня?» «Ці ня бачыш, жылкі ўсе палопалі і ногі пачарнелі».

Нацятая, як тугая цяціва, паўза нейкі час трымцiва дрыжыць, калі чалавек рашаецца адкрыць таямніцу альбо прызнацца ў тым, што перадумаў сам-насам.

– Адлакутаваў, нацярпеўся ён, – сьветлы, падобны да маладзіка, акрайчык весялосьці растае на перадсьмяротна-белым, бяскроўным твары Цімоха Васілевіча. – Але ж у народзе кажуць: «Хто жыў у раю, той мусіць памерці ў пекле».

Купленыя, лічы, за бясцэнак – па 10 капеек за том, – шарыя, паляловага колеру кніжкі Горкага сёньня ў мяне нібы рэліквія. Першае пасьляваеннае выданьне збору твораў пралетарскага празаіка. На вокладцы, у авальным крузе, яго галава чамусьці з гогалеўскім носам. Шарыя томікі я набыў у Маскве, у букіністычным магазіне, здаецца, на Сталешнікаўскім завулку.

Тады, калі выкрэсьлівалася ўсё нэгатыўнае пра рэвалюцыю, мяне зьдзівіў, нечакана й глыбока ўразіў жорсткаю, крываваю праўдаю кароценькі нарыс, – «Пецярбурскія тыпы», знойдзены ў дзясятым томе й напісаны выразнымі каляровымі мазкамі-навэлкамі.

Запомнілася і пакаёўка зь яго старонак, маладая, аднавокая, з тварам, абпаленым сернаю кіслатою.

– Глядзіце ў Біблію – ёсьць там паны? Няма паноў у Бібліі. Цары ёсьць, судзьдзі, пракокі, а паноў – няма!

– Біць гэтую сваволь, – сурова ўскрыкваў чорны салдат з падвязанаю пашчэнкаю, – біць да астатняга калена...

Я падкрэсьліў яшчэ й сказ, які нібы падагульваў той страшны, як прорва, пераломны час, – час разбою, лютай, жорсткай помсты, калі пакрыўджаны чалавек, як кажа Горкі, нарэшце атрымаў на яе сваё права:

«Возбуждающих вражду против интеллигенции, видимо, немало: мне кажется, что чаще всего дворники, лакеи, кухарки, вообще –домашняя прислуга».

Сёньня ж кантынгент «возбуждающих вражду» супраць інтэлігенцыі значна пашырыўся. Тут і зарослыя па вочы калматымі барoдамі бамжы, і бяззубыя, заўчасна пастарэлыя пэнсіянэркі, што, вырваўшыся па вярбоўцы з прыгнечанай вёскі, прастаялі на рыштаваньнях пад сьцюдзёнымі, зімовымі скразьнякамі, будуючы кватэры для іншых, а самі ціснуліся па дзьве-тры сям'і ў пакоі дзявочага інтэрнату, і адстаўнікі – былыя ахоўнікі турмаў, і абшарпаныя, худыя, як вязьні, алкашы, і дагледжаныя, у чорных сутанах, рыхтык манахі, ружовашчокія пералётныя фірмачы, і ахоўныя даносчыкі, і юрлівыя папы, і прэзыдэнты розных узроўняў, – яны ўсе чорнаю хмараю супраць беларускай інтэлігенцыі, асабліва той, што не адцуралася роднага слова. І ў адзін голас, як нягалены салдат з падвязанаю пашчэнкаю з таго далёкага 17-га і аднавокая жанчына з абпаленым серкаю тварам, ненавісна крычаць:

– На белорусском разговаривают одни только паны!

Страшна аднак, калі чорнай зграі даць уладу помсты.

У Гётэ:

Дайце мне ў рукі работы цяжкасьць:
Усё, што зраблю – вышэйшая радасьць.

У Ісакоўскага:

Дайте в руки мне гармонь –
Золотые планки!

Вось яны дзьве нацыі – сьвятая Русь і практычная, працавітая й велічная Нямеччына.

І паміж імі – наш збалелы, нікім яшчэ не пачуты, поўны адчаю, збавеньня й пакуты голас маладога Купалы, голас сьветлага няспраўджанага спадзяваньня – мальбы да ўсемагутнага, вячыстага Бога:

Паймі! Пачуй! Сон наш і свой стрывожы, –
Закон і суд свой праведны пашлі!..
Вярні нам Бацькаўшчыну нашу, Божа,
Калі Ты цар і неба, і зямлі!

Цешча Прышвіна, Натальля Ратай, маці яго другое жонкі, была на два гады маладзейшая за свайго зяця – Міхаіла Міхайлавіча. Яна па гадох, вядома, магла быць яму жонкаю, а ён у шэсьцьдзесят шэсьць ці сем узяў замуж яе дачку – сваю сакратарку – Валерыю Дзьмітраўну Лебедзеву, як называе ў дзёньніках – Лялю, пакінуўшы састарэлую Еўфрасіньню, першую жонку, дарэчы, маладзейшую за яго самога на дзесяць гадоў.

Першы раз цыганісты Міша жаніўся ў трыццаць. Пасьля няўдалага заляцаньня да рускай студэнткі ў Парыжы ці Лейпцыгу, дзе ён вучыўся ва ўнівэрсытэце, Прышвін, вярнуўшыся ў Расею і працуючы аграномам у Калускім павеце, сышоўся з простаю сялянкаю. «Яна ўцякла ад мужа з гадовым дзіцём, – запіша ён у дзёньніку. – Я навучыў яе чытаць, трохі пісаць... Адною часьцінаю свае душы не прызнаю яе тым, што мне трэба, але другою стараною люблю».

Хацеў быў трохі пацьвяліцца, жартаўліва пасьмяяцца зь Міхаіла Прышвіна, покуль не прыгадаў жаніцьбу свайго дзеда, Янкі Шайбака, што застаўся ўдаўцом. Ён – ці не равесьнік Прышвіна? – жаніўся другі раз, калі яму было пад семдзесят. Помніцца –вайна, жнівень сорак трэцяга. Нядужая каштанавая кабылка, запрэжаная ў ганарысты воз з высокімі драбінкамі. На возе купа сялядзры ці канюшыны, засланай ружавата-зялёнай радзюжкай у вялікія клеткі. На гэтай купе – мой бацька зь лейцамі ў руках, – ён жа сват, поруч зь ім – вусаты, у чорным падношаным касьцюме і з папяроваю навошчанаю кветкаю ў кляпе – дзед – ён жа малады. Седзячы плячыма да іх, гармонію расьцягвае, але яна ня грае, а толькі сапе, – наш сусед Віця Верабей, па-мянушцы Гульнік.

*Працяг на старонцы 14*



Неўзабаве прыбег з балота бамж, таксама ўвесь змакрэлы, але з жабамі ў пале кухвайкі. Той адразу зразумеў, што сталася і, можа, упершыню брыдка вылаяўся.

— Ну што цяпер? Сырымі іх жраць?

Салдат змоўчаў, ня ведаючы, што сказаць, — усё ж ён пачуваў сябе вінаватым, што не ўбярог касьцярка. Але і як было ўберагчы ў гэтай залеве? Мабыць, бамж разумеў тое й не дакараў хлопца, толькі неяк надта засумаваў адразу. Ягоны звычайна дзейны, бадзёры настрой увачавідкі зьмяніўся на заклапочана-пахмуры.

— Дрэнь справы, — раздумна сказаў ён. — Што есьці будзем?

Што есьці, салдат ня ведаў; ня ведаў, што ў гэтай сытуацыі можна было прыдумаць, і ён вінавата маўчаў. Бамж абвяла апусьціўся на мокры пясок.

— І мне нешта сёньня... — сказаў ён і ня скончыў. Салдат занепакоена падняў галаву.

— А што?

— Ды ў грудзях душыць...

Салдат маўчаў, чакаючы, што бамж скажа нешта й яшчэ, але той не сказаў болей нічога. Яны абыдва сыцілі пад здрабнелым ужо дажджжом, размова далей ня йшла, кожны панура аддаўся ўласнаму клопату. Агульны, падобна, разам з дажджом адышоў стараной. Пасьля салдат павярнуўся і памалу падыбаў па змакрэлым беразе, шлёпаючы падэшвамі па набрынялым пяску.

Становішча іх пагаршалася. Толькі паспадзяваліся на лепшае, знайшлі, як уратавацца ад голаду, ды раптоўны лівень адабраў у іх надзею. Што яны цяпер без агню? Ды й бамж пачаў наракаць на здароўе. А нядаўна яшчэ выхваляўся: загартаваны арганізм, ніякая радыяцыя не бярэ. Не, мабыць, перад атамнай чумой ніхто не ўтрымаецца. Справа толькі ў часе...

Але што ж ім рабіць?

Нядаўна яшчэ шмат у чым, што тычылася іхнага тут побыту, салдат спадзяваўся на бамжа, чалавека болей спрактыкаванага ў зоне, мабыць, як і ў жыцьці таксама. Але во аказалася, што й бамж ня ўсё можа і нават ня ўсё ведае. Пра што-колечы трэба даўмецца самому. Калі ня позна...

Між тым насоўвалася сырая, сьцюдзёная ноч, належала паклапаціцца, як начаваць. У зямлянцы-нары ўсё абрушылася, лезьці туды было неяк. Трохі счакаўшы, пакуль сьціхне дождж, яны пачалі ўладкоўвацца на абрыве. Недалёка ў лесе салдат наламаў яловых галін, якія перацягнуў да абрыву, удвох з бамжом яны расклалі іх пад крайняй сукаватай хвояй.

— Ну й няблага! Праўда, салдат? — падбадзёрыў сябе й яго бамж. — Галоўнае, ня падаць духам. А там як-небудзь...

Падобна на тое, сам ён падаць духам усё не хацеў, усё чапляўся за нейкую прывідную надзею. Зрэшты, так, можа, і лепей, думаў салдат. Чым марнець ды стагнаць, лепш рабіць выгляд, што горшае не настала. Як настане, тады й паякочаш.

Але й як жыць з такім адчуваньнем?

Усё ж, мабыць, трэба б яму мець іншы характар, не рэагаваць так драматычна на нягоды жыцьця, — можа, так было б лепей. Навучыцца болей трываць, чаго ён ня ўмеў, хоць ужо й так натрываўся нямала. Калі б там, у казарме, ён неяк стрываў, перажыў сорам і абразу, як гэта зрабіў ягоны зямляк Пецюхоў, можа б усё й абышлося. А так нарабіў бяды і гэтаму сабаку Дробышаву, і сабе таксама. І калі Дробышаў заслужыў, што паймеў, дык завошта ён гэтак пакараў сябе?

Але й як было рэагаваць інакш ці не рэагаваць зусім? Ня мог ён ні скардзіцца начальству, ні дараваць крыўдзіцелям абразу. Колькі ён наслухаўся ў жыцьці ды начытаўся ў кніжках, што чалавек ёсьць стварэньне вышэйшае і павінны мець здольнасьць абараніць свой гонар. Дык вось ён і абараніў гэты гонар. І чаго тым дамогся?

Дамогся горшага, чым запэцканы гонар, — на гэты раз пагрозы жыцьцю. Што ўжо тут клапаціцца пра гонар, калі зьнікае магчымасьць жыць...

Во трапіў у ваўчыную яму. Колькі куды ні скачы — ня выскачыш.

Яшчэ не зусім сьцямнелася, як бамж лёг на калючую яловую кучу, падкорчыў ногі.

— Ну, а ты што? — гукнуў ён салдату. — Ідзі кладзіся. Удвох цяплей будзе...

Салдат доўга і моўчкі сядзеў поруч, думаў. І як зусім стала цёмна, таксама лёг плячмі да бамжа. Спакваля быцам зрабілася цяплей, памалу сунялася настылая дрыготка. І ён заснуў.

Бамж ляжаў ціха, стараўся лішні раз не варочацца, каб не трывожыць хлопца. Сну ў яго не было, пачуваўся ён блага, дарэчы, ня першы ўжо дзень. Сьпярша думаў, што, можа, прастудзіўся на балоце, як лавіў жабаў, але на прастуду было непадобна. Зноў жа да прастуды ён быў загартаваны, даўно ня кашляў і не смаркаўся, забыўся, калі хварэў на грып. Цяпер было такое адчуваньне, нібы ў яго зьліплася правае лёгкае, балела, што не ўдыхнуць; колькі дзён ён абыходзіўся частымі дробнымі ўздыхамі, рабіць хутка ня мог, мог толькі спакваля, памарудзіўшы; нават упраўляцца зь цяжкаватым вудзільнам яму было трудна. Не лягчэй было й нагінацца за порсткімі жабамі. Лацьвей, калі сьпярша іх было багата. Пасьля, аднак, паменшала, і ён, ганяючыся за кожнай, проста зьнемагаў да вечара.

Сярод самай начы ён, здаецца, заснуў, але праспаў зусім мала. Прач-

*Працяг на старонцы 14*

# ЧОРНЫ АДБІТАК НА БЕЛАЙ СЬЦЯНЕ

*Працяг са старонкі 13*

Бацька, размашыста ўзмахваючы пугаю, падварушвае каня. Вясельны картэж з адное недалужнае фурманкі едзе ў далекаватыя Данілавічы па маладую. Кабылка натужна пераходзіць бурлівую рэчку. Я спыняюся на плёсе. Воз зьнікае пад навісьсю вербаў –і раптам ціхне хрыпатае рыканьне гармоні: на той бок рэчкі, на рабаватым ад белага сухотніку поплаве я бачу ланцуг салдатаў у зялёным – немцы. Яны ідуць, рассыпаўшыся й трымаючы на перавагу вінтоўкі. Я здагадваюся – пачалася аблава на партызанаў. Але ж падазраюць і ловяць кожнага. Днямі над прылеснымі' вёскамі зь цяжкім шматтонным гудам віселі разьюшаныя бамбоўцы: як з глыбокае ямы чуліся глухаватыя выбухі. Потым за спалавелымі ад збажыны грудамі ўздымаўся цёмна-жаўтлявы дым – гарэлі хутары й вёскі.

Падагнаны страхам, я што ёсьць моцы ўцякаю з-пад рэчкі. Але немцы ўжо бягуць вёскаю, спаленаю два гады назад імі ж, з пустымі дварамі, яшчэ неадбудаванай, найбольш з новымі гумнамі для спрату збожжа, дзе поруч са скацінаю туляцца і варакомцы. У Амільянавых, вакол скіданай з жэрдак халупы, – новы зруб. У сутокі паміж жоўтым смалістым зрубам і пачарнелаю хатаю зьнікае старэйшы за мяне іхні Сяргей. Ён нават азіраецца й вясёла сьмяецца. Я бягу сьледам, але, спалохаўшыся чорных сутарэньняў, застаюся на голым двары. Немец, пэўна, зьмеціў, куды схаваўся Сяргей, бо, не зварачаючы ўвагі на мяне, меншага, падбягае да Амільянавай падвойнай (дубальтовай) хаты і, уваткнуўшы вінтоўку, з парогу, як у ваду, глухавата страляе ў цёмныя сутокі...

Аблава як уміг зьявілася, так і ўміг зьнікла, прачасаўшы вёску. І гэтаксама ўроссып, з узятымі на перавагу вінтоўкамі, цярэспаля бяжыць на жаўтлявыя ад сьпелага аўсу й ячмяню нашыя груды, за якімі днямі вяла падымаўся чарнавата-жоўты дым і чуліся цяжкія выбухі...

Я асьцярожна, ужо нават з трывогаю ў душы падыходжу да Амільянавых дзьвюх – адна ў адной, як матрошкі, – прыцішаных хатаў, – ці жывы Сяргей? Жывы! Толькі зьбляднелы і ўжо бяз той блазенскай ухмылачкі.

Праз гадзіны дзьве вяртаюцца й вясельнікі. На возе поруч з дзедам ужо сядзіць маладая – скуластая, як чэраміска ці калмычка (калі карыстацца сёньняшняй тэрміналёгіяй), шырокаротая, як жаба, з задзёртым, нібы перабітым, носам, жанчына гадоў пяцідзесяці. Пазьней, як помніцца, гэтую лічбу назваў дзед.

Усьлед за возам з маладымі з-пад рэчкі марудна цягнецца яшчэ адна фурманка, куды перасеў ужо гарманісты. На возе вялікі, прыгожа размалёваны куфар – бабін пасаг.

Як потым аказалася, у куфры, апрача палатна, радзюжак і абрусаў, была яшчэ кніжка. Адзіная, якую я потым выпрасіў у новае бабы.

Зь ёю зьвязаны яшчэ адзін страхатлівы эпізод вайны, калі ў нашай Babакомшчыне сталі на пастой, прывезеныя ці не з Украіны, вусатыя ў чорных кубанках зь сінім верхам данцы, дарэчы, самыя злосныя й помсьлівыя. Кубанцы і цярскія казакі будавалі ўздоўж шашы бункеры і схроны, займаючы вёскі, бліжэйшыя да Наваградка...

Ня ведаю, зь якое нагоды, але мне сёньня прыгадаліся адразу двое радакаў, як называюць у нас сваіх, тутэйшых – гэткіх яшчэ нязломных васьмідзесяцігадовых саўгакоў. А ўбачыўся зь імі яшчэ летась, напаткаўшы па чарзе на праспэкце Скарыны. Аднаго ў пераходзе мэтро, застаўленага кветкамі, другога далей ад падземкі – насупраць магазіна падпісных выданьняў. І доўга неяк пераЖываў ці дзівіўся сам-насам, што абодва яны гэткія яшчэ, як гаворыцца, жывушчыя і трывушчыя. Нават усьцешыўся, што яны, дзякуй Богу, жывуць, бо шчасьлівыя сьведкі таго даўнейшага, што ўжо прарастае ці зарастае болей выдумкай, лягендаю альбо неверагоднаю казкаю.

Абое прайшлі вайну. Праўда, трохі неяк збоку. Адзін –ахоўнікам лягеру ў Катыні ці, праўдзівей, – на станцыі Асташкава, дзе поруч з палоннымі палякамі былі, вядома, і беларусы, другі – кароткачасовым партызанам пры брыгаднай газэтцы, што друкавалася ў форме лістка ў глухой Налібоцкай пушчы перад самым ужо наступам савецкіх войскаў.



Першы зь іх, што стрэўся ў пераходзе мэтро, затрымаўся пры мне, і, як заўсёды, з цыганскай выдумкай пагараваў, што ўжо апрача Ватыкану яго хоча раскрыжаваць і праваслаўная царква: «Калі ня стрэнемся болей, ведай – яны...»

А грэх у яго ня столькі перад касьцёлам і царквою, колькі перад людзьмі й Богам.

Калісьці, апавядаючы пра сваю службу ў ахранных ці канвойных войсках НКВД, ён успамінаў і такое:

– Ну, ведаеш, там жа за дротам сярод польскіх ганарыстых і хлюсьтаватых афіцэраў траплялiся й нашыя вахлакі. Знайшлося чацьвёра з-пад Карэліч. Пранюхалі, гады, што я таксама адтуль. Ды незнарок, пэўна, прагаварыўся. І ўжо просяць: «Памажы нам уцячы». Я сабе маўчу. Даведаліся, калі буду стаяць на варце, і пад дротам зрабілі падкоп. І – шмыг у лаз. Я даў ім адбегчыся мэтраў сто, ня болей – і бабах – падняў трывогу. Тут як тут – уся ахова на нагах. Іх чатырох, як шчанят, і схапілі за шкірку.

З тае, ужо далекаватае й нібы нерэальнае гутаркі запомніўся і яго ціхенькі, трохі шыпучы сьмяшок.

– Хы-хы, яны думалі, што я такі дурны...

Другі, вядома ж, больш асьцярожны й хітрэйшы, пра свае грахі – ні гу-гу. Хіба толькі жартам пра тое, як яны, партызаны, дачуўшыся, што карэліцкая паліцыя, заказаўшы хатуранцам нагнаць самагону, маецца наладзіць велікодны бяседны стол, заляглі паблізу прынёманскіх хутароў. І пэўна ж пасьля некалькіх нятрапных стрэлаў ім дастаўся і сьвежы, што курыўся параю, пяршак, і вэнджаныя кумпякі, і сыценькая цяляціна...

А пра яго грэх – ажно ня верыцца, што гэта на самай справе ўчынілася, – я прачытаў у запозьненым выданьні, усё тых жа самых партызанскіх успамінаў, дзе перамешана ўсё разам – і фальш, і выдумка, і падтасоўка, і пэўна ж акораная, як ссохлая ялінка, доля праўды.

У памяць урэзалася ці – прызнаюся – прыгняла, як нечаканы ўдар перуна, усяго адна фраза: «После разоружения и разгрома «самаахові», в партизаны вступили братья... и другие подпольщики».

Пра братоў аднойчы, прысеўшы поруч на свабоднае сядзеньне ў аўтобусе, калі ён спыніўся насупраць царквы з блакітнымі купаламі, мне расказвала студэнтка менскага пэдінстытуту:

– Можа чулі, тут нарадзіўся Х. Усё піша пра нашых баб, усё нясьлавіць. Зь беднага можна й пасьмяяцца. А яны ўсе трох пры ўсіх уладах ці, як у нас кажуць, – уласьцях, як жылі лепш за ўсіх, так і жывуць. І перад вайною, і ў вайну, і пасьля вайны...

Тут, вядома, была й самая звычайная зайздрасьць, і помсьлівая злосьць. Але мяне трывожыў адзін і той жа сказ, незнарок прачытаны ў той жа неаўтарытэтнай, калі не сказаць фальшывай кніжцы, – ён мяняў мой погляд на ўсю творчасьць паважанага чалавека і велешаноўнага аўтара.

Але сам ён патаемна маўчыць. Хоча замоўчаць грэх? Баіцца раскаяньня? Няўжо яны ўдвух?.. Напісаў – і сумеўся, нібы сам узяў грэх.

... І зноў бачу іх удвух, шчасьліва і бесьперашкодна дажыўшых да васьмідзесяці, цяжкаватых, павольных у хадзе, нават, здаецца, зусім не ссутуленых, рослых, што здалёк вылучаюцца ў людным натоўпе. Іх падхольвае й нясе сёньняшняе жыцьцё. І ці ім, пэў-



*Працяг са старонкі 13*

нуўся і ляжаў так, слухаючы лесавы шум. Таемныя гукі лесу даўно яго не трывожылі, нічога ён не баяўся ні ў лесе, ні ў горадзе. І нават тут, у зоне, здаецца, ніштo яго не магло напалохаць. Салдат за плячыма роўна і глыбока дыхаў, ад яго мкнула добрае, густое цяпло, яно заспакойвала. Усё ж куды лепш за адзіноту было ўдвох, нават з дэзэрцірам, можа нават забойцам. Але з маладзейшым. Усё ж старому патрэбны малады побач. Са старым часам цікава, але не заўжды прыемна — малады ж абнадзейвае, бышцам малодзіць нават. Нават такога застарэлага бамжа, як ён.

Зрэшты, бамж не заўсёды быў бамж, некалі меў уласнае імя й нават пагоны на плячах, — як служыў у войску намесьнікам камандзіра па тэхнічнай частцы. Апошнія пяць гадоў ягонай службы міналі ў далёкім прыпалярным гарнізоне, дзе ён мацаваў ракетны шчыт радзімы і жыў разам з жонкай, загадчыцай афіцэрскай сталовай, і маленькім сынком Дзяніскам.

Прыпалярны ракетны гарнізон па сутнасьці мала чым адрозьніваўся ад колішняга Гулагу; там далёка ня кожны мог стрываць нават год, а яны змушаныя былі трываць тры, чатыры, а то й пяць гадоў запар, — пакуль дачакаюцца замены. Суцэльная сьнежная ноч бяз дня, маразы і сьцюжы, гнятлівае пачуцьцё закінутасьці на край сьвету шмат каго даводзілі да канфлікту з начальствам, сям'ёй, нярэдка з самім сабой, што нават канчалася стрэлам у скроню. Міжволі вайскоўцы шукалі нейкае выйсьце, прадуху ў гнятлівым жыцьці і, вядома ж, знаходзілі яго ў бутэльцы ці, лепей сказаць, у бэнзынавай бочцы, у якіх «Ваенгандаль» завозіў на поўнач 95-градусны сьпірт. Гэты напой меў высакародны каньячны колер і за палярную ноч спажываўся дарэшты. А калі яго не хапала, тады ў мясцовай крамцы дужа павялічваўся попыт на адэкалёны, ласьёны ўсіх гатункаў, на розныя тэхнічныя вадкасьці.

Нампатэх тады і ў сьне ня бачыў сваю хуткую будучыню, быў, як усе, — у меру піў і ня надта цьвяліў начальства. Зусім не цьвяліць было нельга, таго б не зразумелі ні сябры-таварышы, ні падначаленыя, ні нават начальнікі. А галоўнае, не было такой магчымасьці, абставіны вымагалі. Дванаццаць і болей гадзін у боксах каля настылай на марозе тэхнікі, з даўно памарожанымі рукамі, на сьцюжы й скразьняках, у няспынных сутычках з начальствам — сваім штатным, штабным і правяраючым, — усё тое як мае быць выматвала сілы й нэрвы. Адзіным паратункам ад таго было выпіць, расслабіцца, абнавіць нэрвовыя сілы, каб заўтра зноў марнаваць іх у тых самых боксах і тых самых сутычках.

Так цягнулася шэраг гадоў; мабыць, дацягнулася б і да жаданай зьмены, калі б аднойчы ў разгар палярнай начы ў гарнізон не прыляцеў новы камандуючы ракетных войскаў. Генэрал толькі што быў прызначаны на гэтую пасаду рашэньнем палітбюро, якое падпісаў сам Леанід Ільліч, і меў жалезную рашучасьць навесьці бальшавіцкі парадак у самым стратэгічным родзе войска. Зрабіўшы двухдзённы разгон у падразьдзяленьнях, зьняўшы з пасадаў двух камандзіраў і трох іх намесьнікаў, генэрал выправіўся на ня дужа далёкі (за 250 кілямэтраў) аэрадром стратэгічных бамбардзіроўшчыкаў. Натуральна, як самы вялікі ракетны начальнік, ён ня мог езьдзіць на нейкім вайсковым «Уазе», а прывез з сабой у самалёце адмысловы ўрадавы «Зім», які яго й падвёў. А заадно спляжыў і без таго ня дужа бліскучую кар'еру дывізійнага нампатэха.

Зрэшты, даўно тое было, за шмат гадоў усё было перадумана, і ён даўно ня меў крыўды на тагачаснага генэрала, што, як ён чуў, дажываў свой век на падмаскоўнай дачы. Разумеў, вінаваты быў сам, ня трэба было так паводзіць сябе, належала б асьцерагчыся. Але й як асьцеражэсься, калі самы блізкі табе чалавек — жонка толькі й пільнавала, каб дзе падлавіць яго, падставіць начальству, бачачы ў тым сваё помсьлівае жаночае задавальненьне. Таго разу пасьля генэральскага разбору ў клюбе, як камандуючы ўжо выехаў за прахадную, і ў палку з палёгкай уздыхнулі, ён зь сябруком у акумулятарнай спажылі бутэльку 95-градуснага, і нампатэх заваліўся спаць. Мінулай начы спаў усяго тры гадзіны пасьля шалёнага передпаверачнага аўралу ў аўтапарку і цяпер спаў, як забіты. І раптам жонка штурхае яго ў плячо — прыбег дзяжурны. Дзяжурны перадае загад камандзіра паехаць на 27-ы кілямэтар, дзе ў камандуючага сапсаваўся «Зім». Дзяжурныя ўжо езьдзілі, ня могуць зразумець, у чым справа — рухавік не заводзіцца. Што было рабіць соннаму, нецьвярозаму нампатэху? Абклаў матам жонку (нашто сказала, дзе сьпіць) і надзеў паўшубак. Машыну ён даволі хутка наладзіў (у той забракаваў ланцуг высокага напружаньня), і яна завялася. Але пакуль ён корпаўся пад капотам, напрактыкаванае вока камандуючага, мусіць, нешта ў ім згледзела, ён папытаўся прозьвішча нампатэха і кінуў ад'ютанту — запішы. Нампатэх падумаў: ну, будзе падзяка ў загадзе, і сьціпла парадаваўся. Загад сапраўды неўзабаве прыйшоў з вынікамі высокай праверкі, і там пасьля шмат чаго іншага аб'яўлялася аб звальненьні ў запас неадпавядаючых службе афіцэраў. Сярод іншых было і ягонае прозьвішча. І гэта за два гады да выслугі на пэнсію, зь неладамі ў сям'і, у прыпалярным гарнізоне, дзе немагчыма было знайсьці ні кватэры, ні працы.

А тут і зусім разьюшылася жонка, якая не трывала яго ў пагонах, дзе ўжо было ёй мірыцца зь беспрацоўным. Паўгода яна дамагалася разводу, а разьвёўшыся, тут жа запісалася з даўгавязым, бы жардзіна, прапаршчыкам, нядаўнім сваім улюбёнцам. Ды яшчэ наскардзілася ў палітаддзел на маральнае разлажэньне нядаўняга мужа. У часе чарговых разборак на партбюро ён, не стрываўшы, кінуў на стол свой партбілет і ў той жа вечар добра напіўся. Пасьля, як ня стала грошай, кудысьці паехаў з выпадковым субутэльнікам, у нейкім паўночным гарадку уладкаваўся інжынэрам мясцовага аўтапарку, дзе праз паўгода яго зьнізілі да брыгадзіра мэханікаў. Затым некалькі месяцаў рабіў шараговым шафёрам, пакуль ДАІ не адабрала правы. Мабыць, самая пара было адумацца, зрабіць нейкія высновы з свае кар'еры наадварот, але адумацца нампатэху не выпадала. Найперш не было часу. Жыў безь сям'і, вадзіўся з процьмай сяброў-субутэльнікаў, выдатных, на яго думку, мальцаў. Нехта зь іх прысватаў яго да таксама неблагой кабеціны (немаладой, праўда), якая рабіла ў гастраноме. Як ён цяпер разумеў, то была цярплівая жанчына і хацела яму толькі добрага. Яна нікому на яго ня скардзілася, калі ён па тыдні не паяўляўся дома, толькі часьцяком плакала, і аднойчы яму стала яе шкада. Як яна сказала, што, можа б, ён паалячыўся ў ЛТП, ён пагадзіўся. Тры месяцы ён сумленна адпакутваў сярод такіх, як сам, небаракаў, глытаў розную дрэнь, драў кішкі ад ванітаў. Але трываў, — ён сапраўды хацеў вылечыцца й завязаць. Ён дужа ўзрадаваўся, як доктарская камісія прызнала ягонае лячэньне скончаным і выпісала адпаведны дакумэнт, які ён з радасьцю прывёз жанчыне. Тая, ня менш за яго ўзрадаваная, прыгатавала смачны абед з украінскім баршчом,

на, успамінаць той бераг, ад якога яны адплылі паўвека назад.

Няўжо сьвет ёсьць, быў і будзе нязьменны і падобны, і дні, што бягуць за днямі, могуць паўтарацца?

Перачытваю «Дзёньнік 1939 году» Уладзімера Вярнадзкага – і тое, што рабілася паўвеку назад, нібы змылілася й заблукала ў нашыя дні.

«Усе малапісьменныя разграмілі інтэлектуалаў».

«Зьнікае масла. Мала цягнікоў. Вату даюць невялікімі пакетамі».

«Навукаю кіруе... невядомы Кузьняцоў, маленькі, але ўладны чалавек».

«Кагановіч новы будынак інстытуту генэтыкі забірае ад акадэміі».

«Захоп (заходніх вобласьцяў) Украіны і Беларусі ўсе ўсхваляюць».

«Рабалепства (прыніжэньне) перад Сталінам».

Ня ведаю, ці гэта словы Морыса Мэтэрлінка зь яго «Скарбаў падданых», ці чыё-небудзь, занатованае мною выслоўе, але яно імпануе мне таксама: слова – для часу, маўчаньне – вечнасьці.

А гэта ўжо маё:

Мы носім у сваёй душы болей ворагаў, думаем неадступна пра іх, чым пра тых, каго любім і паважаем, і пра каго трэба было б непакоіцца найбольш.

Чым мы ў ціхай затоенасьці й страхатлівай вусьцішнасьці пасьля агністай маланкі чакаем немінучага ўдару перуна, тым ён мацней б'е.

Наша авечая беларуская рахманасьць і пакорнасьць іншы раз называецца мудрасьцю. Але ж, як слушна і праўдзіва кажа Мэтэрлінк: лёгка быць мудрым, не падняўшыся (не зрушыўшыся) зь месца.

Справа гонару й павагі – усё ж рашуча і ўпарта падняцца з наседжанага месца.

І вось супярэчнасьць: за зваблівымі далямі нас падцікоўвае расчараваньне.

Як тысячы іншых, я таксама пайшоў з дому, каб знайсьці шчасьце, справядлівасьць і чалавечую добразычлівасьць, але, як тысячы іншых, я не натрапіў на іх.



*Здымак Міхала Бараны*

## Віктар Шніп

***

*Зьмяя саграваецца ў зьмейцы,*
*А ў доме тваім – індзейцы,*
*І ты на ўсё гэта глядзіш,*
*Нібы на далёкі Парыж,*
*Якому на нас напляваць,*
*Ці хочам мы жыць ці ўміраць.*
*Зьмяя саграваецца ў зьмейцы,*
*Сьляза павісае на вейцы*
*І хутка ўпадзе на зямлю,*
*Якую таксама люблю*
*Ня меней, чым ты і індзейцы...*
*Зьмяя саграваецца ў зьмейцы,*
*Як нашая сьмерць у віне.*
*І ты зноў сьмяесься зь мяне,*
*Бо я малады і ня знаю,*
*Каго шчэ ў свой дом напускаю...*
*Зьмяя саграваецца ў зьмейцы...*
*Зьмяя саграваецца ў зьмейцы...*

***

*Дажджы. Халадэча. Хваробы.*
*І людзі, бы ў пляшцы амёбы,*
*Яшчэ ў гэтым сьвеце жывуць.*

*Хваробы. Дажджы. Халадэча.*
*І кожны з нас марыць аб Нечым,*
*Ды мары спакой не даюць.*

*Я сумны, як біты сабака.*
*Я сёньня над келіхам плакаў*
*І піў, як атруту, віно.*

*Дажджы. Халадэча. Хваробы.*
*І ў сьвеце няма ўжо Эўропы,*
*Ёсьць толькі ў Эўропу вакно.*

САМАГУБЦА

*Ты мёртвы, быццам дзень мінулы,*
*Што з памяці яшчэ ня зьнік.*
*Ты – вецер у вакзальных вулках,*
*Кудой прагрукацеў цягнік.*
*І гэта ноч, як дамавіна,*
*Сплыве з табою ў небыцьцё.*
*І будзе сумная жанчына*
*Зьбіраць апалае лісьцё*
*У вулках, дзе з табой бывала,*
*І будзе вогнішча паліць,*
*І будзе дым каля вакзала,*
*Нібыта прывід твой, хадзіць...*
*Чаго ты жыў – ніхто ня знае.*
*Нашто памёр – ня знаеш ты.*
*І кроў зь цябе, як грэх, сьцякае*
*На патаптаныя лісты.*

***

*Я грэшны, як вада, дзе сьпіць атрута,*
*І мне сьвятым ніколі ўжо ня стаць,*
*Ды я хачу таксама быць пачутым*
*Людзьмі і Богам, што на сьвет глядзяць,*
*Дзе я жыву і радасьці ня знаю,*
*Дзе я люблю і ненавіджу сьвет,*
*Што да канца ніколі не спазнаю,*
*Бо гэты сьвет – ня дым ад цыгарэт,*
*Што мы з табой, самотныя, курылі*
*У цеснай кухні і пілі віно,*
*І сьвет зь няведама чаго тварылі,*
*Хоць гэты сьвет нам створаны даўно.*
*Я грэшны, як вада, дзе сьпіць атрута,*
*І мне сьвятым ніколі ўжо ня стаць.*
*Жыве ўва мне, як сьмерць мая, Іуда,*
*Што знае час, калі мяне прадаць...*

***

*Нашым дыханьнем напоўнена неба,*
*І не ўцячы нам адсюль нікуды.*
*Зноў павуціны няўлоўнае срэбра*
*Сьветла плыве над прасторам жуды,*
*Па-над травой, што даўно пажаўцела,*
*Па-над дарогаю, што зарасла...*
*І павуціна над мной праляцела,*
*Як не ляцела і як не была.*
*І пахмурнела зьбяднелае неба,*
*І пачарнеў, нібы дым, далягляд.*
*Нашым спакоем напоўніцца глеба,*
*Быццам апалай лістотаю сад...*

# ВАЎЧЫНАЯ ЯМА

які ён заўсёды любіў, заслала на стол новы абрус. Аднак не хапіла хлеба, і ён вырашыў зьбегаць у хлебную краму на суседняй вуліцы. Гаспадыня дала яму грошай –дваццаць пяць рублёў у адной купюры, ён хутка купіў бохан хлеба і скіраваў дадому. Яму можна было ісьці наўпрост, цераз двор, каля дзіцячага садзіка, а можна па вуліцы, дзе на рагу мясьцілася тутэйшая забягалаўка з ласкаваю назвай «Уралачка». Не падумаўшы, ён пайшоў па вуліцы і каля забягалаўкі канешне ж наткнуўся на даўніх сяброў – аднавокага Юзя і Колю Валяўку. Тыя дужа ўзрадаваліся сустрэчы, бо ня бачыліся ад пачатку лета, і папыталіся, дзе быў. «Лячыўся, – сказаў ён. – У ЛТП». – «Ну, і як?» – «Парадак. І спраўку маю». Сябры дужа ажывелі – спраўку належала абмыць. Ён завагаўся, але тыя сказалі: «Ня бойся, можаш ня піць. Мы за цябе вып'ем». Як было адмовіць харошым мальцам выпіць за сябе, і ён зайшоў – на хвілінку. Тая «хвілінка», аднак, задоўжылася, ён выбраўся з «Уралачкі» недзе апоўначы ў дым п'яны, бяз грошай і бяз хлеба. Прадаўшчыца тры дні праплакала, а затым сабрала ягонае майно ў стары чамадан і выставіла яго на ганак. «Ты мне болей ня муж. Тым болей, мы не расьпісаныя»...

Пасьля былі й яшчэ жанчыны, добрыя і злыя, некаторыя спрабавалі перарабіць яго, адвучыць ад згубнае жарсьці. Былі яшчэ два ЛТП, адзін ганебны прысуд «да хіміі». І ўсё марна, без жаданага выніку. Былы нампатэх ня мог перамагчы ў сабе прагнага шэранькага пацучка, пацучок пасьлядоўна перамагаў нампатэха. Апошні пакутаваў, лаяў сябе за няўдачы й зрывы, але працягваў піць, спыніцца ён ужо ня меў сілы. Галоўнае – ня мог выскачыць з пэўнага кола сяброў. Кожны дзень ён быў на ўзводзе – за свае, заробленыя, ці на халяву, у доўг. Выпіць было куды лягчэй, чым прыдбаць паесьці, і ён часьцяком швэндаўся па вуліцах галодны, нэрвова напяты ад незадаволенага жаданьня ўсё таго ж – выпіць. Толькі апынуўшыся ў зоне, на абсалютнай адзіноце, неяк суняўся, можа, тут паспрыяла прырода, а можа, страх набрацца радыяцыі, хто ведае. Магчыма таксама, што справа ў прымітыўным ладзе жыцьця, дзе не было месца выпіўцы. Сапраўды, ніхто яго тут не падахвочваў, ня тузаў і не забараняў, тут ён круглы дзень пачуваўся свабодным, залежным толькі ад уласнае волі. А свабода, смак якой ён добра спазнаў у бамжоўстве, бы наркотык, цягнула яго да яшчэ большай свабоды. Здаецца, ужо тут яна стала абсалютнай, і ён акрыяў. Калі б толькі пра гэтую атамную зону ня спраўдзілася рознае страхоцьце – наконт радыяцыі, аблучэньня, радыёнуклідаў ды іх наступстваў. Але, думаў ён, хіба небясьпечная толькі зона? Хіба не хварэюць і не паміраюць воддаль ад яе – ад раку, сэрца, ад СНІДу нарэшце. І якая розьніца, ад чаго памерці, калі прыйдзе той час. Ён сам сто разоў мог загнуцца, але ягоны час, мабыць, яшчэ не настаў. А як настане, ён шкадаваць ня будзе. Бо такое было жыцьцё.

Раньняй вясной міліцыянты выкурылі іх з пустой закінутай дачы, дзе ён зь яшчэ адным небаракам перабылі зіму. Ды яшчэ навесілі на іх рабаўніцтва маёмасьці, якой яны й ня бачылі, бо дачу абрабавалі да іх. Менавіта тады ён рашыў – у зону! Мабыць, іншага месца на зямлі для яго не засталося. Прынамсі, падумалася, што ў зоне яго шукаць ня будуць, і ён пражыве там у спакоі, колькі дасьць Бог. Зноў жа ягоны напарнік, былы інструктар райкаму, сказаў, што ў зоне або адразу адкінеш капыты, або загартуесься, як сталь. Напарнік ведаў, бо ён сам паходзіў з раёну, які апынуўся ў зоне. Праўда, разам ехаць былы інструктар не захацеў, меў нейкія прычыны. Ён жа важкіх прычынаў ня меў і паехаў, як некалі ехалі на цаліну ці на БАМ. Губляць яму не было чаго, грошай ён ня меў, чым харчавацца ў зоне, інструктар яму не сказаў. Але ў яго прапацелай шапцы зь летняй пары тырчэў іржавы рыбны кручок, які яго й выручыў. Ужо ён бярог яго, той кручочак... Увогуле ля ракі ўлетку жыць было можна, ніхто яго тут не трывожыў, за два месяцы ён не спаткаў ніводнага чалавека. Беглы з часьці салдат быў першы, хто тут зь ім павітаўся, і ён быў хлопцу рады. Усё ж, мабыць, чалавек не павінен жыць у адзіноце, нават воўк адзін не жыве.

Вось каб толькі лепш пачувацца...

Дагэтуль у яго не было падставаў наракаць на здароўе, пачуваўся няблага нават на поўначы. Праўда, тады ён піў. А тут як вып'еш – раптам натрапіў ён на выразную думку, ад якой апошнім часам неяк зусім адвык. Во ў чым прычына, а ня ў той радыяцыі...

Раніцай; як толькі пачало шарэць, побач заварочаўся салдат, і бамж зразумеў, што той прачынаецца. Сам ён ляжаў моўчкі, ня маючы ахвоты ўставаць і нават размоваю парушаць ранішнюю цішыню лесу. Не расплюшчваючы вачэй, слухаў, як салдат падняўся, трохі пасядзеў, надзеў у рукавы бушлат.

– Пайду. Па агонь, – сказаў урэшце хлопец.

Бамж памаўчаў крыху. Тое рашэньне салдата не сказаць, каб было для яго нечаканкай, але не адазвалася й радасьцю. Дужа трывожліва было на душы ў бамжа, і ён спакваля папытаўся:

– І куды пойдзеш?

– А там хутар. За рэчкай.

– За зонай?

– За зонай.

Салдат пераабуўся, устаў, зрабіў сваю справу паблізу. Але ня йшоў. І бамж, набраўшы болей паветра ў балючыя грудзі, сказаў:

– Ты гэта... Можа, ня варта і вяртацца? Сюды...

– А куды ж? – павярнуўся да яго салдат. – Куды ж болей?

– Ну, ці мала куды. Сьвет вялікі.

– Сьвет вялікі, а месца няма. Счытай, для нас нідзе нет.

– Для нас нет, – пагадзіўся бамж і ледзьве стрымаўся, каб не заплакаць. Чамусьці сьлёзы падступілі да яго надта блізка, аж закруціла ў носе. Але кароткім намаганьнем ён стрымаў сябе.

Салдат ужо скочыў з абрыву, як бамж яго прыпыніў.

– Слухай... Ты гэта там... Ну, можа, хоць чакушачку? Ну, самагону, калі можа...

– Што?

– Ну, гэта... Выпіць мне, – слабым голасам патлумачыў бамж.

– Чаго захацеў! – няласкава азваўся салдат і хутка пайшоў берагам рэчкі.

*Заканчэньне ў наступным нумары.*

# ПРЫВАТНЫЯ АБВЕСТКІ

*Шаноўныя прыватныя рэкламадаўцы!*

*Працягваючы друкаваць бясплатныя абвесткі, мы пачынаем таксама друкаваць абвесткі большым шрыфтам і ў афармленым выглядзе, але за невялікую плату:*

*— да 20 словаў — 40 000 руб., звыш 20 словаў — 60 000 руб.;*

*— па-мастацку афармленая аб'ява (мінімальны памер рэкламнага модулю 18 кв. см.) — 180 000 руб.*

*Каб замовіць платную прыватную абвестку, трэба пералічыць грошы праз пошту пераводам на наступны разьліковы рахунак: Рэдакцыя газэты «Наша Ніва», р/р 3012213050010 Ленінскае аддз. «Белбізнесбанка» г.Мінска, код 763.*

*На зваротным баку блянку паштовага пераводу ў сэктары «Для пісьмовых паведамленьняў» запісваецца дакладна і чытэльна тэкст абвесткі, тэлефон для сувязі і АБАВЯЗКОВА ДАДАЕЦЦА СКАЗ: «ЗА РЭКЛЯМНЫЯ ПАСЛУГІ».*

*Калі дзейнасьць, якую вы рэклямуеце, падлягае ліцэнзаваньню, у абвестцы неабходна пазначыць нумар, дату выдачы і тэрмін дзеяньня ліцэнзіі, назву органа, які яе выдаў.*

*Друкуючы на старонках «НН» платныя абвесткі, вы спрыяеце выходу газэты.*

*Рэдакцыя*

Беларус, паэт, пазнаёміцца з прыгожай беларускай да 35 гадоў. Пра сябе баронячы свой гонар, на некалькі гадоў трапіў за краты. 222010, Менская вобласьць, Крупкі, вул. Кутузава, 7

Пазнаёмлюся з хлопцам 21-27 гадоў, бяз д/з. найперш — добрым сябрам. Вольга, 22/152/40. Захапленьні — прырода, жывёлы, вандраваньні. Пажадана фота (вярну). Менская вобласьць, Дзяржынск, вул. Фурманава, д. 9, кв. 20

Паважаныя фэны гуртоў «НРМ», «Новае неба», «Палац», «Тройца»! Пішыце, тэлефануйце! 220023, Менск, Валгаградзкая 21-13. Тэл.: 263-19-28, Kate

Віншуем берасьцейскіх народнафронтаўцаў з 10-годзьдзем утварэньня арганізацыі. Малады фронт Берасьця

Рок-гурт шукае сьпевака (сьпявачку) і бубнача. Тэл.: 249-04-19 (Міша) і 275-04-31 (Андрэй)

Прашу адгукнуцца чытачоў «НН» з Баранавічаў. Тэл.: 229-64, Тацяна

Тэрмінова патрэбная добра аплочваная праца (в/а экан., ПК, 4,5 г. стажу, правы кат. В, курсы бух. уліку). Тэл.: 277-59-18, Стась

Маю на продаж больш за 90 найменьняў запісаў беларускіх гуртоў, бардаў; значкі, каляндарыкі, плякаты, майкі NRM, тэксты з акордамі гурта «Камэлот», кнігі Л.Геніюш, В.Быкаў «Сьцяна», «Уводзіны ў археалёгію» і інш. Шукаю распаўсюднікаў зь іншых гарадоў. 220085, Менск, а/с 5. Тэл.: (017) 249-08-88. Віталь

№3 газэты «Сымболь». Ахвотныя атрымаць, дашлеце свой адрас і паштовую марку. Запрашаем аўтараў. А/с 50, Менск, 220037

Калі ты любіш Беларусь, захапляесься беларускім рокам і прагнеш змаганьня, прыходзь штоцацьвер на адрас: Менск, Варвашэні, 8 на паседжаньні «Маладога фронту». Тэл.: 284-50-12

Тэрмінова здыму пакой. Тэл.: 271-23-63

Запрашаем на зіму Дзядзьку-Дырэктара для хлопца школьнага веку (за мяжой). Прапануем жыльлё, харчаваньне, зарплату. Першая палова дня вольная. Тэлефануйце ў Прагу: 8 10 4202 + 24 3145 69.

## КУПОН БЯСПЛАТНЫЯ ПРЫВАТНЫЯ АБВЕСТКІ

Тэкст_______________________________________________

_______________________________________________

_______________________________________________

_______________________________________________

Імя і прозьвішча_______________ Адрас, тэлефон_______________

Запоўніце гэты купон і мы надрукуем Вашу абвестку (ня больш за 15 словаў) бясплатна. 220123, а/с 71

# Новыя кнігі, дасланыя ў рэдакцыю

Адамовіч Я. Гармонія абставін – гармонія душы: Беларускае апавяданьне 50-60-х гадоў. – Менск: Беларуская навука, 1998. – 159 с. – Наклад 800 ас. ISBN 985-08-0228-6

Брыгадзін П., Мацяс І. Усевалад Ігнатоўскі: Палітычны дзеяч, вучоны. – Менск: Полымя, 1998. – 96 с.: іл. – (Нашы славутыя землякі) – Наклад 3000 ас. ISBN 985-07-0278-8

Брыль Я. Цуды ў хаціне: Апавяданьні: Для малодшага школьнага веку / Мастак М. Будавей. – Менск: Юнацтва, 1998. – 111 с.: іл. – Наклад 3000 ас. ISBN 985-05-0231-2

Бярозкіна Н. Гісторыя кнігадрукаваньня Беларусі (XIX – пач. XX ст.) – Менск: Беларуская навука, 1998. – 199 с.: іл. –Наклад 1600 ас. ISBN 985-08-0247-2

Кантакты і дыялёгі. Інфармацыйна-аналітычны і культуралягічны бюлетэнь Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў і Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі. –№9(33). Верасень 1998 г. – Менск. – 56 с. – Наклад 299 ас.

Карызна У. Ііграй, жалейка, не змаўкай...: Вершы, казкі, паэмы, загадкі, небыліцы: Для дашк. і малодш. школьнага веку / Мастак Т. Беразенская. – Менск: Юнацтва, 1998. – 267 с.: іл. – Наклад 5000 ас. ISBN 985-05-0144-8

Марчук Г. Крык на хутары. Кветкі правінцыі: Раманы / Для ст. школьн. веку. Мастакі Л. Кузьміч, А. Кажаноўскі. – Менск: Юнацтва, 1998. – 494 с.: іл. – (Школьная бібліятэка) – Наклад 19500 ас. ISBN 985-05-0255-X

Роднасьць: Анталёгія братэрства. Зб. вершаў, літ., публіцыст. эсэ беларускіх і расейскіх пісьменьнікаў / Склад. Г. Пашкоў, Б. Спрынчан; Пад рэд. А. Сідарэвіч; Мастак Ю. Тарэеў. – Менск: БелЭН, 1998. – 440 с.: іл. (на бел. і рас. мовах). – Наклад 3000 ас. ISBN 985-11-0121-4

Чацьвёртая ўлада. Бюлетэнь Беларускай Асацыяцыі Журналістаў. – №9, 1998. – Менск. – 36 с. – Наклад 299 ас.

480 год беларускага кнігадрукаваньня: Матэрыялы Трэціх Скарынаўскіх чытаньняў / Гал. рэдактар А. Мальдзіс і інш. –Менск: Беларуская навука, 1998. – 272 с. – (Беларусіка / Albaruthenica; Кн. 9) – Наклад 300 ас. ISBN 985-08-0246-6

Иллюстрированная хронология истории Беларуси с древности и до наших дней / БелЭН: гал. рэдактар БелЭН: Г. Пашкоў (гал. рэд.) і іншыя: Уклад. Хаўратовіч; Маст. Э. Жакевіч. – Менск: БелЭН, 1998. – 424 с.: іл. – Наклад 500 ас. ISBN 985-11-0116-8








## БЕЛАРУСКАЯ РЭДАКЦЫЯ ПОЛЬСКАГА РАДЫЁ

Беларуская Рэдакцыя (Служба) Польскага Радыё дзейнічае ў структурах праграмы для замежжа Польскага Грамадзкага Радыё, перадачы якога на розных мовах даходзяць да слухачоў ва ўсім сьвеце. Нашай задачай зьяўляецца распаўсюджваньне незалежнай аб'ектыўнай інфармацыі пра Польшчу й польскага пункту гледжаньня на падзеі ў сьвеце.

Перадачы Пятай Праграмы Польскага Радыё выходзяць штодзённа на 10 мовах (беларуская, польская, украінская, расейская, летувіская, ангельская, нямецкая, эспэранта, чэская, славацкая) на кароткіх і сярэдніх хвалях, па спадарожніку, пры дапамозе кабэльнай сувязі, наземных трансьляцыяў ды праз Інтэрнэт-аўдыё.

**ПУБЛІЦЫСТЫКА:**
Тыдзень у сьвеце 20.00 ндз, 6.00 пн;
Тыдзень у Польшчы 20.00 сб, 14.30 ндз;
Тыдзень у карэспандэнцыях з Горадні, Вільні, Віцебску 16.30, 20.00 ндз;
Ад панядзелку да нядзелі – інфармацыйны блёк 20.00 ндз;
Штодзённы камэнтар 6.00, 11.00, 20.00;
Рэзананс 20.00 ндз, 16.30 пн;
Акно – Беларусь у сьвеце 17.00 чац;
Скрыжаваньне думак (польска-беларускія дачыненьні) 20.00 сб, 11.00, 14.30 ндз;

**АКТУАЛІІ:**
Навіны 14.30*, 16.30, 17.00, 20.00;
Карэспандэнцыі зь Беларусі 6.00, 11.00, 16.30, 17.00, 20.00;
Агляды прэсы 14.30;
Польская прэса пра Беларусь 20.00;
Найцікавейшы сюжэт дня 20.00 пн*, 16.30;

**КУЛЬТУРА І ЛІТАРАТУРА:**
Беларуская эміграцыйная пісьмовасьць 20.00 ндз, 11.00, 16.30 пн;
Бабілёнская бібліятэка 16.30, 17.00 пн;
Агляд тыднёвіка «Ніва» 20.00 пн, 6.00, 14.30 аўт;
Агляд выданьняў «Часопіс» і «Пшэглёнд праваслаўны» 20.00 сер***, 11.00, 16.30 чац***;
Культурныя Актуаліі 20.00 сер, 6.00, 14.30 чац;
Гартаючы Культурныя Старонкі 20.00 сер, 6.00, 14.30 чац;
Беларуская эміграцыя пра нацыянальную мову 20.00 чац, 11.00, 16.30 пт;
Ад Бібліі да беларускай літаратуры 20.00 сб, 11.00, 16.30 ндз;
Жыцьцяпіс (літаратурная перадача) 16.30, 17.00 пт;
Погляд з партэру (тэатральная перадача) 16.30, 17.00 ндз;

**КАРЫСНАЕ, ЦІКАВАЕ, ЗАБАЎНАЕ:**
Усякая ўсячына 20.00 пн, 11.00, 14.30, 16.30 аўт;
Юрыспрудэнцыя 16.30, 17.00 аўт;
Эканоміка Польшчы 20.00 аўт, 11.00, 14.30 сер;
Інтарэс (эканамічны выпуск) 16.30 аўт;
Кроніка спорту 20.00 аўт, 6.00 сер;
Цівіркун (дзіцячая перадача) 20.00 сер, 11.00, 16.30 чац;
Навука і тэхніка 20.00 чац, 6.00, 14.30 пт;
Урок польскай мовы 20.00 пт, 6.00, 14.30 сб;
Сьмех ды й годзе (гумар) 20.00 пт, 11.00, 16.30 сб;
Рэдакцыйная пошта 16.30 сб, 6.00, 14.30 ндз;
Рэлігійная гутарка 6.00 ндз;

**МУЗЫКА:**
Канцэрт віншаваньняў 17.30 ндз, 6.00, 14.30 пн;
Музычны выпуск 11.00, 16.30 пн, 20.00 ндз;
Пра-рок (музычная праграма) 16.30, 17.00 сб.
Умоўныя азначэньні: * 6.00 – гадзіны перадачаў паводле менскага часу; ** пн – панядзелак, аўт – аўторак, сер – серада, чац – чацьвер, пт – пятніца, сб – субота, ндз – нядзеля; *** трэці тыдзень месяца; пры штодзённых перадачах дні тыдня не зазначаныя.

НА КАРОТКІХ ХВАЛЯХ

| | | | |
|---|---|---|---|
| **14.30** | **41,18 м** | **50,04 м 7285 кГц** | **5995 кГц** |
| **16.30** | **41,27 м** | **49,22 м 7270 кГц** | **6095 кГц** |
| **20.00** | **41,78 м** | **48,00 м 7180 кГц** | **6250 кГц** |

ПА СПАДАРОЖНІКУ **(EUTELSAT II F-6 Hot Bird)**
**6.00 11.00 17.00**
**13 градусаў усходняй даўжыні, адлаведная частата 11,474 Ггц; гарызантальная палярызацыя, нясучая гуку (аўдыё) 7,38 Мгц**

**НАШЫЯ АДРАСЫ:**
Праграма для замежжа 00-977 Варшава P.O.
box 46 Польшча
Юрасю Корбану 210038 Віцебск 38 п/с 5 Беларусь
http://www.radio.com.pl/piatka
lobatiuk@radio.com.pl
ajny@radio.com.pl
(+4822) 645-93-67; 645-92-82 fax: (+4822) 645-59-17




*Рыхтуецца выданьне альбому Міхася Раманюка*

**«Беларускія народныя крыжы»**

Новая ілюстраваная манаграфія Міхася Раманюка. За 25 гадоў вандровак па ўсіх рэгіёнах Беларусі Міхась Раманюк сабраў мноства зьвестак пра непаўторныя асаблівасьці беларускага пахавальна-памінальнага абраду, зрабіў тысячы ўнікальных фотаздымкаў надмагільных і абракальных беларускіх крыжоў і магілаў, сабраў вусныя сьведчаньні старых людзей. На падставе гэтых дакумантаў зробленая поўная сыстэматызацыя й клясыфікацыя ўсіх формаў і функцыяў крыжоў, месцаў іх устаноўкі па ўсёй Беларусі. Аналягаў гэткага выданьня няма ў нашых суседзяў, а ў Беларусі й ня будзе, бо носьбіты аўтэнтычнае традыцыі адыходзяць у нябыт, а большасьць прадстаўленых помнікаў страчана незваротна... Альбом зьмяшчае больш за 150 аўтарскіх здымкаў і замалёвак. Аб'ём 100 старонак, фармат 24х30 см. Мы зьвяртаемся да ўсіх, хто зацікаўлены ў пашырэньні традыцыйнае беларускае культуры, з просьбай паспрыяць выданьню кнігі. Бяз Вашае дапамогі выданьне будзе немагчымае.

Адрас для імянных чэкаў і пошты: *Ramaniuk Dzianis, a/d 2566, Vilnius, 2009, Lithuania.*


«Наша Ніва» незалежная газэта заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991. Галоўны рэдактар Сяргей Дубавец. Выдавец: рэдакцыя газэты «Наша Ніва». Заснавальнік Павал Жук. Мастацкі рэдактар Сяргей Харэўскі. Макет Віктар Корзун. Адрас для допісаў: 220050 Менск а/с 537. Tel/fax (017) 227-78-92 E-mail: niva@user.unibel.by http://members.xoom.com/Nasa_Niva.





Наклад 4995. 8 палос фарматам А2 нумар падпісаны ў друк 21[25], 25.10.1998. Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Менск, праспэкт Францішка Скарыны, 79. Замова N6247

Кошт свабодны.

Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня N 581 ад 4-га ліпеня 1996 г. выдадзеная Дзяржаўным камітэтам друку Рэспублікі Беларусі. Юрыдычны адрас: г. Менск, пр. газеты «Известия», д. 8, кв. 173.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12